## З М Е С Т

**Архіў. Эпісталярыя**

## Ад укладальніка

Попыт на беларускае ў маскоўскім, расійскім абсягу апошнім часам прыкметна падвышаецца. Краіна сінявокая выявамі «неизвестной», «удивительной» што раз часцей прываблівае расійскага чытача. Хаця - пераважна прапагандова-пафаснымі публікацыямі кшталту «общего корня», «общей истории», «общей судьбы», а нават «общего государства».

Нельга не запярэчыць: «у нас судьбы разные», розныя гістарычныя лёсы, нацыянальна-культуровыя тоеснасці, інакшыя пакліканні ў цывілізацыйным поступе краін і народаў. Што не падважвае, хутчэй абагачае прыязнае суіснаванне-збліжэнне дзвюх суседніх - беларускае і расійскае - супольнасцей. Гэтым чыннікам крэўнасці й непадобнасці і абумоўлена падборка адпаведных тэкстаў беларускіх і расійскіх аўтараў пад вокладкай чарговага «Скарыніча». - Прапануемага чытачу помным годам Беларускае Народнае Рэспублікі, яе жыццетворным, вяснова-сакавіцкім і «бел-чырвона-белым» матывам на вызвольным Шляху Беларускім.

Адносна публікуемых тэкстаў. Не адзін з іх патрабаваў бы належнага (навуковага) каментара, да чаго раней намаўлялі ўкладальніка патрабавальныя чытачы (выданне ж, маўляў, навуковае). Мушу патлумачыцца. Наш нялічны, адукаваны чытач - дастаткова абазнаны ў гісторыі, культуры Беларусі. Пэўна без удакладненняў сцяміць, што старажытная «Літва» не захоплівала беларускія землі, што граматнасць у дарэвалюцыйнай Беларусі не была занадта мізэрнай, што «самавызначэнне» расійскіх казакаў, сібіракоў і Беларусі - справы далёка не сузалежныя і г.д.

Абаронімся, урэшце, паэтычным выслоўем - «Каждый пишет, как он дышет». Спагадаючы - крытычна - дыханню й спадзяванню таго ці іншага аўтара.

Не выпадае, пад завяршэнне, удзячна не пахіліцца перад маімі расійскімі калегамі, сябрамі і ўдзельнікам, і спрыяльнікам і гэтага «скарынаўскага» праекта. Беларускія ж хаўруснікі - з рацыі іх пракавечнае сціпласці - абыйдуцца без падзякі, хаця вельмі-вельмі яе вартыя.

І так, чытайма, разважайма, веруйма.

## **Пацалунак Велікодным яйкам**
З "Хронікі Быхаўца"

(...) И в тыи часы князь велики Олгерд Гидыминович литовский и руский, справуючы радне господарство свое, и не малы час пановал у Великом князстве Литовском, и был в докончании и в доброй прыязни з великим князем Дмитрием Ивановичем московским. Которы же князь велики без кождое прычыны, опустившы докончания и прыязнь, и прыслал до великого князя Олгерда посла своего со одповедию, а прыслал к нему огонь и саблю, и даючы ему видати, што «буду в земли твоей по красной весне, по тихому лету». И князь велики Олгерд вынял с огнива губку а кремень, и, запалившы губку, дал послу, а рек так: «Дай то господару и поведай ему, што у нас в Литве огонь есть, же бо он одказывает до мене, хотячы в моей земли быти по красной весне а по тихому лету. А я дасть Бог в него буду на Велик день, а поцалую его красным яйцом — через шчыт сулицою, а з Бо-жыю помочыю к городу его Москве копие свое прыслоню; бо не то(й) *валечник**, што часу подобного вальчыт, але то(й) валечник, коли непогода вальки, тогды над непрыятелем своим непрыязни *доводит***». И одпустившы посла и собравшы войска свои вси литовские и руские, и пошол з Витебска просто ку Москве. И на самы Велики день рано князь велики со бояры и со князи от зав(у)трыни идет з церкви, а князь велики Олгирд со всими силами своими, роспустившы хоругви свои, вказался на Поклонной горе.

И видячы то князь велики московски и впаде в страх велик и ужасеся, видячы великого князя Олгерда з великою силою его, иж прышол на него так моцне а сильне подлуг слова своего. И не могучы ему жадного одпору вчынити, и послал до него, просячы его и великие дары ему обицаючи, абы его з ойчызны его Москвы не выгнал, а гнев бы свой одпустил, и взял бы в него, што хотел.

И князь велики Олгерд сожалися, и ласку свою вчынил, и з Москвы его не добывал, и мир с ним взял. А затым, змову вчынившы, и сам князь велики московски к нему выехал и с ним виделся, и дары многими безчысленне, золота, серебра и дорогим жемчугом, и собольми и инным дорогим а дивным зверем мохнатым князя великого Олгерда даровал, и шкоду, которую он прынял в земли его идучы, ему *заступил****. И затым князь велики Олгерд рек князю великому московскому: «Ачкольвек есми з тобою перемирылся, але ми ся иначей вчинить не годит, только мушу под городом твоим Москвою копие свое прыслонити, а туую славу вчынити, што велики князь литовски и руски, и жо-мойтски Олгерд копие свое под Москвою прыслонил». И вшед-шы сам на конь, и копие вземшы в руку, и прыехавшы ко городу и копие свое к стени прыслонил, и едучы назад рекл так великим голосом: «Княже велики московски! Паметай то, што копие литовское стояло под Москвою». А затым князь велики Олгерд со всими войски своими и з великою честию, и з многим полоном, и з невымовным добытком, звоевавшы и городы многий побравшы, и границу вчынил по Можайск а по Коломну, и много людей поплленившы, и со всими людми своими в целости во свояси отиде (...).

---

*	баец, ваяўнік
**	чыніць
***	пакрыў

*Паводле: Полное собрание русских летописей. Т.32.*
*Составитель и редактор тома Н.Н.Улащик. М., 1975*

***Сімяон Полацкі***

## Слова, яже Христос распятый на крестѣ мовил до Бога Отца

О т ч е ! о т п у с т и и м , н е в ѣ д я т б о , ч т о т в о р я т

1.

О Христе спасе, спасе добротливый
О як на помсту ничто-с нескваплывый.
Мы за злость нашу смерти ожидали,
Ты отпущаеш. О то мы слышали.
Тѣм же падаем пред тя со слезами
И еще просим: смилуйся над нами!
А якось рачил грѣхи отпустити,
Такожде изволь и казнь отвратити.
Ею же люд твой от всюду стисненый
Всякими бѣды, всяко утрапленый.
Взбуди жаль в сердца да плачемся тебе
Днесь погребена плачемся и себе.
Просим тя, Христе, просим со слезами,
Казнь отвративши, смилуйся над нами!

2.

О, Пеликане, о лебедю милый!
Да всих спасеши, всих порушил силы.
Кров свою гойнѣ схотѣл пролитии,
Абысь могл чада мертва оживити.
А яко лебедь жалостно спѣваеш,
Пре тя хотящих спастися спасаеш.
Со сими збойца Бога тебе знает.
- Вспомни мя в царстве своем, - возывает.

Д н е с ь с о м н о ю б у д е ш и в р а и

О Исусе сладкий, Исусе дражайший,
О яко в любви ко грѣшным множайший.
Ледво тя збойца бога взнавает,
А любовь твоя юж грѣх отпущает,
И не только му грѣхи отпустилесь,
Но ту ж з собою в небо впровадилесь.
О Христе спасе, Исусе сладчайший,
Гды над твоим гробом плач творим множайший.
И мы тя, Бога, вѣрно вызнаваем,
Просичи слезно даннѣ дознаем
Любве твоея, еже отпустити
Все грѣхи наши и в рай впровадити.
Як в раи будем, гды утолиш брани,
Мир Твоим верным даси пожаданый.

Просим Тя, Христе, просим со слезами,
Грѣх прости, мир даждь, просим со слезами.

3.

Владцо вшеляких и вся исполняя,
В горсти единой весь свѣт содержаяй,
Чему жесь нынѣ от всѣх оставленный,
Од сродник ближних чему ж опущены?
Гдѣ есть избранных собор, ученик
Науки Твоей, народ наслѣдник?
Вси, Христе, видим нынѣ оставили,
Егда Тя врази до креста прибили.
Любимый токмо ученик и мати,
И та од жалю ледво может стати:
Едину Тебе утѣху имѣела,
А днесь, позбывши, юж осѣротѣела.

Жено! се сын твой, се мати твоя

О Исусе спасе, спасе добротливый,
О як своих надтось фрасовливый,
Иж Тебе болѣзнь всяко обыймает,
Заледво душа во плоти зостает.
Вся члонки на крест срокго растягнены,
Яко на гуслѣх струны натягнены.
Глава зранена, плоть страшно шарпано,
Руки и ноги гвоздми покопано,
Очи и уста кровъю заплынули,
Згола вси страсти на Тя ся спихнули.
Но в тяжких муках свых не опущаеш,
Бо матку учню учня еи вручаеш.
О Христе спасе, спасе добротливый,
О спасению всѣх нас фрасовливый.
А нас кому днесь сирых оставляеш?
Кому в опеку нуждных полецаеш?
Ото от всюду бѣды на нас встают:
Мечь, огнь, голод смертю погражают.
Кому нас, кому рачиш оставляти?
До кого в бѣдах маем утѣкати?
Се ко Твоему гробу прибѣгаем,
А тебе, Христе, моцно умаляем
И слезно просим: будь нам милостивый,
Не опущай нас в сей час, ох страшливый!
О Исусе агнче, агнче незлобивый,
И земляй грѣх мира агнче терпеливый.
О яко ж страждеш, кто ж может сказати?
Вспомнявши, мусит, сердце ся подати.
Немо створене и то Тя ридает.
Луна и солнце в кровь ся премѣнает.
Вси елемента в жалость ся прибрали.
Рвуться од жалю и твердыя скалы,

Егда Тя видят страстми уморена,
На крест прибита од всех упущена.
В окрутных муках нѣсть кто утѣшает,
Гды ж тя и сам Бог в тот час опущает.

Б о ж е , м о й Б о ж е , в о с к у ю м я о с т а в и !

Ах мой Исусе, Боже добротливый,
Ты-сь человек правый, Ты-сь и Бог правдивый!
А гды Тя болѣсть окрутно змогает,
Душа пречиста з тѣлом ся растает.
О як жалоснѣ до отца волаеш,
Боже мой, Боже, чем мя оставляеш?
О Христе Боже, Боже добротливый,
А мы што чиним в сей час нещасливый?
Юж бѣды розны на нас ся взмогают,
Юж нендзну душу кгвалтом вытискают.
Тылко до Тебе мусимо волати,
Боже наш, Боже, не рач опущати.
И як ты, Христе, не просто волалесь
В болѣстях своих то не роспачалесь,
Но восхотѣлесь то нам показати,
Як в бѣдах маем до Тебе волати,
Так и мы нынѣ ничто распочаем,
Но Тебе, Христе, силно упрашаем,
Котры-сь изволил бытии опущенный,
Абы з нас жаден не был погублены.
Не опущай нас, но будь завжды с нами,
Просим Тя, Христе, просим со слезами!

5.

Христе Исусе, Исусе сладчайший!
Боль Тя змогает им далесь множайший.
Иисус, як снопок миры, вывышенный
На солнци, егда бывает сушенный.
Так плоть пречиста Твоя высушена,
Егда на крестѣ нага повешена.
И вся красота в темность премѣнила,
Свѣтлости ока юже-сь затмила.
Лице зчернѣло, устнѣ закипели,
От многой жажды, правѣ, погорели.
А что же еще болѣ быти мѣло?
Юж ся пророцство всякое сполнило.

5 . Ж а ж д у

Бездна вод живых – Христе добротливы,
Присно текущий источниче живый,
Чи давно всѣх нас до себе взывалесь
От вод животных гойнѣ напоялесь?
А о то той же на крест вознесенны

В окрутных болѣх жаждею зморенны.
Но Христе спасе, что ино жаждаеш
Пити еже есть, кгды нас оглядаеш?
Похотей свѣта, жаждею зморенных,
Жаждеш имѣти к себѣ наверненых.
Видиш жаждущих роскошами свѣта,
Чести, богатством. Жити много лѣта
Тѣм же Ти жаждеш, хощеш позыскати,
Дай не будет в жаждѣ погибати.
О Христе спасе, источниче живый,
Жаждущим жизнь напою правдивый!
Призри на нас, днесь бѣдами стисненых,
Розных утисков жаждею зморених!
Боязнь от врагов што день нападает,
Ганебно смерти страх жажду задает.
Юж от сей жажды ледво душу маем,
Не живем, рачей, што день умираем.
О море, о бездно, Христе добротливый,
О глубино вод источниче живый!
З вѣрою к гробу Твоему прибѣгаем,
Дай жаждѣ нашей охладу; приимаем,
Ибо в нем видим правдиву опоку,
Из нея воду с пречистаго боку.
Просим Тя слезно: даждь пити во охладу,
Дай жаждѣ нашей, имѣем отраду.
И паки просим, просим со слезами:
Умилосердися, о Христе, над нами!

6.

О Христе боже, Боже пред ся вѣки,
О якось много терпѣл для чловеки:
Былесь проданы, пойман и вязаны,
Винным осужден и выдан на раны,
З шаты обнажен в пурпур одѣяно
Но посмѣх а к столпу наго привязано,
Кровъю сплынулесь такось катованы,
Терновым вѣнцем на смѣх увѣнчаны.
Горше над збойцу Тебе осудили.
Ах, як окрутне до креста прибили.
От князей старец спроснѣ награваны,
А в жажде Твоей Отцом напоены.
Что еще болѣ быти мает
До Твоей страсти, чого не достает?

С о в е р ш и ш и с я

О Христе Боже, Боже прежде вѣка,
Якось дорого откупил человека.
Не дость ли было нарожденным быти?
При обрѣзаню не дость кровь пролити?
Не досить было от раба крещенным

Четыредесят дней чрез пост умерщвленным?
Не досит было в бѣдах вѣк свой жити,
Згола потреба страсти было терпѣти,
Котрую нынѣ юже совершилась,
А нас от вѣчной смерти откупилесь?
О Христе спасе, еще тебе просим,
Падши ко гробу, плачь и вопль приносим, -
Дай бѣд наших юже наконец стает
И мечь болѣй кровь да не проливает!
Вѣмы, иж еще твердь справедливости
Не досит стала, ах, за наши злости.
Но сам дость чиниш, гдысь схотѣл страдати
И, яко видим, за нас умирати.
Умилосердися! Плачливѣ волаем,
Да лютых кремень уже конец маем.

7.

О Исусе Христе, человече справедливый,
Вѣру имѣем, ты еси Бог живый!
А як Тя болѣсть окрутна змогает,
Же во всѣх члонках сила уступает.
Уже и главу на дол преклоняеш,
Снать, мой Исусе духа испущаеш.

Отче! в руце Твои предаю дух мой

Увы нам, увы! Тепер юж спѣвати.
Ах, ах нам грешным, мусим придати.
Егда живот наш, Спасе, умираеш
А Богу Отцу в руки дух предаеш.
Увы нам, увы! Что дѣлати маем?
К кому сироты в бѣдах прибѣгаем?
Ко Отцу ли Твоему? И той загнѣваны,
О то и Сына выдал Тя на раны.
Дух святый и той на то зезволяет,
Да Сын, як человек, за люд умирает.
Увы нам грѣшным! Увы опущеным!
Увы сиротам! Увы оставленым!
Ах! До кого ж и я маѣм утѣкати?
Токмо до Тебе, о Божия Мати!
Но и ты, Дево, правѣ, умираеш,
Кгды Твоего Сына мертва оглядаеш.
Утробу твою паненску пронзают
Мечи, болѣсти сердце проникают,
В пречистых члонках вся сила устала.
Юж быст умерла, бы тя не вспирала.
Благодать Сына юже ти кликает
Да до множайшых послуг заховает.
За их же Тебе мает увѣнчати,
Гды одесную будет пасаждати.
Тѣм же вси грѣшнии к Тебѣ прибегаем.

Прими нас, прими! – плачливе волаем.
О Мати Богу, небесна царице,
Ангел, госпоже, о свѣту деннице,
Грѣшным утѣчко, скорбящим охладо,
В трудах и бѣдах бременным охладо,
Будь нам помощи и встався за нами
До своего Сына! – просим со слезами, -
Да отвратит брань и гнѣв на поганы,
А православным даст мир пожаданый.

Е п и л о г у с

Христе Исусе, Исусе сладчайший,
О якось в любве ко грѣшным множайший.
А так велице грѣшным возлюбилесь,
Же аж до конца оных улюбилесь.
А конца смерти, смерти наиспроснѣйшой,
Смерти крижовой, смерти пакоснѣйшой, -
Ах так окрутне рачил пострадати, -
Вспомнивши, мусить сердца ся подати,
Что-сь мы юж з жальм многим уважали,
Невинной смерти горко ся плакали.
Тепер, наконец, на раны взбираем
А чюдячися так в собѣ внимаем:
Почто Ти глава тернем увѣнчана,
Быстрыми осты сквозѣ прокопана,
Зѣницы ока в темност премѣнили,
Страшно запали и кровю заплыли,
Уста, которыя правду научали,
Желч, оцет и кровь почто их заляли?
Бок Твой пречистый копием пробито,
Кровь и вода восплыла обфито?
Руки святыя, что пробиты сквозѣ
Острыми гвоздми, такожде и нозѣ,
И все Ти тѣло окрутнѣ зранили,
А на жаль болший нага оставили?
Згола, гдѣ глянеш, кровь всюду стѣкает,
Плоть пошарпана, струпом ся зливает.
Ах мой Исусе! Гды шире внимаем,
Грѣх то наш справил, з жалем вызнаваем.
Пыха тя наша тернем увѣнчана,
Высоку умность главу покопала,
Очи безбожна ненависть покрила,
Проклята зайзрость зѣницы затмила.
Бриткое панество чашу наполняет
Оцта и желчи в уста ти вливает.
Руки святые лакомство прорило,
Тако ж и ноги оно же прибило.
Бок Твой пречистый помста отворяет,
А гнѣв на блаженых до сердца пронзает.
Не в стыд нечистота з шат тя обнажила,

А по всем тѣле окрутне зранила.
Згола мы Тебе на смерть осудили
И здѣ во темном гробѣ положили.
Увы нам грѣшным! Увы нещасливым!
Просим Тя, Христе, с плачем жалосливым:
Прости нас, ибо-сь хотѣл пострадати!
Да самый смерти будем благодати.
Прости нас, прости! Се главы склоняем
И вас, слухачов, до того ж взываем.
Ближей ко гробу з жалем приступите,
Страсть, смерть господню набожнѣ внемлите!
А так той народ, которыя были
При крестѣ и смѣрть господню видѣли,
Билися в перси, Богом вызнавали,
З жалосным сердцем в домы ся вертали,
Так и вы днесь смерть господню внимайте,
Биюще в перси, слезы проливайте,
И плоть святую з вѣрою лобзите,
З жалем сердечным в домы отходите.
А гды з вас кожды плоть святую лобзает,
Пѣснь нагробную даст нам спѣвает.

С т и х и у т ѣ ш н ы и к л и ц у е д и н о м у

Кто хощет людей на свѣтѣ познати,
Изволь о умных мене вопрошати.
Сам я не дурак, да блюдусь сказати,
Чтоб мене вверх не хотѣли взяти.
Видете мене, как я муж отраден,
Возростом велик и умом изряден?
Кто ся со мною может поровнати,
Развѣ из мертвых Голиафу встати?
Ума излишком, аж нѣгде дѣвати, -
Купи кто хочет, а я рад продати.
Вся глава умом велми ся наткана,
А мозгу мало, что мѣста не стало.
Времем сквозь нос разум вытекает,
Да Семен умен – языком приймает.
А сколько силы, не можно сказати:
Лва на бумагу мощно мнѣ раздрати.
Другий то Сампсон, да нет с ким побится:
Кого вызову – всяк мене боится.
Да кто с богатиром боротся посмѣет:
Мечем, пистолми – все Семен умѣет.
Мнози видают, как сильно борюся,
Когда с рубашки в вечер раздегнуся.
Не один недруг тогда погибает,
А кровь от ногтей и в очи плискает.
По такой битвѣ, рад я спочиваю
На мяккой лавкѣ. Так трудов збываю.
Все мне по мысли. Одно то в печали,

Что злые людѣ женится не дали.
Зависть проклята. Гдѣ мене полюбят,
Там злые людѣ тот час мя разгудят.
Кто таков, как я, - да щастя не многа.
Оженитя мя, молю вас для Бога!
Ручайте! Есть с чим молодец дороден,
Есть што есть и пить, и велми заводен.
Свое полаты за печью имѣю,
А про богатство хвалится не смею,
Чтоб вор не окрал. А стану дарити,
Кто мя изволит скоро оженити.
И буду ему праведно служити:
Хлѣб дармо ести и вино добрѣ пити.

*Паводле: Хрэстаматыя старажытнай беларускай літаратуры. Мінск, 1959.*

## Из истории русского театра

Белорусское начало в становлении новой русской культуры зачастую осложняется общими отсылками на западное, чаще польское влияние, которое и географически и культурно-типологически не обходилось без посредничества Беларуси. Сказанное не умаляет, но лишь оттеняет историческую логику и прямых заимствований с Запада. В данной связи невольно напрашивается уточнение к замечанию историка М.О. Ключевского: «Западноевропейская культура пришла в Россию в одежде польского монаха, музыканта, ученого». Правда, в другом месте он же указывает на посредническую роль «*западнорусского* монаха» латинской учености, первого проводника западной науки, призванного в Москву. Речь идет о белорусе Симеоне Полоцком, творческое подвижничество которого составило эпоху в традициях российского просветительства, включая театр. Поэтические, драматургические опыты автора «Ветрограда многоцветного» знаменовали новое литературное направление, в сочетании с его педагогической, издательской деятельностью, вариант «своеобразного русского Возрождения».

Но еще раньше на творческой ниве московской Руси заявил о себе другой, а точнее, *первый* именитый полотчанин – Франциск Скорина, просветитель-гуманист, переводчик-издатель первопечатной в восточнославянском ареале «Бивлии руской», нескольких богослужебных книг, увидевших свет в Праге чешской (1519—1520), Вильне (1522—1525). Жизненные одиссеи белорусского аргонавта, отмеченные тогдашними центрами европейского Возрождения (Краков, Падуя, Прага, Кенигсберг (ныне Калининград), не обошли, по некоторым, не вполне доказанным сведениям, и Москву. Хотя в русской столице и был он встречен, как предполагают, далеко не благожелательно. Но со временем скорининские издания в московской Руси стали весьма распространенными и почитаемыми, о чем столетие спустя засвидетельствовал польский писатель-путешественник С. Старовольский: «видел в Москве и тут всюду на Руси много книг, переведенных на славянский язык доктором Франциском Скориною».

Вполне логично, что одна из упомянутых книг, а именно ветхозаветная Книга Эсфир, в скорининском переводе, оказалась востребованной при постановке «Актарсерсова действа», первого представления в придворном театре царя Алексея Михайловича – 16 октября 1672 года. Авторы драматургической обработки по сюжету упомянутой «Эсфири» использовали и скорининский текст, наряду с соответствующими церковнославянскими списками.

Кстати: экземпляр «Эсфири» в переплетном комплекте скорининских изданий отражен в библиографическом «Оглавлении к книгам» Сильвестра Медведева, воспитанника и сподвижника Симеона Полоцкого, вероятного сочинителя и сценического варианта этого библейского сюжета, а также пьесы «Юдиф» (предположения И. Забелина, П. Морозова).

Памятен «белорусский след» в первых театральных представлениях на московской сцене и актерами-исполнителями. Те в большинстве своем набраны были в обучение «комедийному действу», под управлением немца-магистра Ягана Готфрида Грегори, из подьячих и мещанских семей, главным образом выходцев из Литовской Руси, населявших, а фактически основавших Мещанскую слободу. Вследствие войны 1654—1667 гг. Московского государства с Речью Посполитой, стоившей Беларуси небывалых жертв и опустошения, в российской столице в качестве переселенцев, а чаще «полоном» оказались десятки тысяч жителей из-под Вильны, Полоцка, Витебска, Слуцка, Несвижа, Мстиславля, Дубровны, среди них первоклассные ремесленники строительных, оружейных, декоративно-изобразительных и других специальностей. В их числе – мастера швейного дела, принявшие участие в изготовлении костюмов, реквизита, а также

бутафорий для придворного театра. Для успеха дела немало значила и общая творческая атмосфера, психологическая предрасположенность к культурным нововведениям, которые несли с собой в старообрядческую Москву «белорусцы», «литовцы» (жители Великого княжества Литовского), «поляки», случалось и «латиняне». Активные участники театрального начинания, они и «на комедию» смотрели другими глазами, - отметил тонкий знаток эпохи и старомосковского быта, - чем коренные москвичи, кровные дети старого Домостроя, т. е. окрепшие во всяких запрещениях древнерусской культуры».

В этом смысле и полоцкий монах Самуил Гаврилович Петровский-Ситнянович (Симеон Полоцкий), воспитанник Киево-Могилянской коллегии, прибыв в Москву под высочайшее покровительство, имел при себе кроме общей образованности и немалый опыт театральной самодеятельности, которая уже в течение столетия процветала на его родине. Прежде всего – это школьный театр, действовавший при иезуитских и пиарских коллегиумах, некоторых православных братствах. Представления проходили, как правило, на городских площадях, превращаясь в массовые зрелища. В исполняемых школярами-иезуитами, в большинстве местными уроженцами, интермедиях преобладала латынь, реже – польский язык. Но зачастую в репертуар вплетались комедийные фрагменты о местных бытовых реалиях на разговорном белорусском языке, что, естественно, подогревало зрительный интерес публики – шляхты, мещан, городского простонародья. Да и перевирание латинских выражений на белорусский лад «было одним из любимых комических приемов в школьных интермедиях».

В дошедших до нас источниках запечатлена и атмосфера тогдашних представлений, в том числе и состоявшихся в Полоцке. Вот несколько архивных свидетельств:

«…в этом году [1593] наши учащиеся представили трагикомедию Аталия с такой привлекательностью действия, что их игра превысила и наши ожидания и изумительно понравилась еретикам (должно быть, жителям православного вероисповедания. – *А. К.*), и они сами себя превзошли. Представление не удалось завершить в течение одного дня из-за немилости неба, однако слушатели остались на месте. Мы закончили спектакль в более благоприятное время, при полном восхищении зрителей».

Еще пример: «В день Божьего тела [29 июня 1603] была дана народу и шляхте при достаточном стечении публики драма о хлебах на народном языке, были пушечные выстрелы».

А вот свидетельство из Орши – о театрализованной процессии в день святой Катерины [1636]: «Очень трудно объяснить небывалое стечение руских (= белорусских) зрителей».

Таким образом, и для упомянутых выше учеников-актеров из Мещанской слободы театральное дело было не в новинку.

*А.К.*

*Паводле: Национальный театр в контексте многонациональной культуры. М.: Фаир-Пресс, 2006*

**Петр Бессонов**

## Белорусские песни

[з прадмовы]

В первом, с начала общей Русской истории до конца XVI века, народность белорусская оказала замечательную крепость и живучесть основных начал, разносторонность развития, покоряющую влиятельность и свободную общительность своих сил. Она умела на равных правах ужиться с такими, еще сильными в то время или тогда уже сильными, народностями и племенными ветвями, как Литовская, Польская, Еврейская и даже Немецкая, все сожительные с ней, во всяком случае, ближайшие соседи. Не покоряя их оружием внешним, напротив, часто сама покоряемая и покорная, она постоянно то боролась с ними для дружного единения, то дружилась для внутренней самоопределяющей борьбы и, постоянно, шаг за шагом, успевала побеждать своим духовным, нравственным, словесным, творческим, бытовым, гражданским, образующим и просвещающим влиянием.

Про нее-то можно сказать со справедливостью, что в сем деле не сдала она ни пяди земли, ни камня своего здания: напротив, создала землю и целый край, возвела в основе свое великое здание. Язык свой наложила она на большую часть других представительных народностей, с языком грамоту, с тем и другим мир воззрений, а с сим посредствующим проводником все прочие самобытно-цивилизующие начала: на домашнюю беседу, на общественную речь, на письмо всех гражданских и даже отчасти государственных дел, на первые училища, на слово и песнопение церкви. Народный обряд ее стойко удерживал свою необыкновенную, еще при-Дунайскую и за-Дунайскую древность; народный обычай развивался беспрепятственно и до подробностей; творчество кипело обильными силами, песнею и стихом, не широкими и не длинными, а в тысячи видов, с изящным и частию шутливым характером, оглашая весь этот видимый и невидимый образ жизни народной. Довольно сказать, что Слово о полку Игореве без нее убавило бы на треть, что многое для целого Славянского песнотворчества сгибло бы неясным и неполным без ее наследия, даже в теперешних ее остатках предлежащих читателю. Уже сочинитель Слова о полку Игореве, уроженец, выходец или даже житель Белорусской области, воспевший главного его героя Всеслава, сочиняя первый наш литературно-народный памятник, творил «по былинам его времени», устным и местным, то разлагая их и счерпывая своим литературным приемом, то пользуясь вставкою отдельных целых стихов.

Быт простой, степенный и как-то особенно прочный, всего менее дикий или грубый, всего более общительный, другим доступный, себе уютный, довольный без роскоши, ровный без излишеств, без бурь и тревожной страсти, при спокойствии нрава и сдержанном юморе, приятный хоть мелкою, но узорчатою отделкой. Труд не спешный, но долгий и упорный, хозяйство общинное в корне, но свободное для частной собственности, успешно и рано расплодившееся; поля достаточно обработанные, отличные леса с добытою пользой на всякую нужду, многочисленные реки и озера, окаймленные сетями тысячи рыболовов; не широкие, но удобные и ревностно поддержанные соседними жителями дороги; промыслы и ремесла далеко развитые; дешевизна, даже до последних времен, баснословная. Городская жизнь давно обеспеченная определенными правами гражданскими; гражданственность, не оторванная от Русской обычной основы, гласное, публичное судопроизводство, а с ним сообразное судоустройство с XVI века; Статут [Великого княжества Литовского] – один из величайших памятников юридических.

Такая Белая Русь обняла, сомкнула и соединила, определила и обособила свою землю, целый и обширный Край, от Двины до Немана и в промежуточном побережье от

границ Польских в Королевстве и под Короной до Псковских, Новгородских, Смоленских, где вдавалась в Великую Русь под самый Можайск, на Юг же еще дальше по течению рек, особенно Днепра, через Волынь и Черниговскую область, постепенными переливами сливаясь с Малой Русью. До сих пор вступая внутрь этих пределов Края, который недавно принято называть, хотя не совсем точно, Северо-Западным Русским краем, как не отяжелела над ним рука последних столетних событий, видишь, слышишь и чувствуешь всюду, что здесь точно существуют, не надуманы и не начертаны только географические и государственные границы, что внутри их есть действительная особенность, изнутри себя их очертившая, что здесь своя почва, свое племя, свой народ…

Польские ученые и литераторы, действуя среди Белорусов, не уступали значением ни тогдашним Краковским, ни Львовским, а подавно Варшавским, и только за наши годы вымерли здесь или навсегда отсюда выселились; вероятно не многим известно, что Еврейская наука в Белорусском крае имеет давно свою литературу, замечательные типографии, ряды многотомных изданий и доселе таких представителей, которые считаются в Еврействе первыми для Европы, а за ней для целого света; не говоря о католичестве, лютеранство и кальвинизм, даже более мелкие секты реформаторов с самого начала точно славятся здесь типографиями, школами, деятелями, считая в рядах своих не одних Немцев, а столько же и даже больше местных уроженцев разного племени. Край, при всех разорениях, даже до последнего времени, на 25 квадратных верст выставлял по крайности по одной обширной библиотеке, кроме мелких; он значительно покрыт теперь казенными учебными заведениями, возникшими на местных началах, но еще сплошнее прежде усеян был всякими общественными и частными; он до последних лет процветал обильными и целесообразнейшими, для воспитания полу-домашнего и полу-школьного, так называемыми «ученическими квартирами» с воспитателями и репетиторами по частному найму; грамотность развита до сих пор, по крайности всюду господствует воспитанное уважение к ней и к науке.

*Паводле: Бессонов П. А. Белорусские песни.*
*М., 1871*

## З Масквы беларускі сігнал

Сыгнал, або разказ аб тым, як дабро перамагло зло у чалавека
(Пералажана, з малыми пераменами с расказа Всеволода Гаршина).
Москва, 1891. Стр. 31, ц. 3 коп.

С особым удовольствием омечаем интереснейший факт в нашей бедной, почти не существующей литературе. В Москве только что вышла на белорусском языке книжечка, заглавие которой выше означено. Факт чрезвычайно отрадный и вызывающий в нас искреннее желание, чтобы он не оставался единичным, а вызвал бы подражания. На всякий взгляд у всякого более и менее знающего положение книжного издательства в Москве, может появиться сомнение, нужно ли тут действительно радоваться, что Москва делает почин в этом направлении. Мы знаем, что московские издатели с Никитской улицы завоевывают книжные рынки разным негодным и прямо вредным хламом, предназначенным для народного чтения. Этот хлам усердно распространяется ими посредством мелких торговцев и офеней далеко по провинции, а за отсутсвием другого порализующего вливания, сразу ставит вопрс народного чтения на ложный путь. Вот почему читатель может заподозрить, не является сей названный рассказ делом спекуляции и наживы московских торговцев, подобно тому как и целый ряд поддельных малороссийских книжечек с своевольно заимствованными названиями (Наталка Полтавка и т.п.), появившихся в Москве же в последнее время, с тех пор как Малороссы с их театром стали в моде.

Но в данном случае издание белорусское; оно, видимо, появилось при иных условиях, как это показывает уже одна его внешность, а так же и то, что издатель не счел нужным выставлять свою фамилию. Печатано в типографии Гатцука. Наконец, лучшим доказательством этого служит язык рассказа – *чисто белорусский (куріў уклад.),* показывающий, что издание прошло через руки людей, знающих дело и серьезно смотрящих на свое предприятие. Несомненно, что тут руководила немеркантильнвая цель, потому что на доход от такого издания, конечно, нечего было расчитывать, так как в Москве и в ближайших городах оно не может иметь никакого ходу. На сбыт можно было рассчитывать исключительно в Западном крае и именно среди белорусского народа. Но тут еще не скоро наступит время, когда книжка сделается существенной потребностью поселянина и когда он будет искать отдыха и развлечения не в шинке, а в приятном и полезном чтении. Желание дать первый толчок в этом направлении – вот, повидимому, та благордная цель, какая руководила неизвестными издателями: дать здоровое и занимательное чтение народу в понятной и доступной для него форме, - это должно составлять одну из главных задач образованных людей, которые дорожат народным развитием и народной нравственностью.

С этой точки зрения мы от души приветствуем вновь появившееся белорусское издание, которое удовлетворяет всем изложенным требованиям целесообразности, понятности и удободоступности. Пожелаем же ему скорейшего распространения среди Белорусов, а и издателям выразим наше искреннее спасибо с присоединением пожелания, чтобы они не останавливались в начатом ими деле, которое принесет прямую и существенную пользу народу.

*Минский листок. 1891, 9 апреля, № 29.*

**Геб.Палісандэр [І.Луцкевіч] (Слуцк)**

## Нібы памёрлая Беларусь

Карыстаючыся гасціннасцю супрацоўнікаў “Рутэнішэ Рэвю”, хацеў бы пазнаёміць чытачоў часопіса са становішчам маіх землякоў-беларусаў. Шмат хто з замежнікаў здзівіцца, чытаючы гэтыя радкі, і запытае, што гэта за людцы, пра існаванне якіх тут узгадваюць. А беларускае пытанне не ёсць прыдумкай апошніх гадоў! Яно такое ж даўняе, як літоўскае, польскае ці ўкраінскае (русінскае).

Нават гаворачы пра ўкраінцаў, варта зазначыць, што ў Заходняй Еўропе пра іх мала ведаюць. Але заходнееўрапейскія вучоныя, асабліва філолагі і гісторыкі, ведаюць, што ёсць украінская (русінская) нацыя, якая мае сваю ўласную гісторыю, мову і літаратуру, а таксама багатую народную паэзію. Такім чынам, украінская нацыя не можа быць прызнаная ідэнтычнай рускай. У гэтай галіне ведаў “Рутэнішэ Рэвю” ужо таксама зрабіла нямала. Так, з анкеты, складзенай супрацоўнікамі часопіса, бачна, што сярод знакамітых прадстаўнікоў заходнееўрапейскай культуры ёсць асобы, якія горача сымпатызуюць вызвольным памкненням украінскага народу, - што, зразумела, выклікае незадаволенасць у асяродку расійскіх панславістаў. У той час, калі русіфікацыя Украіны з’яўляецца самай салодкай марай панславістаў, усе інтэлігентныя славяне ведаюць, што гэтая русіфікацыя ёсць pium desiderium, прыгожая ўтопія.

З беларускім пытаннем усё нашмат горш. Тут сама назва адыгрывае вялікую ролю. Тады як украінскі народ называе сябе “украінцы” і ў Заходняй Еўропе вядомы пад назвай “русіны”, у нас ёсць толькі адно слушнае найменне – беларусы. Наколькі гэтая назва падабаецца расійскаму ураду, відаць на прыкладзе накінуць і русінам штучны назоў “маларосы”. Ды і замежнікі маюць схільнасць ссыпаць у адзін гаршчок уласна “рускіх”, беларусаў і “маларосаў”. Таму беларусы разглядаюцца нават славянамі як расійцы і павялічваюць статыстычную колькасць рускай нацыі.

Беларусы засяляюць большую частку тэрыторыі колішняга Вялікага Княства Літоўскага, якая цяпер называецца “Паўночна-заходнім краем”. Расійскі ўрад не хоча прызнаваць права гэтай зямлі мець сваю ўласную назву, падобна таму, як саміх беларусаў расійскія ўрадоўцы называюць “рускія з Паўночна-заходняга краю”. Гэта ў той час, калі не гледзячы на панславянскія тэндэнцыі, узгаданы ўрад усё ж такі прызнае нацыянальную адрознасць русінаў і называе іх пастаянна “маларосамі”. У афіцыйных статыстычных дадзеных, атрыманых для навуковых этнаграфічных мэтаў, колькасць беларусаў характарызуецца велічынёй на 10 млн. чалавек[1].

Большасць насельніцтва, каля 8 мільёнаў, з’яўляюцца вернікамі праваслаўнай царквы, да якой прылічваюцца таксама ўніяты, якія ў 1839 годзе за царом Мікалаем I, як і шматлікія каталікі, пасля падаўлення польскага паўстання ў 1863 годзе, у якім бралі ўдзел і беларусы, былі гвалтам пераведзены ў праваслаўе. Астатнія 1.800.000-2.000.000 беларусаў застаюцца на сённяшні дзень усё яшчэ рымска-каталіцкімі вернікамі. Яны разглядаюцца расійскім урадам як рускія каталіцкай канфесіі, хаця ў апошні час назіраецца тэндэнцыя прылічваць іх хутчэй да палякаў і разглядаць як асобны народ.

У першыя стагоддзі свайго гістарычнага існавання Беларусь самастойна кіраваная на грунце дэмакратычнага народасупольнага прынцыпу, утварала падчас свайго найвышэйшага культурнага росквіту ў XVI стагоддзі частку літоўскага Вялікага Княства, а этнаграфічная Літва – што да памераў тэрыторыі і колькасці насельніцтва – была ў некалькі разоў меншая. У культурных адносінах беларусы нашмат пераўзыходзілі сваіх

[1] Перапіс насельніцтва ў Расіі праводзіцца інакш, паводле канфесійнай прыналежнасці

захопнікаў і дзякуючы гэтаму аказвалі на іх такі магутны ўплыў, што пры двары Вялікага

літоўскага князя панавалі беларуская мова і звычаі. Ад канца сярэднявечча да 1696 г. беларуская мова была дзяржаўнай ва ўсім княстве. На гэтай мове быў напісаны таксама звод законаў "Статут Вялікага Княства Літоўскага".

Пасля заняпаду культурнага цэнтру літоўскай сталіцы Вільні, у эпоху каталіцкай рэакцыі, беларускія вучоныя перасяліліся ў Кіеў, у Магілянскую Акадэмію. З таго часу беларускія вучоныя перасталі працаваць на сваю бацькаўшчыну. З канца XVII ст. яны прымаюць удзел у развіцці рускай літаратуры, у якую яны ўносяць новы накірунак развіцця і ўзбагачваюць яе сваімі творамі. Дастаткова назваць толькі імя Сімяона Полацкага ці Радзівіловіча. Найбольшую ўдзячнасць у адносінах да беларусаў павінны адчуваць палякі (*тут і далей разбіўка па тэксце – С.П.*). Беларусы ўзбагацілі польскую літаратурную мову беларускімі элементамі. Беларусы падаравалі палякам найвялікшую красу іхнай літаратуры – Адама Міцкевіча. Таксама іншыя знакамітыя польскія мужы, як паэт Сыракомля, які пісаў і беларускія вершы, як вялікі арганізатар першага польскага паўстання Тадэвуш Касцюшка, былі паводле нараджэння беларусы.

Вось некаторыя звесткі беларускай гісторыі. Цяпер звернемся да сучаснага стану беларусаў. У матэрыяльных адносінах тут няма нічога зайздроснага. Землі на Беларусі ў большасці сваёй перанасычаныя вільгаццю, пясчаныя і балоцістыя. Шмат некранутых лясоў, якія апошнім часам апусташальна высякаюцца праз шляхецкую сістэму гаспадарання, на што ёсць дазвол ураду. Гэты арэал размеркаваны толькі спачатку паміж беларускім народам і паланізаванымі памешчыкамі, якія неміласэрна эксплуатуюць працоўную сілу. Агромністыя абшары знаходзяцца ва ўласнасці ўраду, які пакідае іх неапрацаванымі або размяркоўвае паміж расійскіх каланістаў, не звяртаючы ўвагу на карэннае насельніцтва; яно масава перасяляецца ў Амерыку і Сібір. Побач з гэтым – нізкі культурны ўзровень народу, роўнага якому, магчыма, не знойдзеш у Еўропе. 8-10% насельніцтва можа сяк-так чытаць, а пісаць – усяго 6-8%. Афіцыйная народная асвета грунтуецца на механічным завучванні тэхнікі рускага пісьма і чытання, чытанні царкоўнаславянскіх малітоўнікаў, завучванні напамяць і ўменні пералічыць усіх членаў царскай сям'і, практыкаваннях у межах чатурох дзеяняў матэматыкі і запамінанні найбольш важных падзеяў расійскай гісторыі. Выкладанне праваслаўнай рэлігіі ў малодшых класах абавязковае і для дзяцей з каталіцкіх сем'яў.

Колькасць школаў такая невялікая і заняткі арганізаваныя настолькі дрэнна, што ўжо праз год вучань губляе навыкі чытання, якія ён набываў на працягу 2-3 гадоў. Пра пісьмо ўжо і гаварыць нечага. Прычына гэтай сумнай з'явы палягае ў тым, што ўсе заняткі праводзяцца на незразумелай расійскай мове. Выкладанне па-беларуску высковым настаўнікам забаронена пад пагрозай звальнення.

Нічога дзіўнага, што пры такіх умовах народная адукацыя ледзь-ледзь рухаецца, і пасля 30-ці гадоў інтэнсіўнай русіфікацыі звыш 90% беларусаў сталі класічнымі непісьменнымі. Усе культурніцкія і асветніцкія публікацыі на беларускай мове забароненыя, гэтак жа як і рэвалюцыйныя. Дазволены толькі перадрук некаторых літаратурных твораў для навуковых мэтаў і збор этнаграфічных матэрыялаў. Усё, натуральна, павінна друкавацца рускім шрыфтам і рускім правапісам. Працы, надрукаваныя з выкарыстаннем лацініцы, нават калі яны маюць чыста навуковы характар, як , напрыклад, этнаграфічнае даследванне Міхала Федароўскагка "Люд Беларускі", выдадзенае ў Кракаўскай Акадэміі Навук, у Расію не дапускаецца.

У праваслаўных цэрквах акрамя царкоўнаславянскай мовы ўжываецца толькі руская мова (беларусы-уніяты карыстаюцца побач з царкоўнаславянскай і беларускай). На рускай мове чытаюцца казанні, праводзяцца споведзі і г.д. Урад спрабаваў увесці рускую мову і ў касцёлах, але дзякуючы супраціву вернікаў і беларускай інтэлігенцыі на працягу дваццаці гадоў гэты план быў адкінуты. Але ўрад усё ж такі сарваў планы колішняга мітрапаліта, які хацеў пакінуць беларусам права на карыстанне ў храмах роднай мовай ў сэнсе Папскай булы: "Кожны народ мае ўжываць пры сакрамантах родную мову". Урад

палічыў за лепшае ўвесьці ў царкоўны ўжытак замест беларускай мовы, якая ўжывалася да 1863 г., польскую.

У русіфікатарскім памкненні расійскі ўрад увёў поўную забарону беларускай мовы. Гэтая забарона распаўсюджваецца не толькі на афіцыйнае ўжыванне, не толькі на царкву, школу, установы, але і закранае прыватную сферу. Пастановай Міністэрства ўнутраных спраў забараняецца ўжыванне беларускай мовы ў прыватных аб'яднаннях. Салдатам забараняецца атрымліваць беларускія лісты з дому, а вучняў за карыстанне беларускай мовы ў гутарцы са сваімі сябрамі проста выключаюць са школы.

Русіфікатарска-праваслаўны дух не абмяжоўваецца культурным уціскам. Беларусы пазбаўлены права займаць у сябе на радзіме дзяржаўныя пасады. Беларусы-каталікі хаця і могуць купляць зямельныя надзелы, але не больш, чым 60 дзесяцін, і толькі пры ўмове, калі яны самі будуць іх апрацоўваць. Урад зацікаўлены ў падтрыманні варожых адносінаў беларускага сялянства да апалячанай беларускай шляхты, якая брала ўдзел у паўстанні 1863 г. Гэтая мэта дасягаецца праз забарону так званай касацыі абшарніцкіх і сялянскіх земляў і часта выгаднага для сялянства абмену сэрвітутаў (*права карыстання – С.П.*).

Заахвочанае ўрадам праваслаўнае духавенства цкуе народ супраць інтэлігенцыі. Нядаўна ў народзе распаўсюдзілі чуткі, што шляхта, жыды і ўсе каталікі вывозяць у Японію грошы, порах і харчовыя запасы, а потым, калі японцы перамогуць, будзе зноў уведзена прыгоннае права. Таму кожны селянін абавязаны аддаць колькі можа сродкаў на карысць дабраахвотнага флоту і Чырвонага Крыжу і выдаваць ураду ўсіх падазроных асобаў, якія праводзяць шкодную ваенную прапаганду. Усё гэта было засведчана ў час судовага працэсу, дзе разглядалася справа нападу раз'юшаных сялян на турыстаў, якіх палічылі за японскіх шпегаў, адлупцавалі і адвялі звязанымі ў турму. Сяляне выказалі пагрозу, што яны пераб'юць усю шляхту, жыдоў і каталікоў з прычыны іхных сімпатыяў да японцаў. Апошнім часам па названай прычыне сталі частыя падпалы маёмасць. Праваслаўнае духавенства моўчкі назірае за такімі з'явамі.

Цяпер я хачу прывесці некаторыя прыклады развіцця беларускай літаратуры і нацыянальнага адраджэння беларускага народу ў 40-, 50-, 60-х гадах мінулага стагоддзя. Беларуская літаратура, заснаваная на народнай творчасці, развівалася хуткімі тэмпамі. Доказам гэтага з'яўляецца пераклад найвялікшага твору польскай паэзіі "Пан Тадэвуш" Адама Міцкевіча. У гэты час узнік беларускі нацыянальны тэатр, а знакаміты польскі кампазітар Манюшка, таксама беларус паводле нараджэння, напісаў музыку на лібрэта оперы "Ідылія", аўтарам якога быў вядомы беларускі паэт Марцінкевіч. Гэта адбылося ў 50-х гадах мінулага стагоддзя. Але забарона Мураўёвым ужываць лацінскі шрыфт у беларускіх творах затрымала тэндэнцыю гэтага хуткага разгортвання літаратурнай творчасці. Рускі алфавіт быў да гэтага часу на Беларусі не вельмі вядомы, таму што тут Польшча ўводзіла сваё пісьмо. Развіццё беларускай літаратуры было затрымана праз далейшыя рэпрэсіі яшчэ гадоў на 50. Людзі былі вымушаныя вярнуцца да старажытных песень і легендаў, якія і па сённяшні дзень кампенсуюць недахоп беларускага друкаванага слова. Цяпер праводзіцца даволі значная акцыя ў гэтым накірунку, якая запачаткавала барацьбу супраць адурманьвання народу. Для гэтай мэты ўтвараюцца ўсё новыя літаратурныя і асветніцкія таварыствы, дзейнасць якіх у апошнія дзесяць гадоў дала 25-30 нелегальных публікацыяў. Частка з іх з'явілася на кірыліцы для праваслаўных і на лацініцы для каталікоў. Гэтыя публікацыі настолькі маюць попыт і папулярнасць, што нават непісьменныя слухаюць чытальніка і завучваюць пачутае напамяць. Такім чынам шматлікія вершы беларускіх аўтараў становяцца набыткам народу і запісваюцца збіральнікамі фальклёру як песенная народная творчасць. Зараз наспела пара друкаваць тое, што патрабуе час, і не толькі этнаграфічнае, але таксама іншыя карысныя кнігі як кірылічным, так і лацінскім шрыфтам. Таму што два мільёны беларусаў-каталікоў будуць чытаць не толькі польскіх ці нелегальных беларускіх аўтараў, што не выключа захаплення з боку расійскіх уладароў. У Расіі ёсць на гэты конт ужо адмоўны досвед з літоўцамі.

Вось такі партрэт народу, які жыве ў Еўропе. Гэта самая цёмная карта змрочнай Расіі. Але ж менавіта гэты народ, які пасля паярэмлення Ўкраіны татарамі і разбурэння паўночных рэспублік маскавітамі, застаўся ўвесь час звязаным з Заходняй Еўропай з XVI ст., і, нават больш за тое, пераказваў у Еўропу свае рэфарматарскія ідэі. І цяпер гэтаму народу, які доўгі час быў культурным цэнтрам для сённяшняй Расіі да эпохі Ламаносава, адмаўляюць у ягоных самых святых правах. Ён трымаецца ў глыбокай цемры, і праз стагоддзі панавання белых цароў мае сёння меншую колькасць школаў, чым ён меў у XVI ст. Расійскае валадаранне адкінула беларускі народ на тры стагоддзі назад, у XVI ст., так што ён зараз жыве ў сапраўдных сярэднявечных умовах.

*Ruthenische Revue. 1904. N 19.*
*Пераклад Пётры Садоўскага*

**Борис Савинков**

## О Белоруссии

В Белоруссии политические течения многочисленны и запутанны. Не белорусу разобраться в них трудно. Не белорусу трудно понять, почему яростно враждуют между собой представители белорусской интеллигенции. И эта политическая борьба, несомненно, не способствует отчетливой постановке белорусского вопроса.

Я сказал «белорусского вопроса». Для многих он существует. Для меня он не существует вовсе. Мне кажется, что белорусский вопрос есть только малая часть общего большого вопроса о народах, входивших в состав бывшей Российской Империи. Кто признает независимость Латвии, Эстонии, Грузии, Украины, тот должен неизбежно признать право на независимость и <...> народа белорусского. Третьего не дано. Или «гром победы раздавайся», и то либо иное, но непременно принудительное присоединение Латвии, Эстонии, Грузии, Украины и т. д. к России, или право самоопределения народов и признание независимости окраинных государств, а в том числе и Белоруссии.

Когда русские шовинисты возражают против независимости Украины, они ссылаются на мифические крепостные сооружения, имеющие быть возведенными воинствующими украинцами на рубеже Орловской губернии. Они ссылаются также на не менее мифического г. Маркотуна. Когда же они возражают против независимости Белоруссии, то они в виде аргумента приводят якобы отсутствие у белорусов национального языка: «Белорусский язык не язык, а наречие. Исковеркав русский прекрасный, могучий и свободный язык, вы получите белорусскую мову. Народ же, не имеющий национального языка, не может иметь претензии на самостоятельное государственное бытие». Этот аргумент не выдерживает критики. Донцы, Кубанцы и Терцы говорят, в огромном своем большинстве, по-русски. Однако вряд ли кто-либо может ныне серьезно спорить об их праве на независимость. Сибиряки – коренные великороссы. Однако Сибирь требует независимой от Москвы государственной жизни. Ясно, что и белорусы, языка которых, кстати сказать, не понимает москвич, имеют не менее прав на самоопределение, чем казачество или сибиряки.

Пора отучиться думать, что мы, великороссы, - соль земли и призваны по своему образцу устроить весь земной шар. Пора понять, что на другой день после свержения коммунистической власти то, что называлось Российской Империей, окажется «расчлененным» на свои составные части. Пора посмотреть в глаза реальному факту: перед нами, великороссами, встанет задача: либо покорить силой оружия все непокорные нам народы, либо совместно с ними, в том числе с белорусами, общими усилиями и на равных правах, приступить к воссозданию и устроению Восточной Европы.

Белорусский народ не хуже нас понимает, что насущные экономические и политические интересы связывают его с Москвой. Но белорусский народ желает сам распоряжаться судьбами своего государства, желает сам, добровольно, без чьего бы то ни было понуждения, заключить с нами союз, либо отвергнуть его; признать свою связь с Россией, либо отвергнуть ее. Это желание законно. Более того, это желание не противоречит ни идее Государственности Российской, ни правам народа великорусского. Российская Государственность не предполагает непременно формы единой и неделимой России, как не предполагает непременно формы и федерации. Российская Государственность может быть мыслима и как союз отделившихся от России независимых ныне народов, свободно объединенных в Восточно-Европейские Соединенные Штаты. Что же касается прав народа великорусского, то в права эти не входит угнетение соседей. Об этом, мне кажется, не приходится спорить. Оставим память об угнетении Николаю II и коммунистам, и будем думать не о насилии, а о справедливости и свободе.

А.П.Карпинского и А.П.Павлова: А.Д.Аргангельскому, Н.С.Шатскому, А.А.Богданову, М.В.Муратову, А.Л.Яншину, Р.Г.Гарецкому».

Сапраўдным беларускім "донарам" расійскай навукі стаў і Усеслаў Гарэцкі. Вось як напісана аб ім у сувязі з яго 80-годдзем у часопісе "Начальная школа" (2004, № 7).

«Доктор педагогических наук, профессор, член-корреспондент РАО Всеслав Гаврилович Горецкий, известный ученый-педагог, филолог, специалист по обучению грамоте, методике преподавания русского языка и литературного чтения, русскому языкознанию, общей педагогике, отмечает 80-летие.

В.Г.Горецкий, ученый с мировым именем, хорошо знает нужды учителя-практика, так как сам начинал свою педагогическую карьеру учителем в сельской школе. Член-корреспондент РАО В.Г.Горецкий – деятельный организатор науки и практики, который до настоящего времени преподает в вузе, готовя к работе новые поколения специалистов, читает лекции для учителей и методистов России.

В.Г.Горецким создана известная в нашей стране и за ее пределами научная школа, идеи которой реализованы в массовой практике России, стран ближнего и дальнего зарубежья. Всеслав Гаврилович – научный руководитель большого числа аспирантов, докторантов, стажеров; член ученых советов по защите диссертаций.

Главные научные открытия В.Г.Горецкого отражены в его фундаментальных работах – известных монографиях «От «Азбуки» Ивана Федорова до современного букваря» (1974), «Азбука» и «Новая Азбука Л.Н.Толстого» (1978) и др. Его научные идеи реализованы в учебниках и учебных пособиях для школы, которые вот уже более 35 лет издаются ведущими педагогическими издательствами России. Созданные В.Г.Горецким программы по объяснительному (литературному) чтению (1980-2001), учебники и учебно-методические комплекты [«Букварь» (1969-2001), «Азбука» (1982-2001), «Азбука-скороучка» (1996), «Московская азбука» (1998), «Русская азбука» (1995-2004), «Родная речь» (1992-2004), «Наше русское слово» (1996-2003), «Русский язык» (последнее издание – 2004 г.), «Читаем сами, обсуждаем вместе» (1996-2002), «Книга для семейного чтения. В 3 частях», «Русское слово», «Русская азбука плюс» (1999-2004), «Русское слово плюс» (2004) и др.] широко используются учителями школ России и школ с русским языком обучения за ее пределами (Белоруссия, Эстония и др.).

Практика показала уникальность и вывереность заложенных в них методических подходов, гарантирующих достижение высоких результатов обучения. Знаменитые «Букварь», «Азбука» и «Русская азбука» Горецкого, издающиеся большими тиражами – первые книги в жизни каждого гражданина нашей страны, на протяжении десятилетий дающие ему начала воспитанности, нравственности, образованности, развитости.

В.Г.Горецкий – автор учебников для студентов педагогических заведений «Обучение грамоте», «Русский язык в начальных классах» (1993) и др., несколько серий книг для учителя «Обучение в 1 классе», «Обучение во 2 классе», «Обучение в 3 классе», «Уроки во 2 классе», «Уроки в 3 классе» (1970-1980) и др.

В.Г.Горецкий – профессиональный журналист, член Союза журналистов России, Советов по международному сотрудничеству в области литературы.

Дорогой Всеслав Гаврилович! Вы несколько десятилетий возглавляете редакцию и редколлегию нашего ежемесячного научно-методического журнала «Начальная школа», а с 2003 г. – и его Приложение.

При Вашем умелом руководстве и авторском участии наш журнал получил статус научно-методического издания, не утратившего большой практической значимости для учителя.

Вы – душа нашего коллектива и его вдохновитель на добрые дела во благо российской школы. Вы – наша опора, камертон интеллигентности, порядочности, профессионализма. Непревзойденный эрудированный собеседник, верный друг, мудрый советчик – это тоже Вы. Мы Вас искренне любим, ценим, глубоко уважаем, гордимся тем, что идем по жизни рядом с Вами.

Вместе с Вами к одной цели – благополучию российской школы – идет и многотысячная аудитория читателей журнала и Ваших учеников.

С Днем Рождения, дорогой Всеслав Гаврилович!

Коллектив редакции. Редакционная коллегия журнала. Редакционный совет журнала».

У Маскве нарадзіліся і жывуць унукі У.Гарэцкага Марыя Анашына (1974 г. нараджэння) і ўнук Максім Гарэцкі (1985), беларускасць у якіх, калі і захавалася, дык, магчыма, толькі на генетычным узроўні…

**Іван Ласкоў**

## “Сольются в русском море”?

[фрагменты]

Аляксандр Ісаявіч!

Да нікога я не пакланяўся пасьля таго, як на Х зьезьдзе міру быў выяўлены сапраўдны твар “отца народов” – жыцьцё навучыла, што няма людзей, дастойных паклонаў. І ўсё-ж тое, што я чуў да Вас, было блізка пакланеньня. Але зусім іншыя пачуцьці выклікаў у мяне Ваш новы твор – трактат “Как нам обустроить Россию”.

Скажу адразу: я ня буду кранацца ў гэтым лісьце Вашых эканамічных, ці этычных, або іншых прапаноў, “как обустроить Россию”. І ня дзеля таго, што ня лічу сябе дастаткова падгатаваным да гэтага. Вы ставіце пытаньне - “как обустроить Россию”, а я не расеец і ўпарадкоўваць яе – не мая справа, у мяне свая зямля, свой народ, аб лёсе якога ў першую чаргу мой боль і клопат.

І ў сувязі з гэтым не магу спыніцца на тым, што Вы разумееце пад “Россией”. Вы адпушчаеце на волю дванаццаць саюзных народаў, адмаўляючы ў гэтым украінцам і маім супляменьнікам – беларусам.

Чаму ж? На якой аснове?

На той, пішаце Вы, што “за вычетом этих двенадцати только и останется то, что можно назвать Русь... или Россия”.

“Комсомольскую правду” з Вашым трактатам я купіў у Маскве, варочаючыся з Менска ў Якуцк, дзе я жыву ўжо 19 гадоў. Я ня ведаю, ці чулі Вы – расейская прэса пісала аб гэтым праз зубы, што ў пачатку верасьня Беларусь адходзіла 500-годзьдзе нараджэньня беларускага і ўсходнеславянскага першадрукара Францішка Скарыны, які надрукаваў першую беларускую кнігу на 50 гадоў раней першай маскоўскай. На гэтую ўрачыстасьць зьехаліся беларусы амаль што з усяго сьвету. Быў там і я.

Аднойчы, прагульваючыся па Менску з інжынэрам з Рыгі, мы затрымаліся перад будынкам, скрозь заваленым мэмарыяльнымі дошкамі. Аказалася, што ў ім жылі ведамыя партыйныя і дзяржаўныя дзеячы Дзяржынскі, Кнорын, Галадзед, Чарвякоў, пісьменьнікі Гартны і Броўка, вучоны-мэханізатар Мацэпура. Мы сталі разважаць гэты дзіўны “іканастас”. Неспадзявана да нас падыйшла пажылая жанчына і як-бы незадаволена запытала:

- Позвольте узнать, откуда вы?
- Я зь Якуцка, - адказаў я, - ён з Рыгі.
- А почему вы говорите по-белорусски?
- Таму што мы беларусы, - зьдзівіўся я.
- Да, - зласьліва сказала жанчына, махнуўшы ў бок мэмарыяльных дошак, - развелось тут у нас писателей! Что за писатели? Ни одного не знаю. Кто их читает?
- Ну хаця б Быкава вы, напэўна, ведаеце, - міралюбна запярэчыў я. – Яго ўвесь сьвет чытае.

Жанчына гаварыла па-расейску, я па-беларуску, ня бачачы ў гэтым нічога асаблівага, бо мая субяседніца была яўна менчанкаю і павінна была разумець беларускую мову. Ды і ўсякі расеец, напэўна, зразумее, калі будзе слухаць субяседніка, а не самога сябе... Ды яна і разумела, - не перапытвала! Але раптам сурова сказала:

- А вы должны говорить со мной по-русски.
- Чаму?
- Потому что я русская.
- А чаму ж вы не гаворыце да мяне па-беларуску, калі я беларус?

- Вы ведь в Якутске говорите по-русски? – не здавалася яна.
- Па-расейску.
- Тогда почему же здесь по-белорусски?
- Таму што тут я - на Беларусі, на сваёй зямлі.
- И почему вы все обособляетесь? – ледзь не закрычала жанчына. – Девятьсот лет назад мы говорили с вами на одном языке!

Не пасьпеў я сказаць, што яна памыляецца, што дзевяцьсот гадоў назад мае і яе продкі не маглі гутарыць на адной мове, як мая субяседніца павярнулася і амаль што бягом кінулася прэч.

Дзеля чаго я прывёў гэты выпадак, які здарыўся за некалькі дзён да зьяўленьня Вашага трактату?

Таму што Вы, Аляксандр Ісаявіч, прыпомнілі ў сваім трактаце гэтую Вашую глыбока нявецлівую супляменьніцу.

Расейцаў, украінцаў і беларусаў Вы аб'яўляеце, як царская прапаганда, "одним народом". "Да народ наш разделился на три ветви лишь по грозной беде монгольского нашествия да польской колонизации. Это всё, - пішаце Вы, - недавно придуманная фальшь, что чуть ли не с I века существовал особный украинский народ с особым не-русским языком. Мы все вместе истекли из драгоценного Киева, "откуду русская земля стала есть", по летописи Нестора, откуда и засветило нам христианство. Одни и те же князья правили нами: Ярослав Мудрый разделил между сыновьями Киев, Новгород и всё протяжение от Чернигова до Рязани, Мурома и Белоозера; Владимир Мономах был одновременно и киевский князь, и ростово-суздальский; и такое же единство в служении митрополитов. Народ Киевской Руси и создал Московское государство. А в Литве и в Польше белорусы и малороссы сознавали себя русскими и боролись против ополяченья и окатоличенья. Возврат этих земель в Россию был всеми тогда осознаваем как Воссоединение".

Ужо прабачце, Аляксандр Ісаявіч: тут вазьмі абы якое слова – ужо ўбогае дылетанцтва, або дэмагогія з шавіністычнай афарбоўкай. Не было "народа Киевской Руси"! Было толькі насельніцтва раньне-фэўдальнай дзяржавы. А дзяржава была сабрана агнём і мячом з самых розных плямёнаў, як славянскіх, так і неславянскіх. Гэтыя "чужыя" плямёны зьліліся з навакольнымі славянамі і зусім неабавязкова, што да Рурыка ці Алега.[…]

У кожнага з усходне-славянскіх народаў – расейцаў, украінцаў, беларусаў – свая ўласная адменная гісторыя, у іх склад увайшлі розныя плямёны. Не з "народа Кіеўскай Русі", якога не было, мы выйшлі, а сфармаваліся на яе былой тэрыторыі з этнасаў, што жылі ў тым ці іншым куце спрадвечна. І тое, што частка гэтых этнасаў гаварыла на блізкіх (не на адной, але на блізкіх) мовах, ня можа служыць асновай для адмовы тым ці іншым сучасным народам права на самастойнасьць і свабоду.

У Вас ёсьць яшчэ адзін доказ для адмовы гэтага права: таму што "одни и те же князья правили нами: Ярослав Мудрый разделил между сыновьями Киев, Новгород и всё протяжение от Чернигова до Рязани". Дык жа і Чынгісхан падзяліў паміж сваімі сынамі ўсю заваяваную ім тэрыторыю і зямля Вашых продкаў адыйшла да ўлуса Джучы, у той час як Кітай адыйшоў да ўлуса іншага сына (каб жа не папракнулі мяне ў невуцтве, паясьню: Русь была разгромлена сынам Джучы – Бату-ханам (Батыям), а Кітай заваяваў іншы ўнук Чынгісхана – Хубілай). Уявіце ж сабе, што кітайцы нечакана зьявяцца перад Вамі з патрабаваньнем: а ну, далучайцеся да Паднябеснай, бо ж намі ўпраўлялі сваякі-ханы! Ці спадабаецца Вам?

А можа, па-Вашаму, Кіеўская дзяржава чымсьці адрозьнівалася ад мангольскай імпэрыі? Стваралася на аснове "агульнасаюзнага дагавору"? І плямёны яе ня сілаю падпарадкаваліся, а выбіралі сабе вялікіх князёў усеагульным, простым і тайным галасаваньнем...?

У Вас, зразумела, ёсьць “аргумэнт” у запасе, што так сказаць “народ Киевской Руси объединился в одном государстве” дзеля абароны ад зьнешніх ворагаў. Але назавіце хаця б адну бітву, у якой супраць супольнага ворага ваявалі ўсе гэтыя плямёны...? Не высіляйце памяці – ня ўспомніце. Ноўгарад сам адбіваўся ад скандынаваў (часам дапамогу даваў Полацак), Полацак – ад немцаў, Кіеў – ад Дзікага поля. Асноўнымі ж у Кіеўскай дзяржаве былі ваенныя дзеяньні паміж яе собскімі княствамі, паміж Кіевам і “ўдзеламі”, заселенымі рознымі плямёнамі. І калі прыйшоў грозны супольны вораг – татара-манголы, ці ж спаткаў ён аб’яднаныя сілы дзяржавы? Ці памагаў Кіеў Суздалю, ці памагаў Ноўгарад Кіеву? Не! І Батый прайшоў праз усю Кіеўскую дзяржаву, як сьцьвярджае Л.Н. Гумілёў, усяго толькі з трыццацітысячным войскам, захапіў і закабаліў львіную частку Кіеўскай імпэрыі, створанай русамі-палянамі – продкамі сучасных украінцаў. І такім правам Масква выступае цяпер спадкаемніцай палянаў?

У тым, што асобныя княствы Кіеўскай дзяжавы не памаглі адны другім у цяжкі час мангольскага нашэсьця, нічога дзіўнага няма: бо яны былі загнаныя ў Русь сілай і сілай жа ў ёй утрымоўваліся. Успомнім, Аляксандр Ісаявіч, у сувязі з гэтым гісторыю Полацкага княства – першай беларускай дзяржавы. Першым яе князям быў мясцовы прадстаўнік ваеннай знаці Рагвалод і судзячы па другой форме яго імя (Рогвальд), не славянін. Каля 980 году ноўгарадзкі князь Уладзімер захапіў Полацак, забіў Рогвальда, яго жонку і двух сыноў, а дачку Рагнеду (Рагнедзь) прымусам зрабіў сваёю жонкаю. Гэты ж Уладзімер, стаўшыся ў хуткім часе вялікім князям у Кіеве, і хрысьціў у сваіх інтарэсах Русь, за што з часам быў кананізаваны і залічаны да ліку сьвятых, ня гледзячы на кроў шматлікіх нявінных людзей, што афарбавала яго праступныя рукі.

Вядома, што Рагнеда ў Кіеве прабавала забіць Уладзімера, за што Ўладзімер яе разам з (сваім) сынам Ізяслававам адаслаў назад у Полацак. Гэтак Ізяслаў стаў полацкім князям і заснавальнікам новай полацкай дынастыі. Фармальна гэта дынастыя ішла ад Рурыкавічаў (праз Уладзімера), але фактычна была сваёю, мясцоваю, праз Рагнеду і Рагвалода. Аб гэтым сьведчыць хоць бы той факт, што полацкім князям на працягу XI-XII стст. неаднойчы давалася паганскае імя Рагвалод. Ды ня толькі гэта. Ужо сын Ізяслава, Брачыслаў (сам Ізяслаў папросту не пасьпеў, памёр маладым) у 1021 г. пачынае барацьбу з Кіевам, а сын Брачыслава Ўсяслаў вядзе супраць Кіева сапраўдную і шматгадовую вайну. Аб гэтай вайне ў “Слове пра паход Ігараў” зьберагласе зацемка, што “на Немизе (гэта значыць, у раёне сучаснага Менска) снопы стелютъ головами, молотятъ чепи харалужными, на тоце животъ кладутъ, веютъ душу отъ тела. Немизе кровави березе не болотомъ бяхутъ посеяни – посеяни костьми рускихъ сыновъ”. Гэты Ўсяслаў быў узяты кіеўскімі князямі ў палон, але вызвалены жыхарамі горада і нават праклямаваны вялікім князям, аднак жа ня стаў княжыць у Кіеве, тайком вярнуўся ў Полацак (“скочи отъ нихъ лютымъ зверемъ”), хаця і быў фармальна Рурыкавічам.

Ці ж ня сьведчыць гэта, што полацкая дынастыя ня лічыла сябе кіеўскай галінаю? І што Вы скажаце пасьля гэтага, адносна адзінага “народа Киевской Руси”, адносна таго, што намі кіравалі адны і тыя ж князі?

Яшчэ адзін Ваш аргумэнт у карысьць таго, што Ўкраіна і Беларусь павінны застацца ў Расеі – што самі Вы “едва не на половину украинец...”, а “в скороной Белоруссии” правялі “большую часть своих фронтовых лет”, і “до пронзительности” палюбілі “её печальную скудность и её кроткий народ”.

Ня буду гаварыць за ўкраінцаў, іх справа, ці згодзяцца яны, ці не, на расейскае ярмо таму, што Вы “едва не на половину украинец”. Сам жа я на “братское руководство” дзеля таго, што Вы нас палюбілі, не згаджаюся. Прабачце мне, але я ня веру ў Вашу любоў да беларусаў. Любячы, жадаюць лепшага, а не горшага таму, каго любяць, ці па-Вашаму, няволя – лепшая волі? А я ж думаў, што вы, правёўшы столькі страшных гадоў у “архіпэлягу” маеце адрозны погляд. Або ў Вас адна мерка – для сябе, а для беларусаў – другая?

Далей – калі і любіць, то ці не драпежнай любоўю? Воўк таксама любіць авечку, бо яна яму смакуе, нічым ня грозная страва. На гэта нагадвае фраза з Вашага трактату: Вам вельмі па душы, што на Беларусі "не распаляли безоглядного сепаратизма". І яшчэ: беларускі народ Вы называеце "кротким", нешта як авечка (па Далю: "кроткий" – ціхі, скромны, спакойны, любячы, пакорны, стрыманы, нязлосны, многацерпялівы. Зразумела, такога ня трэба супакойваць). І Вы стварылі сабе такое паняцьце аб беларускім народзе ў франтавыя гады? Дазвольце проста Вам сказаць, што Вы хлусіце. Вы пачарпнулі гэта з казённай расейскай гісторыяграфіі, дзе беларусы прадстаўляюцца настолькі пакорнымі, што дазволілі захапіць сябе маленькай кучкай літоўцаў, пасьля – палякамі, і толькі магутная Расея ўратавала ў канцы ад акаталічваньня і пагалоўнага апалячваньня, і каб не было гэтай ратуючай Расеі, дзе ж мы, беларусы, былі б цяпер. Я паўтараю – Вы хлусіце, таму што ні ў якога з франтавых карэспандэнтаў, якія былі падчас вайны на Беларусі, язык не павярнуўся назваць мой народ пакорным, якому яны ўважалі даваць зусім іншы эпітэт – "гераічны", а Радзіме маёй – "Партызанка". Беларусь – партызанка. Так гэтыя словы разам і паўтараюцца да гэтага часу, што і ёсьць зусім справядліва.

[…]

Вы ня першы сьцьвярджаеце аб пакорнасьці беларусаў, як-бы пераконваючы: "Куды вам у самастойнае плаваньне! Вас зьядуць, задушаць. Абы хто – літоўцы, палякі... Толькі Расея вас абароніць". Але ж мы абыходзіліся неяк бяз вашай абароны сотні гадоў!

Нашыя продкі, у адрозьненьне ад Вашых, не пусьцілі на сваю зямлю татараў, адбілі іхныя спробы разграбіць і закабаліць. Запрошаныя Гедзімінам татары былі ў нас не гаспадарамі і ўладальнікамі нявольнікаў, не гвалтаўнікамі і зьбіральнікамі даніны, як у Вас, а гэтакімі ж падданымі дзяржавы, як усе. Вашая гісторыяграфія ўнікае тлумачэньня, чаму Беларусь ёсьць адзінай усходне-славянскай краінай, якая не была пад Ардой. Бессэнсоўна тлумачыць гэта балотамі, празь якія быццам не маглі прайсьці татарскія коні – як быццам вакол Масквы ў той час было менш балота. Сіла духа нашых продкаў, іхная любоў свабоды і мужнасьць пад увагу не бяруцца, як-бы іх зусім і не было – "беларусы – пакорны народ".

Ваша гісторыяграфія да сёньняшняга дня адкідае ўдзел беларусаў у бітве пад Грунвальдам, дзе яны колькасна займалі другое месца ў злучаных сілах Польшчы і Літвы, а смаленскія палкі, што здабылі сабе несьмяротную славу на Грунвальдзкім полі, называе "русскими", хоць дасканала вядома, што, па-першае, Смаленшчына і Браншчына зьяўляюцца часткай этнічнай Беларусі, а па-другое, смаленскія палкі ўключалі ў сабе і войска ўсходняй Магілёўшчыны і Віцебшчыны, а ачольваў іх мсьціслаўскі князь Сямён Альгердавіч.

У летку гэтага году адзначалася 580-годзьдзе Грунвальда; уся маскоўская прэса, маскоўскае радыё і тэлебачаньне, як на каманду, падавалі, што адзначаецца гадавіна перамогі над немцамі палякаў, літоўцаў і расейцаў – гэтак, як бы не было на Грунвальдзкім полі 20 беларускіх харугваў (палкоў).

Вашая гісторыяграфія да гэтага часу сьцьвярджае аб заваяваньні Беларусі празь Літву, якое сталася як бы таму, што літоўцы выкарысталі "аслабленьне заходне-рускіх зямель" у выніку татарскага нашэсьця. Як бы беларусы ёсьць настолькі пакорны народ, што маглі адно пераходзіць з рук у рукі: аслабела Русь – захапіла Літва, аслабела Літва – захапіла Польшча. Пры гэтым гісторыкаў зусім не зьдзіўляе той факт, што ў Вялікім княстве Літоўскім была паўсюдна ўжываная старабеларуская мова, якая была дзяржаўнаю моваю, а пісьмовая літоўская мова зьявілася адно ў XVI стагодзьдзі.

Не зьдзіўляе іх і тое, што палова сучаснай Літвы – Жамойць – у часе заснаваньня Вялікага княства Літоўскага была пад уладай крыжакоў, так што, мабыць, Беларусь прыйшлося "заваёўваць" адно ўсходняй Літве, насельніцтва якой ледзь састаўляла дзясятую частку насельніцтва Беларусі.

Ваша сьвяціла Л.Н. Гумілёў тлумачыць гэта нейкай “пассионарностью” літоўцаў (высмактаны з пальца тэрмін). Чаму ж з такой “пассионарностью” яны ня скінулі ў Балтыйскае мора крыжакоў, чаму дазволілі зьнішчыць братоў-прусаў, чаму Жамойць знаходзілася пад уладай Ордэна аж да Грунвальдзкай бітвы?

Цяпер установлена (гісторыкам М.І. Ермаловічам), што летапіснае племя, якое называлася “літва”, не зьяўлялася продкам сучасных літоўцаў. Больш таго, ёсьць пастаўлена аргумэнтаваная мною гіпатэза, паводле якой летапісная літва была не балцкім, а фіна-вугорскім племям. Племя літва, паводле М.І. Ермаловіча, разьмяшчалася пасярод славянаў, паміж Менскам і Наваградкам і пры помачы яе князёў Міндоўга і Войшалка было заваёвана Наваградкам, з чаго і бярэ свой пачатак Вялікае княства Літоўскае – старабеларуская дзяржава, у якой продкі сучасных літоўцаў займалі падначальнае і пабочнае становішча.

Пасьля таго, як літва згінула, асыміляваўшыся зь беларускім народам, яе назоў, на падставе тэрміналягічнай блытаніны, перайшоў на сучасных літоўцаў (гэткая самая блытаніна паўстала і з назовам “рускія”, прысвоеным маскалямі). Аб тым, што ў састаў беларускага народу ўвайшла вялікая група фіна-вугорцаў, сьведчаць многія сотні беларускіх прозьвішчаў, расшыфраваныя па сучасных фіна-вугорскіх мовах.

Гэткая ёсьць праўда гісторыі, якой стагодзьдзямі не давалі вырвацца з-пад цяжару Вашай самадзяржаўнай гісторыяграфіі. Яна хлусіла і хлусіць да сёньняшняга дня, апляваўшы мінуўшчыну беларусаў і украінцаў, прамоўчваючы подзьвігі нашых продкаў.

[…]

Чым-жа адплацілі Вашыя продкі нашым за падтрымку ў барацьбе з татара-манголамі, за заслону ад немцаў у тыя стагоддзі, калі само існаваньне славянства на Вашых землях апынулася пад пытаньнем?

У галовах маскоўскіх правіцеляў здаўна жыла ганарыстая думка, быццам гэта яны зьяўляюцца нашчадкамі Кіеўскай дзяржавы. Вінішчая іншых Рурыкавічаў, яны расчышчалі сабе шлях да аднаасобнага ўладарства над “всей русской” тэрыторыяй, жывілі і цешылі сябе прэтэнзіямі на “всерусское” панаваньне. Ужо Васіль І разарваў дамоўленасьць з Вітаўтам аб сумеснай дапамозе супраць тарараў у сувязі з далучэньнем да Вялікага княства Літоўскага Смаленскага княства. Нагадаю, што Смаленшчына спрадвечна заселеная продкамі беларусаў – крывічамі, маскоўскім князям да таго не належала, гістарычна-ж склала адзінае цэлае з Полацкам.

[…]

У расейскай гісторыяграфіі само сабой зразумела, што лівонская вайна з боку Масквы была законнай і справядлівай, паколькі Масква дабівалася выхаду да мора. Якраз так-жа цалкам законнай і справядлівай лічыцца і Паўночная вайна, развязаная Пяторм І. Але якім-жа будзе парадак ў сьвеце, калі кожны, хто сільны, будзе лічыць, што ён мае права пакрыўдзіць слабога на той выснове, што гэтаму сільнаму нешта патрэбна? У нашы дні, напрыклад, цэлы шэраг эўрапейскіх краін не маюць выхаду да мора. Дык няўжо яны маюць права дамагацца яго ўзброеная сілай.

Вы пэўна ня згодзіцеся са мною як прадстаўнік народа-агрэсара, але я заўсёды буду сьцвярджаць, што даўно насьпела неабходнасьць перагляду ацэнцы характару Лівонскай (Маскоўскай) і Паўночнай войнаў. Тым больш, што на гэты дзень знаходзяцца публіцысты і нават палітыкі, якія прад’яўляюць прэтэнзіі на Прыбалтыку на той выснове, што нібыта “гістарычна” яна “еще с XVIII века была в составе России”, - забываючы ўспамянуць, якім чынам у складзе Расеі апынулася.

[…]

Што-ж прынёс Беларусі "возврат в Россию". Як Вы называеце анэксію, той самы "возврат”, які па Вашых словах, "был всеми тогда осознаваем как Воссоединение"?

Вядома, што Украіна, якая апынулася пасьля 1654 г. у маскоўскай пастцы, спярша карысталася нейкай аўтаноміяй, існавала гэтманская пасада. Але гэта было не што іншае, як бачнасьць аўтаноміі (за спробы дзьмуць не у расейскую дудку гэтманы жорстка караліся), і дадзена яна была толькі дзеля таго, каб Украіна не качнулася ізноў да Рэчы Паспалітай. Калі-ж апошняя "приказала долго жить", ураз зьнікла і ўкраінская аўтаномія, Добра вядома таксама, што да "воссоединенияі" Украіны з Расеяй на Украіне не было прыгону. Гэта "памылка" была "выпраўлена" расейскімі царамі.

Беларусь не было патрэбы "поощрять" за адлучэньне ад Рэчы Паспалітай, бо анэксія Беларусі адбылася адначасова з ліквідацыяй "Рэспублікі абудвых народаў" ("Жэч-посполата па-польскі – рэспубліка). Па гэтаму аўтаномія Беларусі царызмам не надавалася ніколі.

[…]

Зусім інакш аднесьліся да народу Беларусі "освободители" і "воссоединители". Быццам черная хмара груганьня, наляцелі князі і графы, генералы вайсковыя і грамадзянскія, каханкі імпэратрыцы дзяўбці цела "освобожденной" і "воссоединенной". Новым расейскім уладальнікам быў разданы мільён беларускіх сялян! Адзін Сувораў, які заліў крывёй Рэч Паспалітую, які зьнес з твару зямлі мноства беларускіх крэпасьцяў і замкаў, атрымаў 13 тысяч. Паэт Дзяржавін і той "урваў" вёсачку - 300 душ.

У адрозьненьні ад Украіны, на Беларусі да часу "воссоединения" прыгон пасьпеў скласьціся. Але гэта была параўнальна гуманная сыстэма. Тут уласнасьць на зямлю грамады дзякуючы палітыцы дзяржавы распалася. Сяляне падзяліліся зямлёй у межах адной валокі на гаспадарку (валока - 20 гэк.). За такі надзел яны абавязаны былі адрабляць паншчыну -2 дні на тыдзень, а хто адносіўся да катэгорыі "агароднікаў" - 1 дзень. Усё гэта не ішло ў ніякія параўнаньні са становашчам сялян у Расеі, дзе паншчына адраблялася да 5 дзён у тыдзень, а грамада з яе бясконцымі перадзеламі зямлі, кругавой парукай таксама зьяўлялася формай закабаленьня. У Расеі сяляне прадаваліся і купляліся, а ў Вялікім княстве Літоўскім аб гэтым не было і мовы. "Воссоединение" прывяло за сабою ў беларускую вёску расейскія парадкі.

Шляхта ў Рэчы Паспалітай складала да 10% насельніцтва. Тут шляхэцкае (дваранскае) званьне было досыць даступным. Дастаткова было селяніну ўступіць дабраахвотнікам у войска, каб вызваліцца ад прыгоннае залежнасьці і зрабіцца шляхціцам. У сувязі з тым у Рэчы Паслалітай была вялікая маса шляхты, якая не валодала нічым, акрамя званьня шляхціца. Царызм зьвёў усю гэту шляхту да становішча "просталюдзінаў", прызнаючы за шляхту толькі тых, хто валодаў сялянамі.

[…]

У рэлігійных адносінах Вялікае княства Літоўскае было стракатым. Тут ужывалася праваслаўе і каталіцызм, вуніяцтва, магамэтанства, іудаізм. Нягледзячы на непаразуменьні, канфэсіі жылі паміж сабой дастаткова мірна (выключэньне складаюць толькі эпізоды контррэфармацыі, але гэтакай яна была па ўсёй Эўропе). Сюды беглі ад уціску расейскія стараверы. Пасьля "воссоединения" ім быў учынены сапраўдны разгром. Пасьля царызм вынішчыў уніяцтва. Сталым ганеньням аказаліся каталікі, якія трактаваліся як "палякі".

Расейская гістарыяграфія настойвае, нібыта расейская мова, расейскі народ складаецца на стагодзьдзе раней чым беларускі і украінскі народы, беларуская і украінская мовы. Гэткае сьцьверджаньне, верагодна, паклікана падкрэсьліць, "старшынство" "старэйшага брата". Але як-жа гэта магло быць, калі беларуская мова ў Вялікім княстве Літоўскім, як была дзяржаўнай, разьвівалася свабодна, па сваіх заканамернасьцях, а продкі расейцаў прыгняталіся мангола-татарамі? Бо пры гэтым прыгнечвалася і мова, якая засьмечвалася цюркізмамі. У выніку расейская нова ў сваім разьвіцьці адстала ад беларускай, у сувязі з чым у XYI-XYII стагодзьдзях разьвівалася пад

мацнейшым уплывам апошняй. Гэты ўплыў ішоў па лініі абодвых разнавіднасьцяў – беларускае - царкоўна-славянскай і беларускай літаратурнай мовы. Зьдзіўляцца тут няма чаму. У X-XШ ст.ст., наперадзі земляў, якія зараз адносяцца да Расеі, ішоў Кіеў, і тады ўладзімірска-суздальскімі грамацеямі была ўспрынята пісьмовая мова Кіеўскай дзяржавы, мова летапісаў і "Слова пра паход Ігаравы”, а таксама мова Бібліі, якая прыйшла ў Кіеў з поўдня. Пачынаючы з ХУ стагодзьдзя, тон ва ўсходне-славянскай культуры сталі задаваць беларускія гарады і асьветніцкія цэнтры. Тут склаўся свой варыянт царкоўна-славянскай мовы, а таксама старабеларуская літаратурная мова, узьнікае мастацкая літаратура і публіцыстыка, зьяўляюцца спэцыялісты па мове.

У Маскве падобных людзей не было. Працы беларускіх лінгвістаў выкарыстоўваліся для навучаньня моладзі і нешматлікіх тады вучэбных установах Расеі. Па кнізе Мялеція Сматрыцкага "Граматики словенския правильная синтагма" расейскіх дзяцей вучылі больш 100 гадоў, аж да таго часу, калі Ламаносавым была напісана новая граматыка. Сам Ламаносаў называў граматыку Сматрыцкага "вратами учености".

Расейскай гістарыяграфіі ня хочацца прызнаваць, што на працягу ста год Масква вучылася па граматыцы беларускага лінгвіста. Гэты факт упамінаецца рэдка. Напрыклад, у "Советском Энциклопедическом Словаре" аб Сматрыцкім сказана толькі наступнае: "Мелетий Смотритский (ок. 1575-1633), ученый филолог, церковный и общественный деятель Юго-Западной Руси. Грамматика церковно-славянского языка (1619). Полемические церковные труды». Што гэта за “Юго-Западная Русь" у дачыненьні да XVII стагодзьдзя - паспрабуй дагадацца, бо да таго часу Русь (Кіеўская дзяржава) ужо чатырыста год не існавала. Затое ужо была назва Расея, другим варыянтам якой была "Русь". Выходзіць, Мялеці Сматрыцкі быў дзеячом Паўднёва-Заходняй Расеі, раёна Курска? Але ён там і ня быў ніколі. Нарадзіўся ў горадзе Смотрыч на Украіне (зараз Хмяльніцкая вобласьць), а дзейнасьць яго праходзіла на Беларусі, тут і граматыка яго была выдадзена.

Расейскі дасьледчык М.М. Дурново піша: "Во второй половине XVII в. церковно-славянский язык Московской Руси подвергся сильному влиянию церковно-славянского языка Западной Руси (гэта значыць, Беларусі. І. Л.). Исправление богослужебных книг, проведенное патриархом Никоном в 50-ых и 60-ых годах XVII в., касалось в значительной степени их языка, внося в него изменения согласно нормам церковно-славянского языка Западной Руси". Вось так Аляксандр Ісаевіч…

*Паводле: Голас Часу. Лондан, 1991 №15(6)*

**Рыгор Барадулін.**

## 25 сакавіка

Веснапомных вятроў талака
Тыл з кароны атрэсла іржавы.
Шматавалі нас досыць арлы
І з адной, і з двума галавамі.

Мы не з нечае нейкай імглы,
Нас вякі, як сваіх гадавалі;
Мы ратаі святла-крывічы,
Верхачы неўміручай Пагоні, -
Маладзік з сакалом на плячы,
Гартны меч у цвярдой далоні.

Лучыць нашыя мары рака
Бел-чырвона-белага Сьцяга
25 сакавіка –
Наша сьвята – юдоль і адвага.

*Верш зачытваўся аўтарам 25 сакавіка 1993 г. з трыбуны Белдзярджфілармоніі (Мінск) падчас урачыстага паседжання кіраўніцтва і грамадскасці Рэспублікі Беларусь, прысвечанага 90-м угодкам БНР. Назаўтра Сп.Рыгорам гэты тэкст быў прадыктаваны па тэлефоне ў Маскву, укладальніку “Скарыніча”, дзеля ўшанавання Гадавіны ў беларускім асяроддзі расійскай сталіцы.*

**Ніл Гілевіч. Сакавіцкая прыпавесць**

Мова - душа народа. Хочаце ацалець у свеце як народ - беражыце і культывуйце родную мову.
Ду Ху, «Вечныя ісціны»,
4999 год да нараджэння Хрыста.

Народу не мова, народу каўбаса трэба. Будзе каўбаса – патрапіць з 'есці і без мовы.
Цю Цю, «сумневу не падлягае»,
1999 год па нараджэнні Хрыста.

За пяць тысяч гадоў да прышэсця Хрыстова,
Як засведчыў вялікі філосаф Ду Ху,
Людзі зналі, іх з немасці вывела Слова;
Мова родная, - скажам дакладней крыху.

Мова іх аддзяліла ад статку бязмоўных
І зрабіла людзьмі, і лучыць пачала:
Перш - у роды, а роды затым - у плямёны,
А плямёны - у народы з'яднала-зліла.

Мова. Мова па волі Усявышняга стала
Той чароўнаю сілаю, магіяй той,
Што ішла ад зямлі і ў людзей пранікала
І рабіла іх душы адзінай душой...

Гэта знала сем тысяч гадоў чалавецтва,
І сем тысяч гадоў людзі верай жылі,
Што ім мова свая для таго і даецца,
Каб не ўмерлі навек і сабою былі.

І ніхто за сем тысяч гадоў на планеце
Гэта веру святую абвергнуць не мог.
Мову кожны павінен у сэрцы пранесці
Праз жыццё да канца - на смяротны парог!

Мова сілу дае, жывіць душы людскія,
Акрыляе і лечыць, як прыйдзе бяда.
Мова - духу матэрыя, мова - стыхія,
Як паветра, як гром, як агонь, як вада.

Гэта зналі не толькі сяўцы-хлебаробы,
Пастухі, кавалі, ганчары, песняры;
Гэта зналі і людзі нялюдскай пароды –
Самадуры-тыраны, блюзнеры-цары.

Зналі: мова яднае людзей і гуртуе
У сям'ю-грамаду, як сясцёр і братоў.
І нішто так ад смерці народ не ратуе,
Як да роднае мовы святая любоў.

Згіне мова - і згіне народ як асоба,
Бо без мовы сваёй - без уласнай душы –
Ён ужо не народ, а сабраны часова
Выпадковы натоўп на жыцця кірмашы.

А натоўп - гэта той жа па сутнасці статак.
А на статак - даволі біча-бізуна,
Каб і волі, і памяці выбіць астатак,
Каб у прорву нябыту сышоў без імя.

І рашылі зьлябы: раз мы хочам страшэнна,
Каб вось гэта зямля, што ад песень звініць,
Стала нашай навек - самай першай мішэнню
Трэба мову абраць. Трэба мову забіць!

І ўзяліся зьлябы як нічога не вартай
Ходу ёй не даваць, у правах адмаўляць,
У цямноце людскай аб'яўляць вінаватай,
Здзек-насмешку чыніць, ядам з душ вытраўляць.

Ды саму па сабе хіба мову магчыма
Атруціць ці забіць? Значыць, трэба на звод
Звесці тых, хто яе любіць верна і шчыра,
Хто ёй крылы дае. Трэба іх - у расход!

У расход! - і ніякай спагады «туземцам»,
Што з усёй Беларусі сышліся на сход,
Што пад знакам Пагоні наважылі сэрцам
Сцвердзіць волю сваю, - у расход! у расход!

Па адным і па трое, па пяць і па восем –
Каб хутчэй як мага, каб як меней турбот.
Сотні самых найсветлых, найзвонкагалосых,
Найадданых сыноў - у расход! у расход!

А каго не адразу схавалі ва ўлоннях
Неабсяжнай шчаслівай савецкай зямлі –
Тых на лесапавале ці ў каменаломнях
Змардавалі суздром і ў магілу звялі.

Там, дзе тлеюць іх косці - у полі ці ў лесе,
Дзе ні следу ні знаку аб памяці іх, -
Там і тысячы імі не складзеных песень,
Там і тысячы іх ненапісаных кніг!..

Ну, здалося зьлябам: даканалі! Дабілі!
Уздыхнулі - і ў светлае заўтра хутчэй!
Прыпыніліся: што тэта? Скрозь у даліне –
Зноўку мова гучыць! Можа, нават званчэй.

Зноўку льюцца-лунаюць чароўныя гукі,

Абуджаюць разлегласць наўкол і наўсцяж.
Гэта тых, расстраляных за мову, унукі
Краю голас вяртаюць - як гонар, як сцяг.

Вунь іх колькі - у шумнай святочнай калоне!
Як па-весняму пошчакі гулка грымяць!
Як ім добра ідзецца пад знакам Пагоні! –
Той, якой не разбіць, не спыніць, не стрымаць!

Ну а хто там тырчыць на абочыне - кіслы
І паніклы якісь, бы не рады жыццю?
- Гэй! - гарэзна гукаюць яму гімназісты, -
- Далучайся да нас, грамадзянін Цю Цю!

*Сакавік 1999*

**Кастусь Атрашэўскі**

**Волат**

*Нілу Гілевічу*

Скрозь беларус прарочыць свету
Пятлёй глумца не здушан ледзь, -
Пакуль грукоча глас Паэта,
"Зямлі бацькоў не анямець!"

Трывайце мужна, волат вольны
Наперакор брыдзе, мане
І будам верыць: кліч вызвольны
Забраны край устрапяне.

Рушэнцы - горды выклік свету -
Змагарна ўстануць там і тут,
Каб нескароны сцяг Паэта
З-пад багны глуму і пакут
Устрапянуў вагнём вячыстым
Ад набрыдзі ў краіне чыстай.

2001, 2006

**Пружыніць сэрца Беларусяй**

*Антону Сабалеўскаму,*
*глыбачаніну*

Прамоўлю ўрачыстым тонам –
("Буслы" слязацца кагадзе):
Няхай не зводзяцца Антоны
І Беларусь не прападзе.
Паненкаю зямную кулю
Касмічны водзіць карагод
Дык дружна чаркі перакулім
За твой, Антоне, помны год!
На родны край скіруем вока
Праз далеч вёрстаў і гадоў,
На абсягі зямлі Глыбокай –
Радзіму Собаляў, Драздоў,
Скуль праз гасцінцы і затокі –
Хай цяжка, сіберна было –
Сягае высака-далёка
Тваё крывіцкае крыло.
Хаця прыймаюць часам болькі
Ды скок рубля ўверх-уніз,

Але ж – на пульсе жонка Волька
І памагаты ўнук Дзяніс.
Зноў лапушацца вёсны-клёны,
Рунее сонечны абсяг,
Антосі, Змітракі, Алёны
Бацькоўскі ўздымаюць сцяг.
І скрозь – ў Маскве або ў Тарусе –
Куды нас лёс не пазаве –
Пружыніць сэрца Беларусяй,
Нясціхным грукае – Жыве!

1997

**Пётр Костюковец**

## Обрусевшему белорусу

Все стремятся к свободе вовеки -
Предок наш ее очень любил -
Не считай ты себя человеком,
Коль в себе порыв светлый убил.

Хочешь, чтоб под чужою неволей
Край Купалы и Коласа был?
Белорусом не быть тебе более,
Если мову родную забыл.

Разум твой "памяркоўны" запёкся,
Побирушка с чужого, немой,
Ты видал, чтобы русский отрекся
От державы и речи родной?

Над тобою смеются поляки
И не скрыть удивленья армян,
Молят Господа чехи, словаки,
Чтоб не гнобил ты чести славян.

Обрусевший, ты станешь козявкой -
Скажут: племя твоё отжило.
И, пришибленный, будешь под лавкой
Бормотать "Абы ціха было..."

*Перевод с белорусского К.Валовича*

**Іван Бурсаў**

# Мой Янка Купала

Ад тых далёкіх школьных дзён у памяці маёй не вельмі многа засталося - нейкія пачуццёвыя адбіткі: шоргат апалых лісцяў, прыемная цяплыня кафлянай грубкі, крывыя літары на шэрай ад размазанай крэйды класнай дошцы. І на гэтым, амаль выцвілым ад часу фоне - выразнае пачуццё нейкай сарамлівай няёмкасці, якая захавалася ад той далёкай, не вельмі прыемнай для мяне сустрэчы з Янкам Купалам.

Памятаецца, быў пярэдадзень нейкага свята, мабыць, кастрычніцкага, і мы, вучні малодшых класаў Клімавіцкай беларускай школы, рыхтаваліся да святочнага ранішніка - развучвалі, як іх называла настаўніца, "вершаваныя кампазыцыі". У адной з іх удзельнічаў і я. Не ведаю, чый верш мы развучвалі, ды і сам верш забыўся, застаўся ў памяці толькі адзін радок - "Самалёты, самалёты, стройным шэрагам ляцяць!" Ім пачынаўся верш, а я пачынаў дэкламацыю, і настаўніца патрабавала ад мяне "асаблівай выразнасці". Засланіўшыся даланёй, яна глядзела ў столь і гучна захаплялася: "Самалёты! Самалёты!.." І я кожны раз павінен быў паўтараць усё гэта ўслед за ёй.

Не ведаю, ці дасягнуў я той выразнасці, якой патрабаваў густ настаўніцы, але яна нарэшце дазволіла мне сесці. Я сядзеў за партай і назіраў, як ля школьнай дошкі нараджалася новая "кампазыцыя". На настаўніцкім стуле сядзела круглатварая, пухленькая аднакласніца, увасабляючы сабой маці, а на яе каленях уладкавалася хударлявае, цыбатае дзяўчо, яе сяброўка па парце, выконваючы ролю дачкі.

Спі, засні, мая дзетка,
Птушкі ўжо заснулі.
Спі, засні, мая кветка,
Люлі, люлі, люлі! –
нараспеў дэкламавала “маці”.

“Дзетка” ёрзала на “матчыных” каленях, з якіх увесь час спаўзала і, каб утрымацца, шкрэбала стаптанымі абцасамі па падлозе. Але гэта не дапамагала і яна спаўзала ўсё ніжэй і ніжэй, і яе тоненькія, у стоптаных чаравіках ногі, нібы дзве хадулінкі, абцянутыя панчохамі “у рубчык”, дапаўзлі ўжо амаль да першай парты, дзе я сядзеў.

Мне стала смешна і я гучна зарагатаў на ўвесь клас. Але тут жа папярхнуўся ад позірка настаўніцы. Ужо не прыпомню, як яе звалі, маю першую настаўніцу. Згубілася і яе імя сярод многіх другіх імёнаў добрых людзей, якія вучылі мяне ўму-розуму на працягу майго задоўжанага навучэння. Захавалася ў памяці толькі яе размытае аблічча ды позірк – востры, пранізлівы, ад якога адразу ўзнікала пачуццё вінаватасці. Менавіта такім позіркам і глядзела на мяне настаўніца.

- І табе не сорамна? – ціха запытала яна.

Я яшчэ не разумеў, чаму мне павінна быць сорамна, але сумеўся.

- І табе не сорамна кпіць з вершаў? – удакладніла настаўніца і дакорліва дадала: - З паэзіі?

Яна доўга, не павышаючы голаса, тлумачыла, - мабыць, не толькі мне, - што ўсе добрыя вершы называюцца паэзіяй. І што верш, які развучваюць дзяўчынкі – добры верш, і называецца – “Алеся”, а напісаў яго выдатны беларускі паэт Янка Купала. І што добрыя вершы, паэзію, трэба вучыцца разумець, а не кпіць з яе…

І хоць я смяяўся зусім не з таго, за што выгаварвала мне настаўніца, усё роўна было па-сапраўднаму сорамна…

Многа гадоў прайшло ўжо з тае пары. Але той далёкі, выцвілы ад часу, восеньскі дзень калі-некалі ды і ўсплыве ў маёй памяці. Варта пачуць купалаўскую “Алесю”, як ва мне на імгненне прачынаецца сарамлівая дзіцячая няёмкасць ад першай няўдалай

сустрэчы з вершамі беларускага песняра – Янкі Купалы…і, дзіўна, зусім недарэчы, чамусці, а тоненькія ногі-хадулькі, абцягнутыя дзіцячымі панчохамі “у рубчык”, выклікаючы да гэтай пары ўсмешку, нібы дзеля таго, каб згладзіць гэтае няёмкае пачуццё…

* * *

Адчуванне паэзіі прыйшло да мяне само, без усякага павучання, і дапамог мне ў гэтым сам Янка Купала. Зараз, аглядаючыся назад, я нават ведаю, калі гэта здарылася. Вучыўся я тады не толькі ў другой школе, але і ў другім горадзе – у Менску.

Быў сонечны дзень пачатку сакавіка 1940 года і пасля сцюдзёнай зімы, якая выдалася ў гэтым годзе і на Беларусі, здаваўся пранізліва-яркім, а калі глядзець на яго праз акно, нават цёплым. Усе тры вокны нашага пятага класа выходзілі на поўдзень, а вокны былой жаночай гімназіі былі дастаткова вялікімі, і ў класе было вельмі светла і неяк па святочнаму радасна.

Быў урок беларускай літаратуры. З беларускай мовай у мяне цяжкасцей не было. Пісаў я амаль без памылак – не тое, што па-руску, - усё, што трэба было запамінаць, запаміналася неяк само сабою, а ўрокі літаратуры, як беларускай, так і рускай, былі для мяне, наогул, прыемным баўленням часу. Гэты ж урок я чакаў з асаблівым нецярпленнем. Справа ў тым, што я замест адной, першай, глаўкі купалаўскай паэмы “Курган”, якую трэба было вывучыць на памяць, за адзін вечар вывучыў дванаццаць, увесь твор цалкам, зачараваны яго прыгажосцю, узнёсласцю. Радкі запаміналіся неяк самі сабой. Мілагучныя і выразныя, яны западалі ў душу, поўнілі яе нечым загадкавым – хвалюючым і святочным, чым карцела падзяліцца з другімі, і ў першую чаргу з настаўніцай.

І толькі адно засмучала мяне ў той дзень, што наша малодзенькая прыгожая “беларуска”выглядала неяк не так, як заўсёды. Звычайня ўсмешлівая, рухавая, як дзяўчынка, яна ўвайшла ў клас неяк запаволена, вочы яе блішчалі, нібы яна нядаўна плакала. “Беларуска” павольна палажыла на стол класны журнал, кіўнула ўсім галавой і ціха запытала:

- Якое ў нас хатняе заданне?

- “Курган” Янкі Купалы! – выпаліў я звонка і ўзняў руку, з радасным жаданнем быць тут жа выкліканым да стала.

Але настаўніца, якая звычайна пахвальна ставілася да такой актыўнасці, на гэты раз адрэагавала неяк абыякава. Моўчкі раскрыла класны журнал і пачала выклікаць па алфавіту. Але слухала неяк няўважліва.

Праз колькі хвілін падышла і мая чарга.

Паміж пустак, балот беларускай зямлі
На ўзбярэжжы ракі шумнацечнай, -

пачаў я чытаць, адчуваючы, як радкі самі, падштурхоўваючы адзін аднаго, рвуцца на волю.

А “беларуска” тым часам раскрыла мой дзённік, абмакнула пяро ў чарнільніцу-невылівайку і, затрымаўшы руку над маім дзённікам, уставілася доўгім позіркам у акно.

А я дэкламаваў. Ужо скончыў чытаць тое, што было зададзена і, рады, што мяне не спыняюць, працягваў чытаць далей, і мне здавалася, што само мінулае забівае мой дых даўкім палыновым водарам, звініць ў вушах “звон-песняй жывучых гуслярвых струн”, і што я асабіста прысутнічаю пры падзеях, якія адбываюцца на зямлі, дзе я нарадзіўся, і што я ў адказе за ўсё, што дзеецца і што будзе дзеяцца надалей.

Настаўніца адарвалася ад акна і здзіўлена паглядзела на мяне, нібы толькі што ўбачыла, - прыслухалася, зразумела, што я даўно ўжо прачытаў тое, што яна задала, але прыпыняць не стала, толькі ручку, якую ўвесь час трымала над дзённікам, апусціла на стол.

А я працягваў чытаць:

“Гэй ты, князь! Гэй, праслаўны на цэлы бел-свет,
Не такую задумаў ты думу, -
Не дае гуслярам сказу золата цвет,
Белых хорамаў п’яныя шумы.

Голас мой металёва звінеў ад пачуцця ўласнай годнасці, бо гэта казаў ужо не я, а белы, як лунь, знакаміты дзед-гусляр, які пад звон непадкупных гусляў бязбоязна кідаў жорсткія словы ў вочы магутнаму і грознаму валадару:

Бачыш, княжа, загоны, лясы, сенажаць, -
Ім пакорны я толькі з гуслямі,
Сілен, княжа, караць, галаву сілен зняць, -
Не скуеш толькі дум ланцугамі.

Я быў упершыню заварожаны паэтычным словам, адчуў сілу яго ўздзеяння, і не толькі на мяне. У класе стаяла цішыня, моўчкі глядзела на мяне “беларуска” і павольна ківала галавой, твар яе неяк прасвятлеў, у вачах з’явілася знаёмая цеплыня – яны нібы адтаялі. А я ўсё чытаў, і мне здавалася, што чытаю я ўсё лепш і лепш, адчуваючы, як усхвалявана б’ецца маё сэрца. Мабыць, тады я ўпершыню адчуў магічную сілу паэзіі.

Я раптоўна адчуў, што Янка Купала сваімі надзвычайнымі, пранікнёна-узнёслымі радкамі на нейкія хвіліны аб’яднаў усіх нас: мяне – упершыню захопленага чароўнасцю паэтычнага слова, маіх аднакласнікаў, якія слухалі мяне так уважліва, нібы я дзяліўся з імі нечым патаемным, што датычылася і хвалявала ўсіх нас, і галоўнае – нашу “беларуску”, якая мела непасрэднае дачыненне да гэтага дзіва, якое дапамагло адолець той боль, з якім яна прыйшла ў той дзень на ўрок. Мы толькі потым даведаліся, што ў тую раніцу яна атрымала вестку: яе муж, старэйшы лейтэнант Чырвонай арміі быў цяжка паранены ў Фінляндыі ў час штурму Выбарга.

***

І яшчэ адна сустрэча з Янкам Купалам, якая ўрэзалася мне ў памяць. Здарылася гэта значна пазней, калі я быў ужо сябрам Саюза пісьменнікаў. Памятаю, у Мінску адзначалася нейкая літаратурнае мерапрыемства, і пасля афіцыйнай часткі ў Доме літаратараў гаспадары і госці-пісьменнікі накіраваліся ў парк імя Янкі Купалы, каб па традыцыі ўскласці кветкі да помніку Народнаму паэту. Мы з адным з маскоўскіх паэтаў-перакладчыкаў стаялі крыху наводдаль і аб нечым размаўлялі. Мы былі гасцямі, абое прыехалі з Масквы.

- А не великоват ли? – паміж іншым з усмешкай запытаў мяне мой субяседнік, кінуўшы галавой у бок, дзе над маладымі ліпамі ўзвышалася магутная бронзавая постаць Паэта-прарока.

Я не адразу зразумеў, куды хіліць мой маскоўскі калега, але адказваць не хацелася. Мы моўчкі глядзелі на вялікасны помнік Янку Купалу і маўчалі. Я не ведаю, аб чым думаў у гэты час маскоўскі госць, але перад маім ўнутраным зрокам праяўляўся мой Янка Купала – жывы, з плоці і крыві, - хаця я ніколі ў жыцці не бачыў яго сваімі вачамі. Той Купала, які ўпершыню ўвайшоў у маё дзяцінства з сваёй “Алесяй”, якую так чулліва разыгрывалі мае равесніцы-першаклашкі; той Купала, чый “Курган” зачараваў мяне сваёй казачнай яскравасцю і эпічнай узнёсласцю: Купала, што адкрыў мне невычарпальны свет Паэзіі, у якім не згубіліся і блішчынкі беларускага слова – мовы той зямлі, за шчасце якой усё жыццё маліўся Янка Купала:

Малюся я небу, зямлі і прастору,
Магутнаму Богу – ўсесвету малюся,
Ва ўсякай прыгодзе, ва ўсякую пору
За родны загон Беларусі.

Пасля працяглага маўчання я адказаў:

- По-моему, в самый раз…

*1999*

Послесловие

Очевидно, рассказ мой о Янке Купале будет неполным, если я не упомяну о нашей последней с ним встрече. Было это совсем недавно, летом 2006 года, на Купалье, в очередную годовщину рождения белорусского классика, когда группа московских белорусов пришла с цветами к памятнику нашему Песняру. Памятник появился совсем недавно, тихо и незаметно, на Кутузовском проспекте, неподалёку от Поклонной горы, за которой начинается Минское шоссе - дорога в родную Беларусь.

С задумчивой отстраненностью возвышается Янка Купала, всматриваясь в иную, ставшую незнакомой для него Москву, которую он видел в последний раз с балкона пятого этажа одноименной гостиницы…

Цветы, которые принесли москвичи-белорусы своему великому земляку, были - в основном – полевые. Янка Купала очень любил живые цветы, которые растут сами по себе – на воле.

После этой встречи и появилось у меня вот это стихотворение:

**Янка Купала**

Он вновь в Москве!..
Для многих незнакомый,
Пройдя нелегкий путь длиною в жизнь,
Стоит в раздумьях вдалеке от дома,
На зыбкие перила опершись.

Нет, бронза лик его не изменила,
Не погасила взгляд его живой.
Он смотрит вдаль,
Не зная, что перила
Готовы рухнуть за его спиной.

Он весь в полете мыслей и стремлений,
В тревожных думах о родной земле…
Над ним шумят деревья,
Светотени,
Как отраженье мыслей, - на челе.

Он вновь в Москве…
Москва его впустила, -
С трудом, но узнает его Москва.
Нет, время лик его не изменило,
Купала – жив,
и Беларусь жива!

* * *

## Фрэска

Успаміны дзяцінства самыя маляўнічыя і трывалыя. Яны нібы фрэскі, што ўраслі сваімі фарбамі ў свежы тынк каменнай сцяны. Час цміць і сцірае больш познія напластаванні, а фрэскі застаюцца…

* * *

Па начах, калі не спіцца, праз глухое туканне пульсуючай у скронях цішыні, да мяне часам далятаюць цудоўныя гукі далёкай, прывабнай мелодыі. Я ведаю, што гэта такое. Гэта маё летуценнае Мінулае грае на пастуховай дудцы…

Некалі, даўным-даўно, я сам бачыў, як нараджалася гэта мелодыя.

Музыка стаяў ля паркана, увесь у ранішнім святле нібы вільготнага ад начное расы сонца і, граючы на дудцы, збіраў статак на ранкі. Даўжэзная пуга вісела ў яго на адным плячы, з другога – на разлахмачаным пасе – звісала ўёмістая палатняная торба. Рукі ён трымаў каля вуснаў, перабіраючы пальцамі па нейкай цыбуце. І мяккая мілагучная мелодыя разам з сонцам задумліва падымалася над зямлёю, чароўнымі гукамі расцякалася па ўсяму наваколлю.

Гэта было наваколле, дзе дваццаты век яшчэ не паспеў атруціць бензінавым смуродам жывыя пахі дзёгця, конскага поту, мёда і яблык, а небрукаваныя вуліцы нядаўніх павятовых Клімавіч яшчэ добра памяталі свае старыя назвы – Свірэльская, Прывальная, Цыганаўка, Фарштат, Зароўе і мілая майму сэрцу Крычаўская, якую перайначылі ў мой час на “Социалистическую”. На ёй, у невялічкім – на тры акны – доме жыў некалі мой дзед па маці Іваноў Ігнат Фёдаравіч, ветэран двух войнаў, - японскай і германскай, кавалер Георгіеўскага крыжа і двух медалёў, грамацей з чатырма класамі царкоўна-прыходскай школы, любіў услых чытаць Біблію і ведаў на памяць верш Фелікса Тапчэўскага “Панскае ігрышча”, якім пад вясёлы настрой часта бавіў гасцей. Некалі гаспадарыў, але няўдала, двойчы быў ваяром, служыў швейцарам у жаночай гімназіі, рабіў цэглу, клаў печы, шыў боты, шчыра верыў у Бога. І на гэтай падставе быў абраны вернікамі старастам царквы. Але на гэтай пасадзе прабыў нядоўга, усяго два гады. У 1937 годзе двое ў казённай вопратцы ўзялі яго з хаты, каб адправіць туды, куды ў той час адпраўлялі вельмі многіх, як вернікаў, так і атэістаў.

Адтуль яму не наканавана было вярнуцца…

У тым невялічкім доміку пад нумарам сорак дзевяць прайшло шэсць самых шчаслівых гадоў майго дзяцінства. Там мая малая радзіма, якую я пранёс у сэрцы пуцявінамі свайго жыцця і якая ўсё часцей і гучней нагадвае аб сабе лагоднай і зазыўнай мелодыяй пастуховае дудкі…

**Уладзімір Дамашэвіч**

## Гісторыя не паўтараецца

У Маскве мне давялося прабыць два месяцы на курсах пры Літаратурным інстытуце. Ад беларускага Саюза пісьменнікаў мы былі ўдвух з Міхасём Рудкоўскім, тады яшчэ маладым паэтам (канец 1967 года і пачатак 68-га), ды і я меў усяго (!) нешта там сорак гадоў. У Рудкоўскага тады выйшаў другі зборнік вершаў пад назваю “Сінія Брады”, які ён мне падпісаў ужо ў Ленінградзе, куды мы ездзілі ўсім сваім кругам і прабылі там тыдзень. Рудкоўскі гэта адзначыў у даравальным надпісе на тутуле кніжкі: “Ты помніш, як мы вандравалі між цэнтраў расейскіх і зім?.. Вазіў нас тады Партугалаў, па калізеях вазіў” (Партугалаў – у той час адзін з выкладчыкаў Літінстытута).

Курсы для нас, правінцыялаў, былі цікавымі, мы шмат чаго пабачылі і пачулі, мелі шмат сустрэч, напрыклад, з касманаўтам Цітовым, з братам Свярдлова, з яшчэ менш вядомымі асобамі, як вучоны Аксель Берг і інш., праслухалі лекцыі па рускай літаратуры, па філасофіі. На курсах былі хлопцы з усіх рэспублік – з Каўказа, Сярэдняй Азіі і Далёкага Усходу. Яшчэ і дасюль у мяне ляжыць недзе кніжачка чувашскага паэта Мішшы Юхмы з даравальным надпісам па-чувашску.

Хадзілі мы па музеях: былі ў Льва Талстога ў Хамоўніках, у Пушкінскім музеі, а ў Ленінградзе – на кватэры Пушкіна на Мойцы, былі на Чорнай Рэчцы, на месцы дуэлі Пушкіна з Дантэсам, у Петрапаўлаўскай крэпасці, у Зімовым палацы знаёміліся з шэдэўрамі рускай і сусветнай культуры, любаваліся Нявою, закутаю ў лёд і граніт, хадзілі па разводных мастах, і цікава было ведаць, што гіганцкія дэталі да мастоў выраблялiся на металургічным заводзе ў Варшаве; зблізу аглядалі “Меднага конніка”, прышвартаваную да берага “Аўрору”, ператвораную ў музей. Як каму, а нам з Рудкоўскім здалося, што Ленінград нашмат цікавейшы за Маскву, якая вызначаецца хіба што сваім Крамлём з яго магутнымі сценамі, вежамі і байніцамі, са звонам, які ніколі не званіў, з гарматаю, якая ніколі не страляла (пісаў некалі Герцэн у сваім “Колакале”).

З гасцявання ў Маскве запомнілася некалькі эпізодаў: у ЦДЛ, у ядальні, сядзелі ледзь не за адным сталом з Сіманавым, які частаваў нейкіх важных людзей ці не з замежжа, да нас далятaлі абрыўкі размовы, у Сіманава было характэрнае гаркавае “р”, да якога ўжо ўсе прывыклі. Потым, на вечары, ён прачытаў са сцэны свой знакаміты верш “Жди меня” – і зала доўга пляскала ў ладкі.

Аднойчы мы вярталіся з заняткаў, сышлі з тралейбуса і накіраваліся да свайго інтэрната на Дабралюбава. Былі з намі яшчэ два хлопцы-украінцы Валянцін Чамярыс і Валодзя Сідоранка. Мы ішлі і гаварылі кожны на сваёй мове, без рускага пасрэдніка. Раптам за намі пачуўся рэзкі міліцэйскі свісток. Мы сталі, азірнуліся. Ля нас спыніўся рослы мужчына, па гадах старэйшы за нас. Мы насцярожыліся: што яму трэба? Але ён весела апярэдзіў нашы пытанні: “Небось, испугались, думали, что милиция. Это я пошутил, я в охране работаю, свисток ношу. Думаю себе, что это за иностранцы по Москве шагают? Прислушался: свои хлопцы, белорусы и украинцы, я ваши языки различаю, в войну довелось воевать рядом…”

Мы ўзрадаваліся, што свісток аказаўся такім мірным, разгаварыліся, растлумачылі, хто мы і чаго апынуліся ў Маскве. Ён адразу нас запаважаў, расказваў, як у вайну ледзь не загінуў, калі яго, цяжка параненага, пакінулі санітары з казахаў ці ўзбекаў, палічыўшы нежывым. А потым яго падабраў украінец, дацягнуў да санпункта, выратаваў ад смерці. І мужчына зрабіў выснову, што гэтыя тры народы – рускія, беларусы і ўкраінцы вынеслі на сваіх плячах увесь цяжар вайны, перамаглі немцаў. «Мы не молились над своими убитыми товарищами, как это делали наши южане, поэтому и победили». Мы па-сяброўску развіталіся паціснннем рук.

А другі раз малюнак быў трохі іншы. У тралейбусе з Міхасём Рудкоўскім мы ехалі на заняткі, дарога доўгая: ад Астанкінскай тэлевышкі ажно ў цэнрт горада, да Цвярскога бульвару. Сядзім сабе, гаворым. Рудкоўскі расказвае нейкую гісторыю, гаворыць эмацыянальна, гучна, бо ў тралейбусе шум. На пярэднім сядзенні перад намі малады мужчына ў каракулевай вушанцы і з каракулевым каўняром на сінім драпавым паліце ўвесь час круціцца, нібы яму нешта муляе. Урэшце ён паварочваецца да нас тварам з рэзкім выклікам: ”Если вы не знаете русского языка, так молчите себе в тряпочку, мне противно вас слышать! Поняли!?”

Мы адразу ўскіпелі, перайшлі на “великий и могучий”: “Вот что мы слышим от старшего брата! И это в столице нашей Родины – в Москве! Как вам не стыдно нести такую чушь! Откуда такой великодержавный шовинизм нашелся?”

Як не дзіўна, мужчына не стаў з намі спрачацца і хутка выйшаў на прыпынку. Мы ехалі далей, распаленыя гэтым нахабнікам, і доўга не маглі супакоіцца. Прыходзілі да выніку, што інтэрнацыяналізм шмат якія рускія разумеюць так: той, хто не ўмее гаварыць па-руску – ужо нацыяналіст, яго трэба перавучваць на рускую мову. А на сваёй ён павінен “молчать в тряпочку”, або яшчэ горш…

…Калі вярнуцца ў 1953 год, гістарычны – памёр “вялікі правадыр усіх працоўных”, то я тады заканчваў вучобу ў БДУ. Перад дзяржаўнымі экзаменамі адбылося размеркаванне на працу. І што ж? Мне прапануюць ісці цэнзарам ў Галоўліт, і не абы куды, а ў Маскву! Я проста ледзь не абамлеў. Ніколі не думаў пра такое месца ў жыцці – я збіраўся на вёску, у школу, выкладаць беларускую мову і літаратуру, а тут… Я так і сказаў членам прыёмнай камісіі, што мяне, вясковага хлопца, палохае такі вялікі горад, як Масква, мне будзе цяжка.

У камісіі пасмяяліся з маёй нерашучасці і сказалі ісці падумаць. Я выйшаў, мяне сустрэлі галасы: ну, куды? Адказаў, што цэнзарам у Маскву, але я баюся, і мяне пусцілі падумаць. Узняўся вялікі шум-гвалт, на мяне напалі, асабліва нашы дзяўчаты: што тут думаць? Ты з Масквы ў сваю вёску можаш вярнуцца ў кожны момант, а вось з вёскі ў Маскву – не трапіш ніколі. Не думай, згаджайся!

Яны мяне ўгаварылі, хоць мо і не зусім. Я вярнуўся ў прыёмную камісію і сказаў, што згодзен, хоць сумненні засталіся. Між тым сярод членаў камісіі ішла гаворка пра тое, што патрэбныя маладыя кадры туды і туды, што ёсць заяўка з выдавецтва – там патрэбен рэдактар мовы і літаратуры. Тут я набраўся смеласці і сказаў, што, калі можна, то хацеў бы лепш пайсці рэдактарам у выдавецтва ў Мінску, чым ехаць цэнзарам у Маскву. Старшыня камісіі кажа:”Калі ў вас ёсць такое жаданне, дык камісія, думаю, ня будзе пярэчыць”. Камісія згадзілася, і я распісаўся ў вялікім журнале, што я іду рэдактарам у вучэбна-педагагічнае выдавецтва.

Так нечакана для сябе я стаў мінчанінам, а што не стаў масквічом, дык быў вельмі рады: я застаўся дома, маё нават прозвішча дамашняе – Дамашэвіч. Праўда, я стаў гараджанінам, стаў рэдактарам, а потым, праз некалькі гадоў, перайшоў у другое выдавецтва, дзе стаў рэдагаваць мастацкую літаратуру. Паглядзеўшы, як робяцца кніжкі, як пішуцца апавяданні, аповесці і раманы, сам пачаў нясмела пісаць – спачатку апавяданні, а потым перайшоў і на большыя формы. Падлічыў: цяпер маю чатырнаццаць аповесцяў і тры раманы. Апавяданняў шмат, нават не лічыў.

Думаю часам: калі б я пайшоў цэнзарам у Маскву, было б нешта зусім іншае, я стаў бы не тым чалавекам, якім стаў тут, на роднай зямлі, я ў гэтым упэўнены – мог бы прапасці для Радзімы…

А калі вярнуцца яшчэ на пяць гадоў назад, у 1948-ы, дык Масква была ў сачыненнях нашых клецкіх выпускнікоў на першым месцы. Нам далі тэму: “Москва… Как много в этом звуке для сердца русского слилось…”. Мы, беларускія вучні, павінны былі клясціся ў любові да чужой сталіцы, абмінаючы сваю. Што нам Пушкін? Мы павінны былі прыдумаць нешта сваё. І я нешта там напісаў – пра заснавальніка Масквы Даўгарукага, пра Мініна і Пажарскага, якія збіралі народныя сілы супраць “палякаў”, што

заселі ў Крамлі, гэта значыць, супраць Рэчы Паспалітай, якая аб'ядноўвала тады палякаў, украінцаў, ліцьвінаў – сённяшніх беларусаў, і жамойтаў – сённяшніх літоўцаў-летувісаў. Але пра такія "дэталі" я тады яшчэ не ведаў. Аднак жа маё сачыненне пра Маскву было, відаць, не горшае за іншыя, калі інспектар з вобласці (тады Баранавіцкай) працытаваў кавалак таго твору ў абласной газеце, расказваючы пра вынікі выпускных экзаменаў у Клецкай сярэдняй школе.

…Масква –горад шматнацыянальны, гэтым яна можа пахваліцца. Там тысячамі жывуць людзі з усіх былых рэспублік, якія так прынадна ішлі на бляск рубінавых зорак над Крамлём. Нашых беларусаў там жыве не менш як сто тысяч, а колькі там украінцаў, каўказцаў, з рэспублік Сярэдняй Азіі і Казахстана! Не пералічыць! А гасцей, кажуць, там бывае не менш двух мільёнаў у дзень. Па цяперашніх мерках – гэта мегаполіс, гіганцкі мурашнік, які з цяжкасцю спраўляецца з тымі праблемамі, якія ўзнікаюць перад яго гаспадарчымі структурамі перш за ўсё, бо толькі пракарміць такую масу людзей вельмі і вельмі няпроста.

Масква, як вялізны магніт цягне да сябе сваёю раскошаю, багаццем, там шырокае поле праявіць свой талент, свой спрыт і паваротлівасць, каб зрабіць кар'еру, паказаць сваё ўмельства жыць з размахам, як жылі некалі расейскія купцы і багацеі-прамыслоўцы. Масква па сваіх параметрах і іншых паказчыках набліжаецца да вялікіх еўрапейскіх сталіцаў і нават іх апярэджвае, хоць яна, на думку знаўцаў сучаснай ўрбаністыкі, па-ранейшаму застаецца больш азіяцкай, чым еўрапейскай сталіцаю.

Сам я вялікіх гарадоў не люблю, не пераношу іх мітусні і шуму, ад якога можна калі не звар'яцець, дык страціць здароўе без пары. Ва ўсякім разе, у Маскве лепш быць госцем, чым яе аседлым жыхаром. Хоць магчыма той, хто там даўно жыве, хто прырос да гэтага месца, той не адчувае асаблівага дыскамфорту і лічыць сябе як дома.

Апошнія пятнаццаць гадоў Масква як быццам перастала лічыць сябе сталіцаў пралетарыяў усіх краін, адрынуўшы свае амбіцыі на ролю вядучай сілы ў глабальным маштабе, яна зразумела сваё месца на планеце і хоча жыць і развівацца як роўная сярод роўных. Хоць сіндром вялікасці ў ёй яшчэ часам прачынаецца, і тады мы, перш за ўсё яе суседзі, гэта пачынаем адчуваць нават на сваім уласным дабрабыце. А яшчэ адчуваем: як бы ёй хацелася бачыць Беларусь у ліку расейскіх губерняў ці нават Северо-Западным краем.

Але трэба думаць, што такое жаданне надта ілюзорнае: гісторыя не паўтараецца, і як ваяры Рэчы Паспалітай не будуць другі раз стаяць у Маскве, так і расейскія танкі не пройдуць парадам па вуліцах Мінска.

**Генадзь Праневіч**

## Сакавіцкая сага

Фотакарэспандэнту “Нашай Нівы”
Андрэю Лянкевічу і ўсім удзельнікам
святкавання 90-й гадавіны БНР
прысвячаецца

Запісаў летапісец
пра дзень той:
“…быў халодны,
суровы, вярнуліся
зноў маразы…
Па замове халопаў,
што Верхні горад
у Менску калісь
захапілі,
прывязлі ў трох санях
з вазакамі
ў дзень той
кісцяні і дубінкі,
і ў балончыках газ –
падарункі ад хана
Масквы…
Ад крыві гараджан
слізкім лёд
быў у той дзень
на Нямізе…
Як у старыя часы,
у тры цапы малацілі…” –
прыпіску зрабіў
летапісец у кнізе.

Гэй, вы, нестары даўніх эпох!
дайце слова і мне,
рэпарцёру апошніх навінаў…
Тае даўняе сагі
напісаў я інакшы працяг:
трэсне ў Свіслачы лёд,
і набрыдзь халопская згіне,
і ў годзе наступным
пацякуць яе воды назад!..
Усё зменіцца ў свеце:
дзе нізіны былі – стануць горы;
дзе туман і імгла – запаляцца
зоры…
І зноў прыдзе вясна
ў сваім векавечным
сакавіцкім
уборы!..
З зялёнага лісця, бел-чырвона-белых

сцягоў…
З тваіх слёз і ўсмешкі,
Што мне падарыла
ўчора,
як ляжаў у крыві я…
пры народзінах
Новага Свету
і сканчэнні сярэдніх вякоў…

*Сакавік, 2008*

**Вячеслав Кебич**

## «Подарок» Бориса Ельцина*

В Минск Борис Ельцин приехал 7 декабря [1996 г.]. Прибыл с большой свитой. Помимо министра иностранных дел России Андрея Козырева, чье участие в неофициальной встрече было уже оговорено, прилетели государственный секретарь Геннадий Бурбулис, который в отсутствие в составе Совета Министров России поста премьер-министра фактически исполнял его обязанности, вице-премьеры Сергей Шахрай и Егор Гайдар. Группу охранников возглавлял будущий генерал, охранник Ельцина Александр Коржаков. Честно говоря, присутствие «серых кардиналов», предпочитавших ранее нигде публично не светиться, меня удивило. Но акцентировать на этом внимание не стал. Ну, приехали и приехали. Мало ли зачем они нужны Ельцину.

Выступление Бориса Ельцина в Верховном Сонете началось с триумфа, а закончилось крупным политическим фиаско.

Говорил он как всегда эмоционально, убедительно. Резко критиковал Горбачева и союзное правительство, что вызывало восторг у депутатов от БНФ. В Овальном зале они располагались справа от меня, и я хорошо видел их реакцию. Хвалил Беларусь за политическую прозорливость и продуманную экономическую политику, что тоже всем было по душе, а затем случился конфуз.

Желая подчеркнуть, что корни дружбы белорусского и русского народов уходят далеко вглубь времен, Борис Ельцин заговорил о русско-польской войне 1654-1667 годов, которая, по его мнению, стала ярким примером нашего боевого братства. При его первых фразах об этом зал настороженно замер, а затем по рядам прокатился недоуменный ропот. Депутаты стали шушукаться между собой. Шум становился всё громче. Ничего не подозревающий Борис Ельцин решил, что недостаточно понятно изложил свою мысль, и стал развивать исторический экскурс. А в его финальной части, уже почти заглушаемый залом, преподнес в дар белорусскому народу редкий архивный документ - «Охранную грамоту Орше от 1664 года».

- Пусть этот документ станет, понимаешь, историческим свидетельством нерушимой дружбы белорусов и русских, братьев на века!

Заключительная фраза утонула в гуле негодования. Фракция БНФ неистовствовала. Вскочив с мест, депутаты размахивали руками, кричали, требовали извинений.

- Ганьба!
- Як вы можаце так спекуляваць на гісторыі!
- Не дазволім!
- Далоў!..

Надо было видеть в этот момент Ельцина! Он был в шоке и ничего не понимал. Даже в дни путча, стоя в кузове грузовика перед огромной толпой, в которой могли быть и провокаторы, Ельцин чувствовал себя более уверенно, чем сейчас. Испуганно оглядывался по сторонам, словно ожидая, что разъяренные чем-то депутаты бросятся на него с кулаками.

Свита Бориса Ельцина подложила ему большую свинью. Видимо, будучи убежденными в том, что белорусы и русские никогда не враждовали между собой, его помощники разыскали в архивах старинный документ, не удосужившись проконсультироваться с историками о его подлинном смысле. А БНФ уже давно использовал далекое прошлое в спекулятивных целях. Днем белорусской воинской славы названо 8 сентября 1514 года, в этот день войска Великого княжества Литовского,

* Загаловак – ад укладальніка

которые возглавлял белорус гетман Константин Острожский, нанесли поражение московскому войску под командованием Ивана Челяднина. Об этой битве ходит много кривотолков, всякий комментирует ее на свой лад. И поскольку моя книга, возможно, будет читаться не только в Беларуси, но и в России, считаю необходимым рассказать о том давнем сражении чуть подробнее.

…

Помощники Ельцина поспешно вывели его в коридор. Увидев меня, он обрадовался, словно встретил родственную душу:

- Слушай, что произошло? Что я сделал не так?

Я пригласил высокого гостя в свой кабинет и постарался, как мог, разъяснить ему причину скандала. Ельцин долго не мог прийти в себя. Тут же позвал к себе министра иностранных дел и при мне стал распекать его:

- Ты зачем подсунул мне эту картину?!

*Паводле: Кебич В. Искушение властью. Мн.: «Парадокс», 2008. С.190-191.*

**Алесь Кажадуб**

## Гэта можна

Трапіў я ў першапрастольную пры досыць звычайных абставінах. Жывучы ў адзінай, хоць і шматнацыянальнай краіне, чалавеку з ускраіны вельмі проста было пабрацца з масквічкаю і паехаць паглядзець на гэты горад. Усё ж не за тры моры ехаць, адну толькі ноч на цягніку. Тым больш, ехаў я не назаўсёды, як мне здавалася, а вучыцца два гады на Вышэйшых літаратурных курсах. Вунь і Купала вучыўся ў Маскве на курсах Шаняўскага, і Караткевіч не бачыў нічога ганебнага ў тым, што слухаў маскоўскіх прафесараў на тых жа ВЛК.

Дарэчы, як высветлілася пазней, старастам на курсе ў Караткевіча быў мой будучы цесць Георгій Афанасьевіч Ладоншчыкаў. Ён шмат мне расказваў пра амбітнага зуха-беларуса, на пару з якім прыехала заваёўваць Маскву Дуся Лось.

— Абодва прыгожыя, ладныя, таленавітыя, — гаварыў Георгій Афанасьевіч, — а жылі як кошка з сабакам.

Не трэба, відаць, тлумачыць, хто з іх быў кошка, а хто сабака.

Масква на пачатку васьмідзесятых была сталіцаю, якая ўжо стаяла перад вялікімі выпрабаваннямі. Пры знешняй стабільнасці жыцця горад ужо цалкам знаходзіўся ў цянётах залатога цяльца. Начальства жыло ў шыкоўных кватэрах і атаварвалася ў «Бярозках». У гатэлях поўна было фарцоўшчыкаў і прастытутак. Інтэлігенцыя дзялілася на заходнікаў і русафілаў, або «русапятых», як грэбліва называлі іх тыя ж заходнікі. А рэй маскоўскага жыцця вяло ўсемагутнае чыноўніцтва. Яно ўладарыла ў сталіцы з часоў Юрыя Даўгарукага да нашых дзён. Класікі рускай літаратуры называлі Маскву купецкаю, але ж і самы багаты купец ішоў біць чалом да гарадскога галавы.

Слухачы Вышэйшых літаратурных курсаў жылі мо і не так, як чыноўнікі, але таксама няблага. Стыпендыя ў дзвесце пяцьдзесят рублёў дазваляла нам адчуваць сябе адносна незалежна. Мы часцяком звінелі чаркамі ў Цэнтральным доме літаратараў. У тыя часы пісьменнікаў яшчэ пускалі ў Дубовую ці Стракатую залы гэтага дома.

Аднойчы я трапіў у кумпанію ўжо досыць вядомых паэтаў Юрыя Кузняцова, Валянціна Усцінава і Аляксандра Баброва. Яны клялі жыда-масонскую і іншую пошасць, што сядзела на плячах бедака-русака і грэбліва на яго паплёўвала. Маўчаў адзін Кузняцоў. Ён час ад часу наліваў усклень шклянку гарэлкі, змрочна абводзіў усіх цяжкім позіркам і гаварыў:

— Ну, за паэзію. Чыста сімвалічна.

І выпіваў шклянку да дна.

Я таксама рашыў уставіць у агульную гаману свае тры грошыкі.

— Хоць ува мне няма ні кроплі рускай крыві… — пачаў я.

За сталом усталявалася цішыня. Ад яе нават прачнуўся малады сібірскі паэт, які яшчэ не ўмеў піць, як старэйшыя таварышы.

— А якая ў цябе кроў? — аддзяляючы адно слова ад другога, спытаў Кузняцоў.

— Адна беларуская, — пакаяўся я.

Кузняцоў абвёў усіх доўгім позіркам, пажаваў вуснамі, уздыхнуў і сказаў:

— Гэта можна.

За сталом зноў зрабілася тлумна, і я скончыў свой тост пра тое, што ўсё-ткі трэба адратаваць Расію, а заадно і Беларусь. Ад каго іх трэба было ратаваць, усім было зразумела.

Магчыма, якраз тады я ўпершыню задумаўся, што такое беларус у Маскве. Пра гэта, зрэшты, задумваліся і Купала, і Караткевіч, і ўсе тыя, хто так ці інакш траплялі ў першапрастольную.

Не буду маніць — абсалютная большасць тагачасных масквічоў да беларусаў ставілася добра. Нават вельмі добра. У іхніх вачах беларус быў працавіты, сумленны, сціплы, дабрэнны чалавек, які нічым не адрозніваўся ад карэннага русака. Ну, хіба што гаворкаю. Цвёрдыя «р» і «ч» выкараняліся ў беларусаў з вялікімі цяжкасцямі. Здаралася, і зусім не выкараняліся. Мая цешча, напрыклад, якая нарадзілася на мяжы Браншчыны і Гомельшчыны, пражыла ў Маскве больш за семдзесят гадоў, але так і не пазбавілася ад гэтых «ч» і «р».

Відаць, дзякуючы гэтым сваім вартасцям — сумленнасці і працавітасці — шмат беларусаў было сярод кіраўнікоў. Напрыклад, за ідэалагічным выхаваннем савецкіх грамадзян у семідзесятая-васьмідзесятыя гады мінулага стагоддзя пільна сачылі Шаура і Сеўрук. Я, праўда, у тыя часы іх не ведаў, аднак многія з маіх знаёмых пісьменнікаў і журналістаў расказвалі пра асаблівасці іхняга стылю кіравання. Дарэчы, штосьці мне падказвае, што ў якасці «шэрых кардыналаў» некаторыя з маіх землякоў паспяхова дзейнічаюць у Маскве ці Санкт-Пецярбургу і цяпер.

Але больш за ўсё беларусаў было сярод вайскоўцаў. Аднойчы я трапіў на святкаванне Дню Чырвонай Арміі ў беларускую амбасаду. Вялікая зала была цалкам запоўненая генераламі арміі, генерал-палкоўнікамі і адміраламі. Генерал-маёры лёталі па ёй у якасці ад'ютантаў, наліваючы ў чаркі і падкладваючы на талеркі закусь. Я заўважыў у далёкім куце залы чалавека ў цывільным і пацiху падаўся да яго. Старшы лейтэнант запасу, я сярод гэтага генералітэту адчуваў сябе не зусім добра.

Чалавек у цывільным аказаўся беларусам з Гародзеншчыны. Паколькі я заканчваў школу ў Наваградку, нам знайшлося пра што пагаварыць.

— Часта бываеце на радзіме? — спытаў я.

— Не так часта, як хацелася б, але апошнім разам літраў дзесяць самагонкі з сабой прывёз, — адказаў ён. — Маскоўскія сябры без бутэлькі самагонкі мяне нават на парог не пускаюць.

Я пазайздросціў свайму новаму знаёмцу. У мяне не было сваякоў, якія маглі б ашчаслівіць бутлем жытнёвай.

І тут да нас падышоў адзін з супрацоўнікаў амбасады.

— Усе гэтыя генералы, — павёў ён рукой па зале, — не сапраўдныя генералы.

— Чаму? — таксама агледзеў я залу, і ніякіх парушэнняў у вайсковай амуніцыі, тым больш адсутнасць вялікіх зорак на пагонах, не заўважыў.

— Вось сапраўдны генерал! — паказаў супрацоўнік на майго субяседніка.

Усе, хто стаяў побач з намі, заапладзіравалі. Аказалася, чалавек у цывільным, з якім мы абмяркоўвалі вартасці беларускае самагонкі, быў ці не першы намеснік старшыні ФСБ.

«Ісцінны беларус! — мільганула ў маёй галаве. — Па-першае, пра яго сапраўдную вартасць мала хто ведае, а па-другое, сам ён пра яе ніколі не скажа».

Але разваліўся Савецкі Саюз, былыя савецкія рэспублікі разышліся па ўласных кватэрах, і сітуацыя пакрысе пачала мяняцца. І зусім яна змянілася, калі ўсчаліся так званыя «газавыя» войны. Як толькі ў якасці адзінага і ўсемагутнага Бога змагары за вольнасць і дэмакратыю зноў абвясцілі залатога цяльца, брат на брата пачаў глядзець ужо трохі па-іншаму. Тым больш, калі яны ніколі не забываліся, хто з іх старэйшы, а хто малодшы.

Нядаўна на адной з шматлікіх прэс-канферэнцый я спытаўся славутага спевака, які нарадзіўся, дарэчы, у Данецкай вобласці, як ён ставіцца да ўтварэння Саюзнае дзяржавы Расіі і Беларусі.

— Саюзная дзяржава? — пацiснуў ён плячыма. — Ну што ж, навучацца беларусы працаваць, як у Расіі, тады і можна будзе стварыць гэтую дзяржаву.

— Працаваць ці красці? — удакладніў я.

Але спявак маіх слоў не пачуў. Я азірнуўся па баках. Журналісты, што мяне атачалі, старанна натавалі ў блакноты, і ніхто з іх не выказваў здзіўлення.

Я зразумеў, што мы сапраўды жывем у розных краінах. Гэта ў той, адзінай дзяржаве, беларус лічыўся працаўнікам. У цяперашніх суверэнных краінах грамадзянам, і асабліва маладым, на ягоныя працавітасць ці дабрыню было начхаць.

«Адсюль і гэтыя войны, — падумаў я. — Гандляр улезе ў любы храм і паставіць там свайго ідала. Цяпер кленчаць перад цяльцом. Значыць, зноў трэба чакаць, калі Ён прыйдзе і выкіне гандляроў з храма».

Спытаў я пра перспектывы Саюзнай дзяржавы і былога міністра замежных спраў Я.М. Прымакова

— Гэты карабель, — сказаў ён, — б'ецца аб два падводныя камяні. Беларусы не хочуць уваходзіць у агульную дзяржаву на правах аўтаноміі накшталт Татарстану. Некаторыя палітыкі ў занадта вялікай Расіі не бачыць у Беларусі сабе роўню.

Я згадзіўся з дасведчаным палітыкам. Фанаберыя ўласцівая перш за ўсё так званай эліце, якая і вызначае курс карабля. Ці здолее гэтая эліта правесці карабель між Сцылай і Харыбдаю — вялікае пытанне.

Апошнія год-два былі ў мяне багатыя на вандроўкі. Пабываў у Самары і Ніжнім Ноўгарадзе. Праехаў ці не ўсю Еўропу ад Страсбурга да Біярыца. Вяртаючыся з Польшчы, пакалясіў па Беларусі, як кажуць у нас — прайшоў па старых шляхах. Звычайна гэтыя вяртанні ў мінулае не дадаюць аптымізму. Змены наўкол больш засмучаюць, чым радуюць. Але і параўнанні, якія даводзіцца рабіць пры гэтым, наводзяць на пэўны роздум.

Пустэчы, што разлягаліся на вялізных абшарах пад Ніжнім Ноўгарадам, прыгняталі. Колішнія палеткі былі скрозь зарослыя здзічэлым лазняком. У рэдкіх вёсках кідаліся ў вочы пахілыя хаты і апусцелыя вуліцы. Заняпад панаваў на гэтай некалі багатай і ўрадлівай зямлі.

Еўрапейскія краявіды ўражвалі вытанчанай прыгажосцю. У нямецкім Шварцвальдэ казачныя дамы ў лялечных гарадках патаналі ў буянні ружовых, фіялетавых і белых гартэнзій. Кусты ружаў у Булонскім лесе былі значна вышэйшыя за чалавека. Квітнеючыя алеандры ў Біярыцы былі падобныя на белапенны прыбой вялікіх акіянскіх хваляў, што захліствалі камяністы бераг. У яхт-клубе невялічкага гарадка Ахена вакол яхтаў, што сабраліся тут з усяго свету, ляніва кружлялі сярэднеземнаморскія акулы, чакаючы аб'едкаў з чалавечага стала. Яны таксама прызвычаіліся да сытнага жыцця. А на вустрычнай ферме пад Сетам на поўдні Францыі мы елі вустрыц з вялізных місаў і запівалі белым сухім віном, якое таксама было ў неабмежаванай колькасці.

Але найбольш я ўразіўся на сваёй Беларусі. Здаецца, тыя ж палі, на якіх вуркоча самотны трактар. Тыя ж хутары ў атачэнні высозных таполяў. Тыя ж вёскі, перацятыя пакручастымі рачулкамі. Тыя ж буслянкі на слупах. Тыя ж жывёлагадоўчыя фермы, з якіх вострa патыхае гноем… Можа, паменела бярозавых і ліпавых прысадаў, якія вялі ад шашы да былых панскіх маёнтках, у якіх у маім дзяцінстве звычайна мясціліся школа ці праўленне калгаса. Ды калі яны былі, тыя паны, мінуў іхні час…

Мы прыехалі ў Наваградак, горад майго юнацтва, — і я не пазнаў яго. Акуратныя, чыстыя вуліцы. Дагледжаныя хаты з кветнікамі. Свежапафарбаваныя камяніцы на цэнтральнай плошчы. Закансерваваныя рэшткі дзвюх вежаў на Замкавай гары. Чырвоная чарапіца фарнага касцёла, у якім хрысціўся Адам Міцкевіч. Зялёныя шаты клёнаў у старым парку пад гарою.

Горад не ішоў ні ў якае параўнанне з тым, у якім некалі жыў я. Гэта быў тыповы еўрапейскі горад, можа, не такі заможны, але і не зусім бедны. Больш за тое, ён адрозніваўся ад іншых гарадоў тым, што мясціўся на «краснай гары», як напісана ў беларуска-літоўскіх летапісах, пануючы над прынёманскім наваколлем. Чымсьці ён нагадваў мне замак Гогенцоллернаў у Германіі, які ўзвышаўся над тамтэйшымі гарадкамі і вёскамі, падобна арлінаму гнязду. Менавіта з гэтага гнязда вылецелі першы і апошні прускія імператары…

Там, у Наваградку, мне зрабілася зразумела, што шлях Беларусі толькі тым і вызначаны, каб захаваць сваю адметнасць. Апрацаваныя палі. Чыстыя гарады. Заможныя хаты. І аднноўлены наваградскі замак, у якім калісьці быў каранаваны Міндоўг.

Повязь часу не рассыпецца толькі тады, калі на сваім месцы застанецца кожнае звяно ў ланцугу. Зрабіць гэта яшчэ можна, было б, як той казаў, жаданне.

**Валентин Оскоцкий**

## Запомните это имя!
## Из воспоминаний о Василе Быкове

Вторую встречу **с** Василем Быковым датирую - и дальше будет понятно, отчего - календарно точно: февралем 1962 года. А первая состоялась, видимо, годом - чуть больше или чуть меньше - раньше на одном из пленумов правления Союза писателей Беларуси, где я присутствовал как корреспондент "Литературной газеты", ее молодой сотрудник, только-только назначенный заместителем заведующего отделом литератур народов СССР — "братишек" на тогдашнем, обиходном в редакции сленге. Кто-то из докладчиков или просто ораторов среди примечательных новинок прозы выделил дебютную повесть о войне гродненского журналиста «Журавлиный крик», сказав при этом, что начинающий писатель сидит здесь, в зале. Многие еще не знали его в лицо, попросили «показаться народу». Он поднялся из последнего ряда и, смущенный вниманием, сразу сел. В перерыве я подошел к нему, представился, сказал, что, читая по-белорусски, повесть знаю. И поскольку она о войне, то почему бы ему не написать для «Литературной газеты» статью о том, что значит для нас память войны и как важно донести ее до новых послевоенных поколений. Он отнекивался: в центральной печати не выступал ни разу, публицистические статьи писать не умеет, может, найдете кого другого. Что же до памяти войны, то как отделить ее от правды о войне, а неприкрашенную правду у нас не очень-то жалуют.

- А «Батальоны просят огня» и «Последние залпы» Юрия Бондарева? А «Пядь земли» Григория Бакланова? - наседал я. - Эти повести поддержаны «Литературной газетой». Она заинтересована и в новых, не примелькавшихся авторах, за плечами у которых свой и военный, и писательский опыт.

- Но я еще не писатель, - прервал он. — "Журавлиный крик" - моя первая попытка написать повесть[8]*.

Я сослался на оценки, только что прозвучавшие на пленуме. Но наверняка не ими уломал несговорчивого собеседника, а показанным отношением к новейшей военной прозе баклановского-бондаревского направления. Сошлись на том, что поразмышлять вслух о памяти и правде войны попробует и, если получится, статью пришлет.

И действительно прислал через месяц-полтора. Помню, как она начиналась. С описания случая "в нашем дворе". Сорванец утащил отцовскую медаль не то «За оборону...», не то «За взятие...». Сначала нацепил на себя, потом забавлялся, используя как «биту» в игре на деньги, затем, когда приелось, вышвырнул в кучу мусора. И все, включая фронтовика-отца, не увидели в таком по-мальчишески неосознанном надругательстве над памятью войны ничего особенного. О чем и как шло в статье дальше, забылось, но смутно всплывает ведущий мотив правды прожитого и пережитого, которую любят, приподымать, возвышать украшательством, натужливо героизировать. А это не укрупняет, а мельчит действительные подвиги героев, потому что героизм без сопротивления трудностям и одоления страданий, без победы над ними не полон.

Статья не пошла. Ее не то чтобы напрочь зарубили - «литературка» была уже не «кочетовская»[9]**, а “смирновская” - но предложили попросить молодого неискушенного

---

[8] Оказалось, не первая. Повести "Журавлиный крик", с которой Василь Быков начинал отсчет своей военной прозе, предшествовала повесть "Последний боец". Но, считая ее ученической, писатель избегал упоминаний о ней даже в разговорах. Мне тоже он никогда не говорил о самой ранней повести, и я узнал о ней только сейчас, после белорусского издания под одной книжной обложкой и этой первой, и последней повести “Блиндаж”, оставшейся незаконченной. (2007г.)

[9] В. А. Кочетов и С. С. Смирнов - главные редактора «Литературной газеты» в 1956-1959 и 1959-1961 гг.

автора «доработать». Пусть громче скажет о героике войны и найдет другое начало: случай есть случай - зачем так обобщать?

Пришлось мне, инициатору «пока что» не готовой к печати статьи, писать в Гродно, излагать начальственные рекомендации. Ответ пришел быстро. Раздраженный, резковатый. Примерно такой: ни переделывать эту статью, ни писать другую, как хотелось бы вашей редакции, не буду, можете выбросить в корзину. О «корзине» запомнилось точно.

В ту давнюю «литгазетовскую» бытность я еще не сознавал, что волей-неволей имею какое-то касательство к «текущему литературному процессу», которому в будущем суждено стать историей литературы. И по тогдашней молодой беспечности не собирал, не хранил материалов, которые проходили через мои руки. Понимание, что они документы исторические, придет позже, и это «поздно» окажется ничуть не лучше, чем «никогда». Не сохранил поэтому ни статьи, ни письма и Василия Быкова. А стоило бы догадаться сберечь, тем паче что сам он о них наверняка забыл. Как я потом не раз убеждался, пастернаковское «Не надо заводить архивов, над рукописями трястись» он если и относил к себе, то буквально.

Холодок, вызванный обменом письмами вокруг непошедшей статьи, мог омрачить нашу вторую встречу в конце февраля 1962 года. Однако не омрачил. Напротив, именно с нее начинается отсчет более чем 40-летней дружбе, не знавшей не то что грозовых туч, но ни единого дождливого облачка. Не навлекло никакого хмурого облачка даже мое более чем умеренное, сдержанное отношение к «Альпийской балладе». Сдержанное и умеренное потому, что, как я жарко внушал Василю, романтика - не его писательская стезя. Он силен воплощением человеческих драм, высвечивающих драмы народные. А в романтическом обрамлении драма перестает быть драмой, становится красивой легендой, хоть и названа легенда балладой.

Но «Альпийская баллада» - забег вперед. Тогда же, в феврале 1962 года, холодок, о котором речь, отступил под ослепительным просверком «Третьей ракеты». Третья повесть Василя Быкова, она стала первой, переведенной на русский язык и принятой к публикации в мартовском номере «Дружбы народов». На очередной пленум в Минске Василь приехал с журнальной версткой и по моей просьбе дал прочесть повесть. Читал я ее ночью - не мог оторваться. Днем на пленуме клевал носом, но впечатление от прочитанного не ослабевало. Встретились вечером у меня в номере. Наверное, я объяснял свое потрясение сбивчиво и сумбурно. Он слушал не перебивая и, как обычно, был немногословен.

- А теперь сцена в конце, когда обгоревший немецкий танкист приползает к нашей сорокопятке.
- Пацифизм? Ремаркизм? – вмиг насторожился он.
- Ну при чем здесь это! Что до меня, то я не считаю пацифизм ругательством и вижу в нем проявление гуманизма. Да, пацифисты не предотвратили вторую мировую, но от третьей пока что в меру своих сил удерживают. А Ремарка люблю, прочел все, что у нас издано, “На Западном фронте без перемен” для меня – одна из вершин мировой классики...

Выслушав мой монолог, Василь помягчел. Как я почувствовал, возбуждение критика пришлось писателю по душе.

В ту пору «Литературная газета» ввела оперативные, месяц в месяц полосы, посвященные вышедшим номерам журналов. Зная, что мартовская полоса готовится как раз сейчас, я попросил дать мне верстку «Третьей ракеты» с собой в Москву, дабы успеть поскорее отрецензировать повесть. В Москве ее быстро прочел Г.М. Корабельников, чьим заместителем по отделу я был, и, согласившись с моей оценкой, передал тогдашнему члену редколлегии Юрию Бондареву с просьбой отозваться рецензией. Тот тоже прочел быстро и тоже горячо похвалил, но, боясь, что с рецензией затянет, заказал ее, причем срочно, Григорию Бакланову - в то «оттепельное» время они и слыли, и были закадычными, не разлить водой друзьями. Рецензия пришла в наш отдел через пару дней. «Я начал читать эту повесть ночью (тоже ночью! - В.О.), думая только поглядеть, а

прочесть завтра. И читал уже не отрываясь до конца. В ней нет строгого сюжета, но в ней есть самое главное: правда», - писал Бакланов. И прозорливо предрекал: «Запомните это имя. Оно еще встретится вам». Как видим, писатели бывают пророками не только в стихах или прозе, но и в критике...

Так в марте 1962 года в центральной печати появилось слово о Василе Быкове. Моя причастность к нему нас сблизила. Не помню точно, в какую из последующих встреч мы перешли на «ты», но знаю наверняка: произошло это без всяких «брудершафтов», ненатужливо, само собой.

С 1962-го начали оживленно переписываться. К праздникам обменивались шутейными и серьезными поздравлениями, вели в письмах разговоры «литературные» о делах текущих. И не об одних делах, но и недоумениях, какими они нередко сопровождались. Обнаружилось, что и в приятии, и в отторжении многого из того, что печаталось тогда в журналах и издавалось книгами, мы сходились.

Более частыми становились и встречи - два-три, а то и больше, раза в год. То в Минске, куда я зачастил по поводу и без повода, то в Москве, куда Василь начал заезжать едва ли реже, чем в Минск. В Минске он ввел меня в свое ближайшее литературное окружение: через него я познакомился, в какой-то мере сблизился и с Володей Короткевичем, и с Рыгором Бородулиным, чуть позже - с Анатолием Вертинским и Геннадием Буравкиным. «О нашей молодости споры!» (Евгений Евтушенко), взбудораженные подъемами и спадами «оттепели», ее вспышками, то разгоравшимися, то затухавшими! Спорили бурно, не отказывая себе и в веселых застольях. В некоторых принимал участие Адамович, хотя всем напиткам упрямо и стойко предпочитал, кефир, - с ним я сошелся и 'сдружился еще до первой встречи с Василем. В Москве я свел Василя с Ионом Друцэ, Иваном Драчом, некоторыми «литгазетовскими» коллегами, много позже - с Игорем Дедковым. По возвращении Василя из Италии - первой зарубежной поездки - познакомил за ужином со своей женой, которую, помнится, потрясли откровенность, раскованность и критичность его суждений на темы не только литературные, но и политические. Ни в тех, ни в других, как правило, у нас не возникало расхождений, если не оговаривать его зрелость и мою наивность: зная за собой эту слабину, я безропотно отдавал Василю безусловное первенство не просто по старшинству. Но ни первых, ни вторых ролей не было у нас в равно негативном восприятии скандального посещения Хрущевым выставки в Манеже, его шумных встреч с творческой интеллигенцией и последовавших за ними встреч местных вождей по республикам. Одинаково возмущала и неприкрытая травля некоторых молодых и не только молодых, но и признанного Виктора Некрасова, которого хулигански обозвали «туристом с тросточкой». Как выяснилось, независимо друг от друга мы подписали одно и то же письмо по «делу» Синявского-Даниэля. «Я рад, что и здесь мы вместе», - сказал Василь, узнав о моем «подписантстве».

Проведя один из летних отпусков в Паланге, я по пути домой остановился в Вильнюсе. До Гродно рукой подать - несколько часов автобусом. Созвонившись, договорились, что загляну в гости. Гостил дня три. Ходили по городу, бродили окрест, съездили в Друскеникай, там посетили дом Чюрлениса, посидели на неманском обрыве. Под обеспокоенным приглядом Василя - «Будь осторожен, течение быстрое, относит» - я и наплавался всласть. Легко, беспечно, нестесненно провели время. Говорили о многом и разном, но не без умолку. Как раз в ту гродненскую поездку я вдруг ясно открыл для себя, что вдвоем с Василем хорошо не только беседовать обо всем, что ни взбредет на ум, но и помолчать. Тем более, что пространные монологи были тогда моим уделом, он к ним не тяготел...

Таким заведенным чередом - встречи, письма, телефонные разговоры - и летело время вплоть до рокового или судьбоносного - все зависит от того, под каким углом смотреть - в жизни и творчестве Василя Быкова 1966 года, когда в «Новом мире» появилась его повесть «Мертвым не больно».

Василь и Саша Адамович оказались в Москве вместе и пришли ко мне поздним вечером сразу после встречи с Твардовским. Один как стеклышко, другой слегка навеселе, но сияли оба: сигнальный номер с началом публикации уже в редакции. Саша был упоен повестью так, что пересказывал ее если не совсем, то почти по тексту. Василь слушал с настроем тоже приподнятым, не скрывая, что рад и первому своему выходу к читателям через опальный «Новый мир», и единодушному признанию повести его творческой удачей. Я распалялся нетерпением дождаться номера. Дождавшись, начало проглотил залпом, в один присест и еще нетерпеливей стал ждать следующий номер с окончанием.

В тот год, подустав, от журналистской текучки, я ушел из «Литературной газеты», где оттрубил десять лет, и, испытав острую потребность углубить, систематизировать, обобщить накопленные знания поступил в аспирантуру Академии общественных наук при ЦК КПСС на кафедру теории литературы и искусства, возглавляемую И. С. Черноуцаном. Сижу однажды в читальном зале, роскошном, к слову, по книжному фонду, над чем-то срочным работаю, вдруг - звонок с кафедры: Игорь Сергеевич просит зайти. Спускаюсь. В кабинете он, профессор В. И. Борщуков и аспирант третьего курса Владимир Севрук.

- Вы читали в «Новом мире» повесть Василя Быкова?

- Конечно.

- И ваше мнение?

Излагаю возбуждено. Севрук загадочно ухмыляется, Черноуцан нахмуривается, Борщуков с едва заметным облегчением:

- Нет, вы нам не подходите.

Ухожу в недоумении, гадаю, в чем дело. Потом вспоминаю: Севрук как-то прихвастнул, что пишет статью о «Мертвым не больно», благо тема его диссертации - современная военная проза. Наверное, статья написана, и ее сейчас коллективно «дочищают», - вот и хотели позвать меня на подмогу. Но, угадав и, как вскоре обнаружится, угадав верно, доверчиво не заподозрил ничего худого. Ведь на моих глазах всего пару месяцев назад Севрук возбужденно носился по аспирантскому общежитию, держа под мышкой журнал «Маладосць», где повесть печаталась в белорусском оригинале, и назойливо взывал едва ли не к каждому встречному-поперечному:

- Давай почитаю! С листа. Вслух. Остро... разоблачительно...

Проходит еще неделя. По прошествии ее открываю «Правду». Оперативно откликаясь на «новомировскую» публикацию «Мертвым не больно», она бдительно клеймит и журнал, и повесть, о которой «надо сказать прямо и бескомпромиссно» как о неудаче. «Эта неудача - следствие серьезных идейно-эстетических просчетов писателя». Не статья удивила - поразила подпись под статьей: В. Севрук. Напечатано - конечно же, не случайно - в канун съезда Союза писателей Белоруссии, куда и мне предстоит ехать по гостевому приглашению. «Правдинский», а значит, и цековский умысел прозрачен, как дождевая капля: направить съезд на осуждение повести. И закономерно, что вослед столичной зубодробиловке в белорусской печати незамедлительно появилась такая же разносная статья республиканского лакея.

По приезде в Минск узнаю: большая группа белорусских писателей, несколько десятков человек, коллективным открытым письмом осудила обе статьи как публично доносительские. Страсти накалены до предела, кипят и наверняка выплеснутся на съезд.

Встретившись с Василем, рассказываю, как перед отъездом виделся с его переводчиком М. В. Горбачевым, в то время руководящим аппаратчиком Союза писателей СССР. (От его посреднических услуг Василь вскоре напрочь откажется, едва уловит стремление сглаживать при переводе, обстругивать, обтесывать самые острые углы). Он уполномочил меня передать от его имени: если будешь выступать, то скажи о том-то и так-то. Как мне тогда думалось, некоторые доводы в отбив повести от поношений не были лишены резона, но Василь, внимательно выслушав, отмел все.

- Нет, эти советы оборонительные, а я буду не обороняться, а наступать. К тому же Михаил не столько меня защищает, сколько себя как переводчика идейно порочной повести. Но я даже косвенно не стану оправдываться: меня, мол, не так поняли. Это походило бы на покаяние, а я им не Го Мо-жо...

В самом деле Быков не оборонялся, а наступал. Речь была оглушительной, исполненной гражданского мужества и личного достоинства. И признательности всем, кто высказался в его поддержку. Пока среди нас, писателей, существует такая, говорил он в конце, солидарность, белорусской литературе ничто не угрожает.

Писательскую солидарность он, конечно, переоценил. Во второй день съезда на трибуну спешно запустили Алеся Савицкого, будущего управляющего литературными делами в белорусском ЦК. На виду и слуху изумленно гудевшего зала он вероломно поносил Василя и за повесть, и за речь даже не в обходную штрейкбрехерски, а напрямую предательски. С той подлой речи начнется стремительный взлет его служебной и писательской карьеры. За чиновным преуспеванием, как и за частыми и щедрыми изданиями бездарных сочинений белорусского фаворита опекунски будет следить тогдашний заместитель заведующего отделом - забыл: пропаганды или культуры - ЦК КПСС Юрий Мелентьев. Присутствуя на съезде в качестве почетного гостя, он закулисно дирижировал им, а между делом, походя не забывал и меня куснуть в кулуарах как московского «подписанта по Синявскому-Даниэлю».

Прощаясь с Василем, упросил дать мне с собой текст речи. Поколебавшись, дал. Наутро в Москве - рассказываю об этом впервые - я перевел ее, дал почитать одному, другому - пошло по рукам. Вряд ли я был единственным, кто вернулся из Минска с быковской речью в кармане, но из разошедшихся тогда текстов тот, который привез я, опознавался по одной - двум неточностям, какие я в спешке не углядел при переводе с белорусского. И, как потом узнал от Василя, еще по какой-то фразе, которую он не произнес с трибуны, но оставил не вычеркнутой в моем экземпляре текста. В это «разночтение» въедливо вцепился дотошливый кагебист, вызывавший Василя на «профилактическую» беседу не то в Минске, не то в Гродно: припомните, как и кому вы передали невыправленный текст. О том, как он ушел от ответа, Василь не распространялся. Кажется, посетовал на бесконтрольность, естественную в хаосе нервозно взвинченной обстановки...

…Дабы ослушиваться и впредь никому не повадно было, похожее не замедлило повториться через несколько лет в издательстве «Художественная литература» с монографией Лазаря Лазарева о Василе Быкове. Книгу, подписанную к печати (!), остановили на выходе с тем же категорическим требованием изъять авторские суждения о «Мертвым не больно», если они расходятся с давней «правдинскои» статьей. На счету неистового ревнителя и указание исключить неугодную повесть из уже сверстанного собрания сочинений писателя, которое готовилось в Минске на белорусском языке. Возмущенный таким отъявленным самоуправством, директор издательства «Мастацкая літаратура» М. Дубенецкий послал протестующую телеграмму Суслову и Зимянину: «Иезуит Севрук травит писателя с мировым именем Василя Быкова». Чудак человек! Искал бы управу на Севрука сразу и прямо у самого Севрука: телеграмму-то ему спустили, и не кто иной, как он, вел расследование. И провел так, что директора оно вынудило оставить работу, довело до инфаркта, после которого он так и не поднялся. Ради незамутненной «чистоты» идей за ценой не стояли. И платили не только втридорога, возмещая издательские убытки, но и тем, что деньгами не измеряется, - жизнями людей.

Зато для В. Севрука самоослепление ненавистью к Василю Быкову осталось всепоглощающей страстью не на годы - десятилетия. Он и на рубеже веков не списал ее в прошлое, непотопляемым бардом которого выступил в новом для себя качестве культуртрегера белорусского президента. Ностальгируя по невозвратной молодости, когда директивная статья в «Правде» распахнула перед ним подъезды на Старой площади, он по-прежнему называл «Мертвым не больно» «бесталанной схематичной повестушкой». И корил себя единственно за то, что поносил ее в общем обзоре военной прозы, «а надо бы

ограничиться памфлетом на пятьдесят строк. Как и о недавно появившемся рассказе того же автора "Труба"». Будем ли после этого удивляться, что писатель, истинно народный не по почетному званию, а по читательскому признанию как в родной Беларуси, так и в ее ближнем и дальнем зарубежье, олицетворивший достоинство, честь и совесть нации, глумливо был занесен в черную книгу «так называемых "шестидесятников", которые поставили своей целью методичное разрушение великой советской страны и советского общественного строя. Это была классическая «пятая колонна» либерально-космополитического окраса, которую исподволь, опосредованно и напрямую прибирали к рукам опытные технологи западных служб, вербуя из их рядов «агентов влияния», платных и добровольных осведомителей, журналистское лобби»?

Неверно, будто к критическим залпам, обстреливавшим его прямой наводкой, Василь относился спокойно, чуть ли не равнодушно. Внешне выдержанный, уравновешенный, он был впечатлителен, внутренне раним, уязвим, не защищен. И, принимая на себя удары, переживая их, страдал болезненно и мучительно. Даже в статью для печати прорвалось признание об ослепленности и растерзанности, едва не обернувшихся потерей творческих ориентиров. В письме мне оно еще более щемяще: бьют так, что в душе ни одного живого места, - вся болит.

Боль многократно усилили, обострили разгром «Нового мира», уход А. Твардовского, его болезнь и смерть. В день похорон Василь был в Москве вместе с Анатолем Вертинским. В тот ли, на следующий ли вечер мы встретились у меня дома. Мрачно сидели за столом, листали том, вышедший тогда в «Библиотеке Всемирной Литературы», читали вслух стихи Александра Трифоновича. Василь раза два бросил, что Твардовского-редактора ставит выше Твардовского-поэта. Поэт он, конечно, талантливый, но обладать талантом - еще не значит совершить подвиг. А то, что сделано «Новым миром», иначе как подвигом не назовешь. Не литературный гражданский подвиг, сверх таланта потребовавший и самоотреченного мужества, и геройского самоотвержения.

Если пакости, тиражируемые В. Севруком и «примкнувшим» к нему со временем Э. Скобелевым, вызывали раздражение и гнев, то сварганенная в 90-е годы на властном белорусском «верху» и спущенная в газетные «низы» коллектива былых однополчан, отрекавшихся от фронтового братства, повергла в недоумение и печаль. «Это надо же, - с горечью изумлялся он деловой хватке исполнителей государственного заказа, - сколько денег из-за меня ухлопали! Людей-то, раскиданных по всему бывшему Союзу, и разыскать надо было, и обработать, настроить соответственно».

При всем том, что к генералу Власову не относился по-советски однозначно, клеймо «литературного власовца», перенесенное на него в «постсоветской» Белоруссии с Александра Солженицына в советской России, жгло так, будто злодейский удар в спину из политической подворотни оставил не ножевую на теле рану, которая, глядишь, и зарубцуется, а злокачественную опухоль в теле. Более всего коробила ложь - и тем, что выливалась ушатами, и тем, что ушаты были не штучного, а серийного производства, поставленного на поток профессионалами компромата, заведомо знавшими, что лгут. Оттого и литературные атаки на себя считал не только литературными, видел и сознавал их политическую подоплеку. Нервную реакцию на нее в советские времена обострял кагебистский пригляд, о котором он знал по перлюстрациям, безошибочно опознавая, какое письмо в его обширной почте вскрывалось, по подслушкам и прослушкам, прямым угрозам и аляповато маскируемым провокациям. Да и сами кагебисты ни в Гродно, ни в Минске не таили, что он у них под колпаком, и хотя бы видимого приличия ради не заботились о том, чтобы тщательней затереть очевидные следы грязной слежки.

Отсюда с годами растущая осторожность, перераставшая в частую настороженность, а то и мнительность. Вениамин Каверин, познакомившийся в Василем в Крыму и душевно расположившийся к нему, не без удивления рассказывал, как он и на пляж выходил с портфелем, где держал бумаги, оберегаемые от сторонних глаз. В мой второй приезд в Гродно, куда я заехал по пути из Польши, для дружеской беседы по душам увез меня, Алексея Карпюка и Бориса Клейна прогуляться по лесу. Ни о чем

жорсткім бізуне, навіслым над нацыянальна-адраджэнчай традыцыяй, Беларушчынай наогул.

- Ну, прыліпалаў графаманістых з членскімі білетамі неяк можна зразумець. – скрушліва разважаў Першамайстра. – Але ж ты – паэт, з талентам. Табе чаго пхацца да тае хэўры?. У цябе ж  і спецыяльнасць – электрыка; на хлеб зарабіў бы…

Па невялічкай паўзе прашу яго паслухаць свой пераклад верша рускага паэта В.Качаткова пра суцешліва-мудрую старасць (пазней змешчаны ў "Скарынічы" -6); там праз пэўную вольнасць перакладчыка "засвяцілася" і асоба майго нязвыклага слухача: "… І не спакушаць ні Кафка, ні Прыстлі, // А сэрцу лякарствам – Купала і Брыль". Аднак жа не гэтая, ім нібы не заўважаная дэталь, але заключны радок, а менавіта адно толькі слова "старык" ("І век цікавей дажываць старыком") выклікала рашучае пярэчанне:

- "Старык" – ні ў якія вароты, чысты русізм!

Няўпэўнена, але спрабую апраўдацца: маўляў, і класікі, здаралася, грашылі русізмамі; вунь у Стральцова – "старык", "старычок" – алметная рыса яго маўленчай практыкі…

- Мала што, - не саступае Іван Антонавіч, - у самога Якуба Коласа натрапіце на выпадковую кальку. Але ж не на агрэхі нам трэба раўняцца, калі ёсць узоры. І, лагодна ўсміхнуўшыся, завяршае: поработайте, батенька, потрудитесь…

Гутарку нашу парушыў званок у пярэдняй. Гаспадар падаўся адчыняць і праз хвіліну-другую вярнуўся, прыкметна ўзрушаны, павесялелы.

- Бачыце,  і  пошта мяне не забывае, і маладзечанец рупны Міхась Казлоўскі, – не тоячы суцяшэння распячатаў атрыманую бандэроль з "Куфэркам Віленчшчыны". Затрымаўшы погляд на змесце, патлумачыў: – Тут- пра Рыгора Семашкевіча, Адама Станкевіча…  І – не збаўляючы ўзрушэння: Каб жа парупіўся хто за нашых, багацейшых, над спадчынай Адама-пакутніка: сабраць ўсе, выдаць. Выдалі ж Лёсіка, Станкевіча Янку, цяпер вось і Адамовіча [Антона]. А гэты ж Станкевіч, бадай самы беларускі з святароў – такая глыбіня духоўная, нацыянальная...

Зноў званок. За гаспадаром следам падымаюся і я , адчуваю мяжу дапушчальнага часу, аб чым лізнуўшы праменным касячком падваконніка напомніла і надвячэрняе сонейка. А на парозе – фігура статнага чарнявага маладзёна.

- Мой унук Антон, студэнт-матэматык, - не без прытоенага гонару прадстаўляе дзядуля свайго сімпатычнага гадунца. – Неўзабаве і Наташа [дачка] надыйдзе, з выдавецтва вяртаючыся. Казаў жа пра сваю абслугу – клапатлівая.

Наступнага году, помным 25 сакавіка (тутэйшы ОМОН разагнаў мітынгоўцаў Клімава на Цэнтральнай плошчы…) паўтарылася наша сустрэча на той жа, прыветнай цяпельцам душэўным, кватэры, гаспадар якой крыху раней і падахвочваў на адведзіны прываблівым, брылёва-перасмешлівым лісцяняткам у Маскву (9 лютага 2005):

"Гэтым разам Вы каўзануліся па Мінску асабліва неяк маланкава. Я і чакаў, што акажацеся, вярнуўшыся з родных мясцін [Чэрвеньшчына], а потым не вытрымаў, пазваніў Скалабану з адчайным пытаннем: "Дзе ж Каўка?", а ў адказ пачуў  усмешлівае спакойнае: "Як дзе?" У Маскве, абяцаецца быць у красавіку". Зноў цытата: "Верю, Господи, помоги моему неверию". Але ж будзем спадзявацца, бо сустрэцца добра было б.."

Як жа цеплілі тыя вясёлыя радкі азяблыя акаёмы істоты псіха-самотніка, чыя беларускасць "в иноязычном" атачэнні амаль зняможылася бараніцца ад неадчэпнага ернічання таго ці іншага "маскоўскага аўтара"--інтэгрыста:  "Так когда же, наконец, воссоединимся? Нечто твой (!) Батька заупрямился под общую длань Подскочил бы в Минск, поторопил... С Позняком ведь уже не тусуешься (ведае..)".

Не даць бы сабе рады ў  глухой безнадзейнасці, калі прытаптаны народ твой тужацца перайначыць на "истинный", нават са "знаком качества", --  калі б не суцяшальная вестка, прыветнае слоўка, прамяністая кніжачка адтуль, з Радзімы з

Брылёвым спачувальна ўпартым: “А жыць жа трэба!..” Іншым разам смехам – нават праз слёзы – адольваючы гаркату панылае будзёншчыны. За прыкладам тых жа гледачоў Купалавага “Раскіданага гнязда” у Рускім драматычным: “Калі са сцэны пачулася: “Чаго сядзіце? Бацька павесіўся!”, моладзь грымнула смехам і воплескамі”. Хаця не метафарычны, рэальны “Бацька”, яго ўвішныя халопы смеху відавочна не зносяць: “А пазней пачуў, тое “чаго сядзіце?” і далейшае ў Купалавым тэксце [з пастаноўкі] знята”.

Спомненым сакавіцкім вечарам завіталі да яго ўдваіх з В.Скалабанам, з гадзінку прабавіўшы пры знаёмым гасцінным століку. Тым разам увагай гаспадара валодаў пераважна мой калега-гісторык, дапытлівы архівіст, звяраючы з Брылёвай нятускнаю памяццю некаторыя “архіўныя” факты, імёны з літаратурнага жыцця ў паваеннай Беларусі, за “Панамарэнкавым ” часам. Слухаючы іх ажыўлёнае гамонкі спрабаваў я, нібы крадком, слова-другое занесці ў свой нататнік.

- Асцярожней, пане Віталь, нас запісваюць. – усмешліва прабасіў размоўца, паводзячы брывом у мой бок.

- А як жа?. – мусіў аджартоўвацца няўцямны “пратакаліст”, - не палягацца ж на дакладнасць “таварыша маёра”. Здавён, не тут кажучы, многія непаразуменні на свеце - ад хібных занатовак, тэхнічна недасканалых праслушак.

Закранулася ў размове прозвішча Броўкі.

- Дарэмна насміхаюцца: “Пятрусь Броўка піша лоўка”. Яго ж позняя лірыка – якая паэзія! Пры ўсім сваім самалюбстве і чалавек ён быў чулы, спагадлівы. Мог выслухаць, мог пагадзіцца з процілеглай думкаю. Далей апавядаў як на Сакратарыяце ён, Брыль, запярэчыў рашучасці Старшыні, схіліўшы яго, замест “караць”, падмагчы “багемнаму” Сымону Блатуну ў яго няпростай сітуацыі, як пасля асабістага ўмяшальніцтва Броўкі зборнічак паэта ўбачыў свет.

Таго ж вечара я падараваў яму томік раней не друкаванага Міхаіла Прышвіна “Дзённіка”, набытага ў звенігародзкім Дуніна, сядзібе-музеі пісьменніка. Удзячна згадаўшы, што менавіта Брылёва душэўна-эстэтычная пранікнёнасць да Прышвінаўскага слова (“Сказка о правде”) ўзварушвала, узмацняла і маю чытацкую цікавасць да гэтага чуллівага рускага думанніка, непаўторнага творцы мастацкае харашыні ў прыродзе і чалавеку.

Цяпер дадаў бы, што тыя ж роздумы-хваляванні Янкі Брыля над Талстым, Чэхавым,Буніным, Шаўчэнкам, Міцкевічам, Раланам не аднойчы і ў маёй істоце ўскалыхваліся працінальнымі штуршкамі да прачытання, перачытвання адпаведных старонак. Не кажучы пра наш беларускі палетак. Ня раз уражаны Брылёвым знакам творача якасці адносна Караткевіча, Стральцова, Кудраўца, Жука, вяртаўся я, вяртаюся да гэтых найбліжэйшых майму мастацка-філасафічнаму ўспрыманню майстроў-словатворцаў. Зноў жа, удзячна запыняюся над не менш мне роднаснымі імёнамі многіх іншых руплівцаў Беларушчыны – Ермаловіча, Каханоўскага, Конана, Дамашэвіча, Ткачова, Кісялёва, Мальдзіса, Ліса, Саламевіча… - пранікнёна адзначаных у яго лірычных запісах.

А ўвогуле не ведаю, хто другі сярод нашых творцаў нагэтулькі аглядна і ўглядна пазірнуў на сваю, на сусветную літаратуру, культуру, на блізкія і дальнія народы, на спалучанасць беларускага лёсу і шляху з іншымі краінамі і культурамі і хто гэтак шчодра падзяліўся з чытачом бясцэнным дарам убачанага, перажытага, выснёнага “здалёк і зблізку”. Ні ў чым не паменшваючы зробленага на тым жа нацыянальна-універсальным абшары сучаснікамі і бліжэйшымі сябрамі Янкі Брыля – Алесем Адамовічам, Уладзімірам Калеснікам.

Зведалася ж ад яго, трэба празнацца, і прыкрае ніякаватасці праз сваё лёгкавеснае абыходжанне з рэчамі важкімі, высокімі. Вялікая Айчыная вайна – ці была для беларусаў айчыннаю? – рытарычнае, калі не кашчуннае, як цяпер бачу, пытанне іржавым цвікам

вытыркалася з маіх, раздрукаваных уражанняў ад паездкі ў Лондан, знаёмствам з нашымі эміграцыйным пісьменствам. За тое сумнеўнае “Ці была..?”, падхопленае пад тадышнюю галоснасць запальчывым пісакам з іншага голасу, давялося мне вытрымаць не адзін востры дакор ад сяброў, ветэранаў тае самае Айчыннае...

І вось сядзімо разам у залі Дома літаратара на канферэнцыі, прысвечанай культуры беларускага замежжа, ладжанай “Бацькаўшчынай”. Закранулася ў выступленнях і тэма мінулае вайны. Раптам Брыль, крануўшы майго пляча і скіраваўшы на суседа засяроджаны, неяк пачужэлы погляд, цытуе з памяці Бранеўскага: “Skreśl Ojczyźnie rachunki krzywd. Obca dłoń ich  też nie przekreśli…”* І далей дакорліва прыцішаным голасам: Нехта тут, між нас, засумняваўся: ці варта было беларусу бараніць ад гітлераўцаў сваё, маўляў, зглумленае бальшавікамі Радзімы. Але ж іншае, лепшае не мелі, не маем. Адна яна – адзіная. Як і маці ў кожнага – адна. І вытрымаўшы невялічкую паўзу, падагуліў, троху лагадней: “Такія справы, маэстра. Калеснік Валодзя сказаў бы вастрэй. Меўся напісаць вам штосьці сваё, пратэстнае, але цяпер ён вельмі хворы...”

З пякуча-гаючым адчуваннем перажыў “маэстра”-недацёпа шчыры ўрок Брылёвай ненавязлівае патрыятычнасці й грамадзянскасці.

Спомнілася мне тое перажыванне значна пазней. Пацяплелым апоўднем 9 мая 2006 спяшаўся я ў шпіталь на Чырвонаармейскай – адведаць, павіншаваць са Святам пісьменніка, франтавіка, беларускага партызана Янку Брыля. Дарогаю незнарок варухнуліся ў памяці шчымлівыя радкі іншага салдата і Паэта: “Мой таварыш ляжыць у бальніцы. Амініце яго, навальніцы…”. Тыя словы і пазначыліся ў падараванай яму кнізе “От Скорины до Купалы”.

Бавіцца тады даўжэй між шпітальных сценаў не выпадала. Быў “мёртвы час”  і дзяжурную сястру ледзь упрасілася выклікаць пацыента з палаты. З яе дазволу і папярэджання “на пять минут, не больше” прыселі абодва цішком у тарцы калідора. На хворага, зняможанага Ён не выглядаў ды й у бальнічнай палаце, казаў, апынуўся хутчэй з прафілактычных меркаванняў. Спешна было і мне; меўся перад ад’ездам яшчэ заглянуць да Алены Васілевіч, з ёй, дарэчы, пры садзеянні Брыля, ладзілася наша прыязная перапіска, і ад яе даведаўся, што “Янка наш” у бальніцы, аб чым яму і сказаў, між іншым.

- Пачакайце, - запыніў мяне пры адыходзе, ля сваёй палаты. Прыадчыніў асцярожна дзверы ў пакой і адразу ж вярнуўся з пруткастым пукам белых, чырвоных гваздзік і трыма буйнымі апельсінамі ў руках. – Мне тут нанеслі  і кветак, і  садавіны. Як жа не падзяліцца з бліжнім – тым болей, ветэранам. Зробіць пан ласку, перакажа віншаванне цвяточнае сонечнай Лене-пісару “нестроевой части” ад партызанскага разведчыка. Злёгку пахінуўся ўперад – крышку стулены, але ўсё той жа паглядна высокі, магутны, і я трымтліва дакрануўся яго ледзь дасягальнага пляча...

- Ой, Янка, Яначка. – расчулена прыгаворвала “сонечная Лена”, ладзячы у крышталёвую вазу прывітальныя кветкі...

Недзе ў сярэдзіне ліпеня атрымаў бандэрольку з мілым знаёмым почыркам. Усхвалёваны, распячатаў: “Парастак” Янкі Брыля. Таго ж дня спяшаючы назад з грукотнага млоснага горада ў сваё лясное зацішша, прыхапіў на пошце канверт з маркамі, маючыся адтуль, з-над Акі, напісаць яму нешта шчырае, спавядальнае. Праз якіх два-тры дні, “прарваўшыся” апоўначы на радыё “Свабода”, скамянеў ад раптоўна пякучае весткі – “... з адыходам Янкі Брыля...” Назаўтра вяртаюся ў Маскву, спрабую дазваніцца па знаёмым тэлефоне... Глухое маўчанне. З паштамта падаў тэлеграму-спачуванне Наталлі Семашкевіч-Брыль.

---

* *Перакрэслі Айчыне рахункі крыўд. Іх чужая  далонь  не скрэсліць (польск.)*

У дзённіку маім – журлівая нататка: “26 ліпеня 2006. Зялёны парастак дубовы - з вячыстага камля... Апошняя кніжачка светлага думанніка Беларусі, Нестара класічнага слова беларускага. Мабыць, прадчуваючы свой адыход надпісаў маскоўскаму суродзічу – ужо дрыготкімі, хоць такімі ж брылёва ўстаўнымі літарамі: “Рады паслаць Вам сваю кніжыцу і спадзяюся пачуць ад Вас, что вы яе атрымалі. Дай нам Бог зноў хутка сустрэцца! 9.VII. 06. Я.Брыль.”

“На вялікі жаль, не сустрэнемся, мілы Янка Брыль. Толькі – ля пясчыстага пагурачка і там – за таёмнай мяжой. Дзе й скажацца недасказанае, перапросіцца, што не паспеў пазваніць, напісаць, падзякаваць..”

“Пра мае жальбіны – у лісце Анатолю Кудраўцу. З ім яшчэ мо спаткаемся – над Вячай, у Купалавых Беларучах. Нядоўга й нам засталося жыцця-дажывання. Спяшаймася ж сустрэцца”.

А пакуль – жыццё доўжыцца – сцішана запынімся ў Брылёва сонечнай прасторы над журбой-светлынёй беларускай:

“Хай будзе добра ў вашым баку. Бывайце, людзі добрыя…”

Няхай жа будзе.

жнівень-верасень 2007
Успенскае.

*Аляксей Каўка*

**Віктар Чайчыц**

## Праз Маскву да Беларусі

Прамінула 30 гадоў з таго часу, калі я, малады і зялёны хлопец з Палесся, прыехаў вучыцца ў Маскву, сталіцу нашай вялікай краіны, што называлася СССР. Масква дала мне не толькі адукацыю, кар'еру, сям'ю, але і значна паспрыяла маёй беларускасці, пашырыла мой кругагляд і веды пра Беларусь у кантэксце еўрапейскай гісторыі, палітыкі і культуры.

Першыя месяцы майго жыцця ў Маскве былі даволі напружаныя: новае наваколле, вялікі і шумлівы горад, заняткі, прывыканне да жыцця ў інтэрнаце Інстытута міжнародных адносін і штодзённых кантактаў з аднакурснікамі з іншых рэспублік і краін. Маскоўская бурная плынь захапіла і панесла мяне ў новае, незнаёмае жыццё.

Маю адметнасць у Маскве падкрэсліваў не толькі беларускі акцэнт (усе дзесяць гадоў я правучыўся ў беларускамоўнай школе), але і маё рэдкае, як я раптам даведаўся, прозвішча – Чайчыц. Што ж тут рэдкага, пытаўся я ў сябе. Людзей з такім прозвішчам на маёй роднай Берасцейшчыне даволі шмат. Сёння ў тэлефонных даведніках Бярозы і Белаазёрска іх цэлыя старонкі.

### Мае карані

Тут трэба трошкі спыніцца і сказаць пра тое, што дапамагло мне трымацца на глебе беларускасці. У мяне ад бацькі Мікалая Паўлавіча і маці Галіны Вячаславаўны два моцныя карані – заходне-паляшуцкі і цэнтральна-беларускі. Гэта два вельмі розныя рэгіёны Беларусі па мове і трыдыцыях, па менталітэту і свядомасці, па клімату і ландшафту, па прыроднай энергетыцы і водару. Але яны дапаўняюць адзін аднаго. Я меў шчасце жыць там і стаць іх часткай, атрымаць ад іх паўнавартасную спадчыну. Ужо гэта робіць мяне шчаслівым і багатым чалавекам!

Падмурак беларускасці заклалі мне не толькі бацька і маці (дома мы ў асноўным гаварылі па-руску), але і іх бацькі, у якіх я часта праводзіў дзіцячыя гады і канікулы. Па бацькавай лініі я ведаў толькі бабу Ганну (Ганна Буранко), а вось дзеда Паўла Чайчыца, прозвішча якога я прадаўжаю, убачыць не давялося: ён загінуў на вайне. Баба Ганна была вымушана адна паднімаць і выхоўваць чацьвярых дзяцей. Памятаю яе апавяданні пра дапамогу партызанам, спаленую хату і цяжкі сялянскі хлеб! На двары бабінай хаты яшчэ доўга валяліся дэталі і рэшткі нейкай дзіўнай для мяне канструкцыі. Аказалася, што гэта дзед Павел хацеў, але не паспеў паставіць млын… Млын з нейкага часу стаў, дарэчы, адным з вельмі блізкіх мне вобразаў. А яшчэ я вельмі люблю балота і туман, ваду, дождж і вільгаць. Паляшук - ён і ў Маскве паляшук!

Палешукі народ вельмі самастойны, упарты і вясёлы. У весцы Спорава Бярозаўскага раёна, дзе я правучыўся дзесяць гадоў у школе, традыцыйна праходзіць абласны фестываль гумару ("Споровскэ сміховыско"). Я неаднаразова чуў у савецкія часы ганарлівую заяву на мясцовай гаворцы, што "Сporово - гэто друга Москва!". Суседняя вёска Здзітава, дзе я нарадзіўся, успамінаецца як старажытны горад-крэпасць ў Іпацьеўскам летапісе пад 1252 год. Для этнографаў і мовазнаўцаў гэты край можа даць яшчэ шмат працы і здабыткаў. Мова там вельмі цікавая, падобная па мелодыі да ўкраінскай, са шматлікімі старажытнымі словамі, якія часам бянтэжаць нават жыхароў раённага цэнтра. Памятаю, як мой бацька некалі казаў напалову сур'ёзна, напалову жартаўліва, што вывучаў у школе тры замежныя мовы – нямецкую, рускую і …беларускую! Сёння, калі я чую ўкраінскія песні, то ўспрымаю іх як свае, бо такія ж песні спявалі і на маёй радзіме. Палессе моцна звязвае нас з украінскай культурай і мовай.

Вядома, што шчырую і звонкую беларускую мову я на маёй палескай радзіме вывучыць не мог, бо яе там проста не было. Я вучыў яе да школы не па падручніках, а на

радзіме маці ў вёсцы, што маляўніча разлеглася ў трохкутніку Клецак-Нясвіж-Слуцак. Я часта бываў у гэтых гістарычных гарадах. Вельмі запомніліся мне таксама шматлікія і багатыя сады гэтага рэгіёну, пах яблык і спелага збожжа, сінія палі лёну, працавітае сялянскае асяроддзе, песні жанчын і духавая музыка. Разам са светлай памяццю маіх бабы Мані (Марыя Маразевіч) і дзеда Ваці (Вячаслаў Горбач) ўсё гэта і зараз аддаецца ў сэрцы цёплынёю дзяцінства.

Што яшчэ запомнілася з дзяцінства, дык гэта ўплыў польскай культуры і мовы ў згаданым регіёне. Усе людзі старэйшага ўзросту атрымалі там якую-неякую першапачатковую адукацыю на польскай мове. Дзед Ваця казаў мне неяк, што раней на вясковых танцах карыстацца польскай мовай было добрым знакам, кожны хацеў выглядаць шляхетней… Як бы там ні было, а мне гэтыя ўспаміны дзяцінства дапамаглі зразумець Польшчу ў першую чаргу не як замежжа, а як блізкага суседа. Мала хто з паэтаў змог выклікаць ў маёй душы такое моцнае пачуццё Радзімы, як мой зямляк Адам Міцкевіч, што нарадзіўся на тэрыторыі, што сёння адносіцца да Брэсцкай вобласці!

### Масква і беларускасць

Мая баба Маня некалі выказвала занепакоенасць, што ў Маскве я буду “адзін, як адарваны лісточак з дрэва”. І сапраўды, пасля некалькіх першых месяцаў жыцця ў Маскве я адчуў, што мне чагосьці не хапае. А не хапала беларускамоўнага асяродка і кантактаў. Я знайшоў выратаванне ў беларускай мове. Пайшоў у бібліятэку. Выпадкова трапіла пад руку кніга Ул.Караткевіча, але на рускай мове. Пачаў чытаць і не змог адарвацца. Караткевіч, якога я не заўважыў у школе, зрабіў на мяне ў Маскве такі моцны ўплыў, што я нават засумняваўся, ці добра я ведаю беларускую гісторыю і літаратуру. Тэрмінова звязаўся з сябрамі і папрасіў прысласць Караткевіча на беларускай мове. З таго часу з гэтым пісьменнікам я не разлучаюся.

У Маскве мне пашанцавала сустрэць шмат землякоў і этнічных беларусаў, якія ганарыліся сваімі каранямі і стараліся захаваць беларускі дух і асяродак на расійскай зямлі. У першую чаргу не магу не падзякаваць Аляксею Каўку. Менавіта гэты чалавек разам з іншымі заўзятарамі стварыў і потым узначаліў у Маскве Таварыства беларускай культуры імя Ф.Скарыны. Я з гонарам захоўваю свой членскі білет таварыства №7. Нельга не ўспомніць і першую настаўніцу беларускіх дзетак у Маскве Ганну Багуліну-Рыжкоўскую, дзякуючы якой і мой сын-масквіч гаворыць па-беларуску.

На жаль палітызацыя і радыкалізацыя грамадскага жыцця беларускай суполкі ў Маскве не дазволіла захаваць адзінства беларускага зямляцтва і адзінства намаганняў у галіне беларушчыны. Але можа гэта ў нейкім сэнсе наадварот паспрыяе нашай будучыні: каб аб’яднацца, трэба часам спачатку разыйсціся…

Я з павагай адношуся да тых этнічных беларусаў, якія памятаюць пра свае карані, хаця не жылі на Беларусі і не змаглі пагэтаму вывучыць мову. Аднак я не магу зразумець тых беларусаў (а такіх у Маскве даволі шмат), якія не абцяжарвалі сябе кніжкамі па беларускай гісторыі і мове і якія не могуць сказаць пра Беларусь нічога, акрамя таго што культура і мова беларуская падобныя да рускай, што ў нас агульнае савецкае мінулае, пагэтаму … нам трэба жыць разам! Каму будзе цікава з такімі прымітыўнымі суразмоўцамі?! Хто іх будзе паважаць?! У першую чаргу іх не будуць паважаць тыя ж блізкія нам рускія людзі! Мае рускія сябры, дарэчы, кажуць, што беларусам часам не хапае … нацыяналізму ў добрым сэнсе, гордасці за сваю самабытнасць.

### Што з намі будзе?

Сітуацыя ў маскоўскай беларускай дыяспары адлюстроўвае сітуацыю ў самой Беларусі. Хто з нашых еўрапейскіх суседзяў будзе паважаць народ, які выракаецца роднай мовы і сваіх каранёў? Хто будзе паважаць такую дзяржаву? Сённяшняя дзяржава нясе

адказнасць за тое, што мы ведаем сваю гісторыю толькі ва ўрэзаным фармаце, што беларуская мова, не гаворачы ўжо пра дыялекты – узбагачальныя яе крыніцы, зрабілася непатрэбнай. Мова – гэта душа народа. Без мовы і душы чалавек зменіцца. Беларусы ўжо шмат у чым змяніліся, і не ў лепшы бок… Варта задумацца, напрыклад, над тым, что сёння ўжо некалькі пакаленняў беларусаў гавораць не на той мове, на якой гаварылі іх родныя бацькі. Гэта не наступствы цывілізацыі і глабалізацыі, гэта бескультур'е і ў нейкім сэнсе нават здрада! Кім мы станем? Што з намі будзе?

Мне здаецца, што нам тэрмінова патрэбна моцная духоўная дапамога. Чаму б праваслаўнай царкве, якая прэтэндуе ў Беларусі на вядучую ролю, не занепакоіцца гэтым пытаннем? Гэта ж наша царква, наша духоўная апора. А чаму Божае слова на беларускай мове можна слухаць сёння толькі ў каталіцкім касцёле? Чаму так мала мы змагаемся з п'янствам і брыдкаслоўем?

Аналізуючы наша жыццё, я прыйшоў да высновы, што мы, беларусы, ніякі не памяркоўны народ! Мы злыя і неталерантныя людзі, неадукаваныя ў сэнсе сваёй гісторыі і культуры. Наша грамадства раскалолася палітычна і культурна, кожная частка мае сваю праўду і крыўду. Мы не можам цярпець іншадумства, палітычную апазіцыю ў нас зрабілі ворагам народа, а не інтэгральнай часткай грамадска-палітычнага жыцця. Мы не можам цярпець іншыя сімвалы, у тым ліку гістарычныя. Чаму нельга выкарыстоўваць, напрыклад, гістарычныя і сучасныя дзяржаўныя сцяг і герб? Няхай сабе лунаюць разам на дэманстрацыях і святах! Няхай дапамагаюць нам атрымаць пачуццё адзінства нацыі! Тут дзяржава павінна весці сябе больш абачліва і разумна.

Сёння ў нас больш пытанняў, чым адказаў. Трэба глядзець на сябе больш крытычна, не шкадаваць сябе, бо толькі гэта выратуе нас і вывядзе з той сітуацыі, у якой апынулася грамадства і краіна. Наша будучыня залежыць толькі ад нашай уласнай актыўнасці, ніхто нам яе не створыць.

**Беларусь, Расія і Еўропа**

Асобная гаворка і вельмі набалелая тэма – знешняя палітыка сённяшняй Рэспублікі Беларусь, асабліва яе еўрапейскі напрамак. Мы не ўпісаліся ў працэсы еўрапейскай інтэграцыі, супрацьпаставілі сябе і сапсавалі адносіны з усімі суседзямі і літаральна занялі кругавую абарону. А між тым, Еўропа – гэта калыска нашай беларускай цывілізацыі!

Беларусь без беларускай мовы і культуры, штучна адарваная ад агульнаеўрапейскага дэмакратычнага працэсу і еўрапейскіх каранёў, - гэта не мая Беларусь! Такая Беларусь для мяне ўсё больш становіцца толькі палітыка-адміністрацыйным паняццем. У культурна-моўным і этнічным плане я ўжо схільны лічыць сябе літвінам, а ў агульначалавечым – еўрапейцам!

Здавалася б, хочаш быць еўрапейцам – будзь ім. Але як, калі ты не можаш зрабіць нават самае простае - свабодна праехаць на Еўропе, бо твае заходнія суседзі адгарадзіліся граніцамі і дарагімі візамі! Як адчуваць сябе еўрапейцам, калі на граніцы на цябе глядзяць часта як на варвара з усходу, нелегальнага мігранта або нават злачынца?!

Шмат хто ў Еўропе гаворыць пра тое, што трэба дапамагчы Беларусі вярнуцца ў еўрапейскую дэмакратычную сям'ю. Ну а калі ўжо хочаце, панове, дапамагчы, дык трэба не ўводзіць псеўдасанкцыі ў адносінах да паездак і банкаўскіх рахункаў кіраўніцтва краіны, а даць простым беларусам візавыя паслабленні, а яшчэ лепш - бязвізавы рэжым. Людзі паедуць, пагледзяць, павучацца і возьмуць, калі трэба, лепшае для сябе і краіны. Тады і дэмакратыя будзе расці эвалюцыйна, і ўмовы для эфектыўнай эканомікі мы навучымся ствараць, і выбары правядзем без заўваг і крытыкі.

Сённяшняя палітычная блакада Беларусі з боку ЗША і ЕС дзейнічае не столькі супраць кіраўніцтва Беларусі, колькі супраць Беларусі як краіны, бо яна выключана з многіх працэсаў, бо яе голас амаль не чуваць у еўрапейскім палітычным жыцці. Адзінае выключэнне – гэта членства Беларусі ў АБСЕ. Трэба разабрацца, каму на міжнароднай

арэне і ў самой краіне выгадна трымаць Беларусь у такім непаўнацэнным становішчы. Я сумняваюся, што тут вінаваты, як часта кажуць, толькі ўнутраны аўтарытарны палітычны курс кіраўніцтва краіны. А можа нам таксама трэба зразумець, што няма ні пастаянных сяброў, ні пастаянных ворагаў, а ёсць толькі пастаянныя інтарэсы Беларусі і яе народа!?

Беларусь – гэта рэгіянальная еўрапейская краіна, якая знаходзіцца, дарэчы, у геаграфічным цэнтры Еўропы. Сам лёс наканаваў нам быць у цэнтры еўрапейскіх падзей! У гэтым сэнсе мы патэнцыйна маем магчымасці спрыяць, у тым ліку, адносінам ЕС-Расія, а таксама ўжо набіўшаму нам аскоміну, але ніяк намі пакуль не задзейнічанаму балтыйска-чарнаморскаму супрацоўніцтву. Назапашванне еўрапейскасці праз рэгіянальныя сувязі і кантакты на ўсіх напрамках – гэта шлях да нашага еўрапейскага будучага. Ніхто на Беларусі не павінен мець манаполіі ў галіне развіцця адносін з ЕС або Расіяй – ні апазіцыя, ні ўрад. Не трэба слухаць тых, хто расказвае нам, што толькі яму адкрылася ісціна, і толькі ён ведае, куды рухацца. Трэба агульнымі намаганнямі ствараць такую разгалінаваную сетку адносін (урад, парламент, партыі, грамадскія, навуковыя, культурныя арганізацыі, фірмы і г.д.), якая дала б нам магчымасць у цесным супрацоўніцтве паспяхова вырашаць усе пытанні нашага сацыяльна-эканамічнага, культурнага жыцця і паляпшэння дабрабыту.

З улікам працэсаў у свеце і на постсавецкай прасторы Расія і Беларусь сёння маглі б стварыць узорную мадэль інтэграцыйнага регіянальнага аб’яднання, якая была б прывабная і для іншых краін. Але гэтаму, як мне здаецца, перашкаджае тое, што ў сваёй бальшыні расійскія палітычныя кругі, праваслаўная царква і нават грамадская думка ў Расіі сёння не вельмі гатовыя ўспрымаць Беларусь як суверэнную дзяржаву, як асобную нацыю. Дайшло нават да афіцыйных прапаноў увайсці ў склад Расіі. Прычыны ляжаць не толькі ў імперскай мінуласці Расіі, але і ў старых ідэалагічных клішэ аб нашым культурна-гістарычным адзінстве, дружбе і г.д., якія былі створаны і актыўна выкарыстоўваюцца для апрацоўкі насельніцтва (асабліва перад выбарамі). Гэтыя клішэ працуюць, бо хто ж будзе супраць дружбы і супрацоўніцтва! Але чаму адзінства не можа быць разнастайным? Чаму абавязкова жыць у адной кватэры-камуналцы?

Аб’ектыўную ацэнку адносінам Беларусь-Расія даваць складана, паколькі трэба рабіць комплексны аналіз гэтых адносін у розных сферах, улічваць не толькі сённяшні дзень, але і тэндэнцыі развіцця за апошні час, абапірацца на меркаванні і ацэнкі з некалькіх крыніц. Я пагэтаму абмяжуюся суб’ектыўнай, асабістай ацэнкай. Скажу шчыра, што ў савецкі час гэтыя адносіны былі сапраўды брацкімі, больш паважальнымі, чым сёння. Гэта адчувалася на бытавым узроўні, а гэта як раз менавіта тое, што патрэбна простым людзям.

Сёння мы жывем у двух розных суверэнных дзяржавах. Мы па-ранейшаму цесна звязаны эканамічна, ваенна-палітычна, а таксама ў галіне кантактаў між людзьмі, але сітуацыя змянілася. Савецкага Союзу больш няма. Настальгія – дрэнны дарадчык у сённяшнім прагматычным свеце. Адносіны трэба будаваць па-новаму, на сур’ёзнай і салiднай основе. Мне здаецца, што гэта не зусім атрымліваецца. Добра, што апошнім часам спынілася дзіўная гонка 90-х гадоў з амаль штогадовымі падпісаннямі двухбаковых расійска-беларускіх дакументаў. На мой погляд, гэтая паспешлівасць у абыходжанні з сур’ёзнымі і святымі для многіх людзей тэрмінамі моцна абясцэніла сутнасць працэсаў, што адбываліся паміж Расіяй і Беларуссю: 1995 – дагавор аб дружбе; 1996 – дагавор аб стварэнні садружнасці; 1997 – дагавор аб саюзе; 1998 – дэкларацыя аб далейшым яднанні, 1999 – дагавор аб стварэнні саюзнай дзяржавы.

Што ж мы атрымалі ў выніку? Сёння ніхто не ведае, што мы будуем. Што такое «саюзная дзяржава» з двух суверэнных дзяржаў з боку гледжання міжнароднага права і здаровага сэнсу? Калі гаворка ідзе пра роўныя правы грамадзянаў, то можна адзначыць вельмі станоўчыя напрацоўкі (не патрэбны дазвол на працу, аднолькавыя падатковыя ільготы і г.д.). Аднак жа ёсць і нявырашаныя пытанні.

Мне здаецца, што грамадская думка ў Расіі ў адносінах да беларусаў некалькі пагоршылася, прычым у асноўным з-за прымітыўных постсавецкіх разборак на тэму хто каго корміць ці аб'ядае. Чамусьці сярод многіх расіян сёння пануе меркаванне аб тым, што беларусы – нахлебнікі, якія атрымліваюць танныя энерганосьбіты, што беларусы не могуць жыць без Расіі і заўсёды толькі аб ёй і марылі. А між тым беларусы мелі і маюць еўрапейскую альтэрнатыву! Толькі вельмі нясмела пра гэта гавораць. Давайце паглядзім неперадузята на некаторыя аспекты беларуска-расійскага адзінства:

- Агульныя гістарычныя і культурныя карані? - Так, мы суседзі і вельмі блізкія. Але нам гэтак жа блізкія паўднёвыя і заходнія суседзі (Украіна і Польшча). Нават калі ўзяць непрымальную для мяне тэорыю "старэйшага брата", то ўспамінаеш спачатку Кіеўскую Русь…;
- Славяне? –Ну калі ўжо пра іх гаварыць, то трэба не перабіраць сярод іх, а сябраваць з ўсімі, у тым ліку і са славянамі ў НАТО і Еўрапейскім Саюзе;
- Агульная рэлігія праваслаўе? – Так і не так. Прыйшло яно да нас, дарэчы, з Візантыі і Кіева. А паглядзіце на колькасць каталіцкіх і пратэстанскіх абшчын на Беларусі, на колькасць мусульманаў у Расіі. Хіба можна толькі на праваслаўнай базе будаваць будучыню адносін паміж Расіяй і Беларуссю?;
- Агульная дзяржава? – Беларусы на працягу стагоддзяў больш часу пражылі ў адной дзяржаве з украінцамі, літоўцамі і палякамі, чым з рускімі;
- Падобнасць мовы? – Так і не так. Па лексічнаму складу беларуская мова бліжэй да ўкраінскай. Беларуская мова больш адрозніваецца ад рускай, чым, напрыклад, чэская ад славацкай альбо харвацкая ад сербскай. Але ж яны мову суседа, нават вельмі блізкую, сваім дыялектам не называюць…
- Эканамічныя сувязі? – Расійскія энерганосьбіты стварылі вельмі аднабаковую залежнасць, якая можа пагражаць суверэнітэту Беларусі. Традыцыйны расійскі рынак для беларускай прадукцыі ўсё больш закрываецца.

Спіс можна прадоўжыць…

Я за тое, каб паміж Расіяй і Беларуссю быў саюз, а не «саюзная дзяржава». Саюз суверэнных дзяржаў не толькі мажлівы, але і патрэбны. Іншая справа, што па сваіх памерах, патэнцыялах і інтарэсах Расія і Беларусь моцна адрозніваюцца. Цяжка стварыць у такой сітуацыі раўнапраўны саюз.

Значную ролю тут могуць адыграць асобы, у першую чаргу кіраўнікі краін, але народы і самі могуць разабрацца. Паміж рускімі і беларусамі няма антаганістычных супярэчнасцей, таму дружалюбныя адносіны захаваюцца заўсёды. Галоўнае, каб прэзідэнты будавалі дзяржаўныя адносіны на саліднай, раўнапраўнай і рынкавай базе, без кан'юнктурных меркаванняў і так званай «брацкай» дапамогі, якая ў шмат якіх пытаннях ужо аказалася мядзвежай паслугай.

Расія для мяне – гэта ў першую чаргу еўрапейская дзяржава, і было б лепш, каб і Расія, і Беларусь былі разам у еўрапейскай сям'і народаў. Цяжка сказаць, як і калі гэта будзе. Расія занадта вялікая дзяржава з амбіцыйнымі геапалітычнымі інтарэсамі. Мне не хочацца, каб яна ўцягнула Беларусь у гэтыя інтарэсы. Лепш працаваць разам над тым, як нам вярнуцца ў еўрапейскую сям'ю, з якой нас на доўгі час выкінулі дзесяцігоддзі камуністычных эксперыментаў, як зблізіцца з Еўрапейскім Саюзам. Падабаецца нам гэта ці не, але менавіта ў рамках ЕС удалося стварыць самае эфектыўнае на сённяшні дзень і жыццяздольнае інтэграцыйнае аб'яднанне. Я ўпэўнены, што месца і Беларусі, і Расіі ў вольнай дэмакратычнай Еўропе. Менавіта тут наш дом, адсюль мы выйшлі і тут мы павінны шукаць арыентыр будучага развіцця і дабрабыту.

***

Як я ўжо адзначыў, Масква значна паспрыяла маёй беларускасці. Я змог пераадолець правінцыяльна-регіянальны і рэспубліканскі бар'ер і паглядзець на Беларусь у міждзяржаўным і еўрапейскім кантэксце. Я пражыў тут ужо больш гадоў, чым на Радзіме. Больш таго, тут я сустрэў маю жонку, так што беларуска-расейскі саюз (раўнапраўны!) на ўзроўні сям'і мы ўжо стварылі. Масква ўжо нібы і не заграніца. Але я застаўся беларусам. Масква не толькі не перашкаджала мне ў гэтым, але і дапамагала! У маскоўскім моры я не раствараўся і не губляўся, а наадварот спрабаваў стварыць вакол сябе натуральную і інтэлектуальную беларускую атмасферу, якая заўсёды паважалася, якая станавілася часткай навакольнага жыцця. Мне здаецца, што менавіта ў Маскве я змог застацца большым беларусам, чым змог бы застацца ў сённяшняй Беларусі! Я вельмі ўдзячны гэтаму шматнацыянальнаму гораду.

Масква спрыяла пэўным чынам і маім знаёмствам з некаторымі славутымі беларусамі, у прыватнасці з Васілём Быкавым. Мы пазнаёміліся з ім летам 1988 года ў Заходнім Берліне, дзе я працаваў у савецкім генконсульстве і час ад часу суправаджаў дэлегацыі з СССР. Памятаю, прыехаў у гатэль, дзе жыў Васіль Уладзіміравіч, павітаўся з ім, назваў сваё прозвішча і зазначыў, што з'яўляюся яго земляком. Васіль Уладзіміравіч на хвілінку задумаўся, потым паўтарыў маё прозвішча, заўважыўшы: "У Вас, пэўна, вельмі старажытнае беларускае прозвішча…".

Потым я суправаджаў пісьменніка на сустрэчах з немцамі, дыскутаваў з ім наконт падзей на Беларусі, лёсу беларускай мовы і г.д. Паведаміў яму, між іншым, што выпадкова знайшоў у бібліятэцы Свабоднага ўніверсітэту Заходняга Берліну беларускі аддзел са шматлікімі мінскімі і эміграцкімі матэрыяламі. З усяго прыблізнага спісу гэтых выданняў Васіль Уладзіміравіч найбольш зацікавіўся Новым запаветам на беларускай мове, выдадзеным ў Гельсінгфорсе ў 1931 годзе. Я сказаў яму, што вельмі люблю чытаць і слухаць Божае слова на роднай мове (у той час мала хто з нас бачыў ці карыстаўся рэлігійнымі кнігамі на беларускай мове). Васіль Уладзіміравіч пашкадаваў, што такія кнігі пакуль цяжка знайсці на Беларусі і заўважыў, што яму было б цікава пазнаёміцца са згаданым выданнем.

У канцы верасня 1988 года я спыніўся ў Мінску па дарозе ў Маскву і зайшоў да В.Быкава на кватэру. Ён цёпла сустрэў мяне, вельмі ўзрадаваўся копіі Новага запавету, які я па дамоўленасці прывёз яму. Мы зноў шмат што абмяркоўвалі, гаманілі пра напружаныя падзеі ў краіне, выкліканыя тагачаснай перабудовай, галоснасцю... На развітанне Васіль Уладзіміравіч падараваў мне дзьве свае кнігі – аповесць "Знак бяды" і раман "Кар'ер" з аўтографамі і пажаданнем шчасця ў сталіцы... Дзяржаўная сталіца тады была далёка, у Маскве… А сёння ж гэта сталіца ўжо ў поўным сэнсе знаходзіцца ў Мінску, на роднай зямлі. Пажаданні Васіля Уладзіміравіча наконт майго шчасця ў сталіцы, такім чынам, атрымоўваюць зусім іншы змест. Хто ведае, можа некалі так і здарыцца!

**Алесь Чайчыц**

## Быць сабою

Заставацца сабою – гэта значыць не рабіцца кімсьці чужым. Гэта зачыць выдзяляцца нечым сярод іншых людзей, адрозьнівацца ад усіх астатніх, бо ты - гэта ты, а ня нехта іншы. Кожны чалавек нечым адрозьніваецца ад астатніх. Людзі маюць розныя колеры скуры, валосаў і вачэй, розны рост і камплекцыю. Людзі вераць ці ня вераць у бога, галасуюць за розныя палітычныя партыі на выбарах, маюць розныя кулінарныя і музычныя густы, апранаюць розную вопратку.

Нацыянальная ідэнтычнасьць - натуральны складнік ідэнтычнасьці чалавека, яго пазыцыянаваньня ў сыстэме каардынатаў грамадзтва паводле яшчэ адной прыкметы. Асабліва гэта актуальна для вялікай шматнацыянальнай краіны як Расея, якая ёсьць домам для людзей з больш за 150 этнасаў - у тым ліку і для нас, расейскіх беларусаў.

Такім чынам, для мяне заставацца сабой - значыць у тым ліку заставацца беларусам.

Не сакрэт, што пераважная большасьць беларусаў у Расеі асымілююцца цягам першых пакаленьняў. Яскравы факт: з 1989 па 2002 г. колькасьць жыхароў Расеі, што ідэнтыфікавалі сябе ў якасьці беларусаў, упала на траціну, з 1,2 млн. да 808 тысячаў чалавек. Гэта пры тым, што не выпадае гаварыць пра істотную хвалю рэпатрыяцыі – наадварот, значна больш людзей за гэтыя гады эмігравалі зь Беларусі ў Расею і атрымалі расейскае грамадзянства[13].

Гэтак часта даводзіцца назіраць людзей, што пераехаўшы ў Маскву, ужо праз год пачынаюць заўзяць за "нашу" расейскую зборную па футболе, абмяркоўваць, як "у нас" праходзяць выбары ў Дзяржаўную Думу. Памятаю, як па тэлевізары паказвалі сустрэчу прадстаўнікоў моладзевага руху "НАШИ" з Уладзімірам Пуціным, і адна з актывістак прызналася, што зьяўляецца грамадзянкай Беларусі. Прыкра бачыць нават беларускамоўных людзей, якія пасьля пераезду ў Маскву і пры элемэнтарнай магчымасьці знайсьці ў Маскве беларускамоўных празь нейкі час ужо пачынаюць зьвяртацца да цябе па-расейску.

У сучасных умовах, калі дзякуючы камунікацыйным тэхналёгіям можна ці не зь любой кропкі плянэты слухаць беларускае радыё, чытаць беларускую прэсу і стасавацца зь беларусамі з усяго сьвету, гэта прыватны выбар кожнага чалавека, асымілявацца ці не. Ад некаторых знаёмых даводзілася чуць, што ў сучасным глябалізаваным сьвеце асымілявацца - гэта натуральна і непазьбежна. Маўляў, беларуская мова ня мае будучыні і мы ледзьве не апошняе пакаленьне, якое ёю валодае. Нацыянальныя ідэнтычнасьці нібыта пераплаўляюцца ў адну і не патрэбныя (ці нават шкодныя) ў аб’яднаным сьвеце.

Я сам, будучы чалавекам, напэўна, глябалізаваным у большай ступені, чым сярэднестатыстычны жыхар Расеі ці Беларусі, дазволю сабе не пагадзіцца з гэтым, хаця мой шлях да беларускасьці зьдзейсьніўся дзякуючы зьбегу даволі ўнікальных абставінаў. Народжаны ў шматнацыянальнай сям’і ў Маскве, за сваё жыцьцё я жыў у Беларусі на працягу ўсяго аднаго з паловай гадоў. Аднак, дзяцінства прайшло ў далёкім замежжы ў якасьці дзяцяці афіцыйнага прадстаўніка Беларусі, і гэта, напэўна, адыграла вырашальную ролю.

Больш за палову свайго дзяцінства я вучыўся зь людзьмі зь дзясяткаў розных краінаў, але таксама хадзіў у школку пры амбасадзе Расеі, дзе вучыўся разам зь дзецьмі расейскіх дыпляматаў. На гэтым фоне беларускасьць сама па сабе натуральна зьвярнула на сябе ўвагу як яскравая адметнасьць, якою ты пачынаеш цікавіцца. Паступова пачаліся

[13] Таксама ў перапісе насельніцтва ня ўлічваліся беларускія часовыя працоўныя мігранты і тыя, што яшчэ не атрымалі расейскі пашпарт: колькасьць такіх ацэньваецца ад трохсот тысячаў да паловы мільёна

пошукі шляхоў рэалізаваць тыя яе зярняткі, што былі закладзеныя ў свой час нядзельнай маскоўскай беларускай школкай, беларускімі казкамі і вершыкамі, якім бацька вучыў у дзяцінстве.

Звычайны беларус на маім месцы наадварот пачаў бы шукаць падабенства з расейцамі. Але быць падобным было нецікава, досыць падобным да тых маскоўскіх дыпляматычных дзяцей я быў і бяз гэтага - цікава, наадварот, чымсь адрозьнівацца ад іншых. І ў той самы момант на дапамогу прыйшлі сучасныя тэхналёгіі: сайт "Нашай Нівы" і “Беларуская Палічка”, беларускамоўныя чаты і форумы. Сваё валоданьне беларускай моваю я вывёў на сёньняшні ўзровень дзякуючы ў першую чаргу інтэрнэту.

Можна быць “як усе”, а можна заставацца сабой. Сапраўды, чым далей, тым больш на сьвеце будзе людзей, якія ня будуць асацыяваць сябе выключна з адным пэўным месцам, краінай, народам. У нейкай ступені я сам зьяўляюся такім чалавекам. Але нават жывучы далёка ад месца свайго нараджэньня, маючы грамадзянства некалькіх дзяржаваў, любы чалавек будзе мець родную мову, звычкі-традыцыі, мэнтальнасьць. Мабыць, таму больш трапным было б разважаць пра ідэнтычнасьць не нацыянальную, а ў першую чаргу культурную. У любым выпадку, беларускасьці сярод шматгалосься культураў было, ёсьць і будзе месца нароўне з усімі іншымі.

Хтосьці кажа, што глябалізацыя - гэта пераплаўленьне ўсіх моваў і народаў у адно і губленьне ідэнтычнасьці, а я скажу, што ў глябальным сьвеце індывідуальнасьць, наадварот, выходзіць на першы плян. Лепей не ймкнуцца быць падобным да кагосьці, а рабіць так, каб іншыя хацелі б быць падобнымі да цябе. Перастаючы быць унікальным, чалавек перастае быць сабою.

Любая адрознасьць - гэта патэнцыйная перавага. Калі ты ня маеш адметнасьці, што выцякае зь ідэнтычнасьці, табе няма чаго прад’явіць гэтаму сьвету. Тое, што не зьяўляецца ўнікальным, што падобнае да іншых – не нясе інавацыйнасьці, таму ня мае вартасьці. Гэта адносіцца як да ідэяў, але ў першую чаргу да іх носьбітаў і генэратараў – людзей, а таксама да створанага імі інтэлектуальна-культурнага асяродку, дзе ідэі нараджаюцца.

Агульнай і жыцьцёва неабходнай у сучасным сьвеце робіцца здольнасьць кантактаваць зь іншымі культурамі і ўспрымаць станоўчыя ідэі ад іх – але, на мой погляд, ніяк немагчыма казаць пра размыцьцё ідэнтычнасьці чалавека, у тым ліку нацыянальна-культурнай. Ніколі ня будзе такога, каб усе людзі думалі і паводзілі сябе аднолькава – а значыць, і нацыянальна-культурная ідэнтычнасьць ніколі ня будзе замененая на нешта іншае.

Расейцы шмат у чым зьяўляюцца нацыяй, пабудаванай на адмаўленьні людзей ад сваіх каранёў, на далучэньні малых народнасьцяў да вялікага расейскага этнасу. Можна па-рознаму ставіцца да гэтага, можна разглядаць гэта як “імпэрскую асыміляцыю” альбо як “зьліцьцё ручаёў у расейскім моры”, але факт ад гэтага застанецца фактам.

Часта даводзіцца бачыць сярод тых, хто ідэнтыфікуе сябе ў якасьці этнічнага расейца, асыміляваных мардзьвінаў і татараў, чувашаў і ўкраінцаў. Ты можаш бачыць на твары чалавека і ў ягоным прозьвішчы доўгую старажытную і разнастайную гісторыю, немцаў, башкіраў, мешчаракоў і эрзянаў – але ён будзе сябе лічыць спадкаемцам “русічаў”, і нават, мабыць, стаяць на агрэсіўных шавіністычных вялікарасейскіх пазыцыях. “Паскрабі расейца – знойдзеш татарына” – татарына, што выроксяя сваіх татарскіх каранёў дзеля расейскасьці. З амэрыканцамі, іншай нагэтулькі ж разнастайнай і поліэтнічный нацыяй, такога няма – складаецца ўражаньне, што большасьць зь іх дбае пра традыцыі сваіх продкаў і памятае, зь якой краіны тыя прыехалі, нават калі гэта было стагодзьдзі таму назад.

Нездарма сучасныя беларусы зь іх слаба выражанай нацыянальнай самасьвядомасьцю, здаецца, яўляюць сабой найлепшы матэрыял для асыміляцыі. За дзьвесьце гадоў расейскай імпэрыі насельніцтва былога Вялікага княства Літоўскага ледзь не “пераварылася” да таго стану, у якім сёньня знаходзяцца удмурты ці мардва. Амаль

бяссьледна асымяляваліся беларусы-перасяленцы ў Сыбір, цалкам перасталі існаваць як катэгорыя беларусы Смаленшчыны і Браншчыны.

У сучасным сьвеце асыміляваца ці не – гэта прыватны выбар чалавека. І асабіста я зрабіў выбар на карысьць таго, каб не асыміляваца, не адмаўляцца ад сваіх беларускіх каранёў і мець беларускасьць у якасьці сваёй нацыянальтна-культурнай ідэнтычнасьці. Я не хачу быць ані тым тыповым расейцам, што забыў свае карані, ані тым тыповым расейскім беларусам, што вырокся сваёй беларускасьці.

Для асабіста мяне быць і заставацца беларусам на фоне расейскай масы – гэта пэўны складнік ўнікальнасьці, адметнасьці, частка таго індывідуальнага, што я не хачу прыносіць у ахвяру супольнасьці. Хтосьці назаве гэта супрацьстаўленьнем сябе грамадзтву – а я назаву гэта, наадварот, знаходжаньнем і ўсьведамленьнем свайго месца ў ім, сярод гэтых 140 мільёнаў людзей розных нацыянальнасьцяў, моваў, рэлігіяў. Я не "русский", я - "россиянин".

З пазыцыяў беларуса па-іншаму гледзіцца ў тым ліку і на палітыку расейскай дзяржавы. Будучы самастойнай асобай, можна спрабаваць аб’ектыўна, з птушынай вышыні зірнуць на тое, што адбываецца ў краіне. Гэта дае здольнасьць больш строга ставіцца да дзеяньняў "слугаў народа", гэта мацуе здольнасьць самастойна ацэньваць працэсы – усё якасьці, неабходныя для грамадзяніна любой дэмакратычнай дзяржавы.

Беларускасьць – гэта ўсьведамленьне свайго месца ня толькі ў сучасных грамадзтве і сьвеце, але і ў часе, у гісторыі чалавецтва. Я – чалавек, які жыве на плянэце Зямля ў пачатку 21 стагодзьдзя. Перад мною людзі жылі тысячы гадоў, і я зьяўляюся нашчадкам гэтых людзей, зусім малую частку якіх я бачу ў выглядзе свайго генэалягічнага дрэва. Беларускасьць – гэта тая пупавіна, што праз гэтую моўна-культурную пераемнасьць злучае мяне з маімі продкамі і ўсёй гісторыяй чалавечай цывілізацыі.

Быць беларусам – гэта быць грамадзянінам, быць асобаю. Быць самастойнай і ў той самы момант арганічнай часткай бязьмежнага сучаснага сьвету і часткай вялікай гісторыі чалавечай расы. Гэта быць і заставацца самім сабою.

*Масква, сьнежань 2007 - студзень 2008*

## Штандар наш бел-чырвона-белы

Як нацыі, што перажыла цяжкія часы прыгнёту, беларусам уласьцівыя нацыянальныя сьціпласьць і комплекс непаўнавартасьці, якія адным не дазваляюць ганарыцца рэчамі, аб’ектыўна вартымі гонару, а іншым дазваляюць ганарыцца чужымі дасягненьнямі як сваімі, гэтаксама як і гіпэрбалізаваць свае. І ўсё ж, бяз страху быць абвінавачаным у другім, хочацца падзяліцца сваімі меркаваньнямі, эмоцыямі, выкліканымі аб’ектыўнай, зрэшты, рэччу. Ці паспрачаецца хто з тым, што ніводная іншая нацыя ў сьвеце ня мае нагэтулькі ж выразнага, яскравага, энэргетычнага сьцягу, як беларускі нацыянальны бел-чырвона-белы?

Сьцягі бываюць прыгожыя, сымэтрычныя, гарманічныя. Бываюць сьцягі са старажытнаю гісторыяй, сьцягі, за якія людзі ахвяравалі жыцьцём, сьцягі, якія натхнялі людзей на выбітныя подзьвігі, сьцягі, што ўсталёўваліся першапраходцамі на далёкіх выспах і горных вяршынях. Ёсьць сьцягі са старажытнымі легендамі пра паходжаньне, як дацкі Danneborg, што ў 1219 годзе сыйшоў зь неба да дацкіх войнаў, каб яны перамаглі ў бітве. Ёсьць сьцягі, якія зрабіліся сымбалем і брэндам, культавым атрыбутам як брытанскі Union Jack. У свой зорна-паласаты сьцяг мільёны амэрыканцаў ўкладаюць столькі гонару, любові і энэргіі, што палотнішча сталася ў ЗША сапраўднай сьвятыняй – куды больш, чым проста сымбалем дзяржавы і краіны.

Напэўна, ніводзін сьцяг не нясе сам па сабе гэткай выразнай унутранай эмацыйнасьці, як спрадвечны гістарычны сьцяг Беларусі, які адной сваёй яскравай выявай прыцягвае вочы.

Але, на маю думку, ніводзін сьцяг не нясе сам па сабе гэткай выразнай унутранай эмацыйнасьці, як спрадвечны гістарычны сьцяг Беларусі, які адной сваёй яскравай выявай прыцягвае вочы.

Белае поле, і чырвоная паласа працінае яе наскрозь.

Чырвоны гарачы агонь, што топіць белы халодны сьнег.

Мёртвы белы лёд – і чырвоная жывая, кіпучая кроў на ім.

Белы ціхі спакой - і гучны чырвоны крык, поўны болю, сілы, прагі волі.

Гэтая выключная энэргетыка кантрасту, сьцяг, які гучыць, сьцяг, які пячэ і апальвае. Пакажыце мне другі такі ж!

Кляўстрафабічная атмасфэра таталітарнага Менску ажыўляецца, як толькі гэтую душную “матрыцу” працінае бела-чырвона-белае палотнішча ў руках таго, хто асьмеліўся падняцца за сваю чалавечую годнасьць. Нацыянальны штандар над уваходам у сядзібу БНФ - як дзірка ў прасторы і часе, а дзьверы пад ім – бы партал у іншую рэальнасьць, у выспачку свабоды і надзеі пасярод апошняй эўрапейскай дыктатуры.

На мяжы містыкі – такое адчуваньне, быццам гэты сьцяг здольны адганяць зло. Здавалася б, чаго варта было Лукашэнку пакінуць гэты сьцяг у 1995 г., каб захаваць ляяльнасьць нямалай колькасьці людзей, не згубіўшы даверу і свайго традыцыйнага электарату? Насельніцтва Беларусі збольшага дзялілася і дзеліцца на прыхільнікаў бел-чырвона-белага сьцягу, і тых, каму, зрэшты, абыякава, пад якім сьцягам жыць. Але ж не: відаць, зь любым сьцягам гэта было б магчыма, толькі ня з гэтым. Любы сьцяг сьцярпеў бы пад сабою злачынствы, акрамя гэтага, і нейкім чуцьцём нават “лукашысты” ўсьведамілі гэта, і як быццам зьнішчылі гэтую сымбалічную перашкоду.

Супрацьстаяньне свабоды і дыктатуры ў Беларусі – гэта супрацьстаяньне і на сымбалічным узроўні. Чырвоны і зялёны – гэта негарманічныя колеры, чыё спалучэньне выклікае ў чалавека стрэс и дэпрэсію. Вялізнае крывава-чырвонае поле, што навісла над зялёнай паласой – увасабленьне нераўнапраўя аднаго адносна іншага, дамінацыі і дыктатуры. Само непрыгожае і безгустоўнае палотнічша ў якасьці дзяржаўнага сымбалю – гэта нібы зьдзек з усяе краіны, як нахабны выклік: “Якую яшчэ зьнявагу вы здольныя вытрымаць? Якую яшчэ гнюснасьць вы здольныя сьцярпець?”

За гады дыктатуры для нашага пакаленьня бел-чырвона-белы сьцяг зрабіўся сымбалем свабоды, сымбалем барацьбы за волю і прагрэс. Ён выпакутоўвае сваю пачэснасьць, набывае асацыяцыі, ад якіх пры кожным позірку на яго сэрца стукае хутчэй. За яго людзі церпяць зьбіцьці, штрафы, доўгія суткі арыштаў. Адно зьяўленьне гэтага сьцягу на вуліцы ўжо нясе вялікае сьвядомае і падсьвядомае пасланьне само па сабе – і таму, здавалася б, нявінны “незарэгістраваны” бел-чырвона-белы сьцяг зрабіўся асобнай, спэцыфічнай, сымбалічнай мэтай для рэпрэсіяў. А раз рэжым яго баіцца, значыць сьцяг сапраўды нясе яму небясьпеку – усяляе іррацыянальны страх у душонкі дзяржаўных халуёў, запраданцаў, жандармаў і шпегаў. Патыхае для іх жарам пекла і справядлівай адплатаю, якой не пазьбегнуць ніводнаму злачынцу, ня гледзячы на часовыя тытулы, пагоны і рахункі ў замежных банках.

Пакуль бел-чырвона-белы сьцяг над нашымі галовамі і ў нашых сэрцах – значыць, “нас нядоля не здалела”. Насуперак гісторыі, насуперак злодзеям ва ўладзе і расейскамоўным нігілістам-плявунам у інтэрнэце.

Магчыма, сапраўды Беларусь чакае асаблівы лёс, калі сымбаль яе - такі асаблівы сьцяг. Альбо гэта проста добры знак надзеі для ўсіх нас, каго ён яднае – і вельмі магчыма, што толькі ў нас, у пэўнай колькасьці беларусаў, бел-чырвона-белы штандар выклікае ўзьнёслыя пачуцьці. Але ці ня гэта галоўнае для нацыянальнага сьцягу - каб была нацыя, для якой ён быў бы каштоўным? Гэты беларускі сьцяг дазваляе аддзяліць сутнасьць ад формы, ён яднае тых, хто зьяўляецца беларусам паводле стану душы і сьвядомасьці, а не

паводле прыналежнасьці да адміністрыцыйнага бюракратычнага апарату, што мяшкае ў Менску і выдае пашпарты з прасавецкім гербам.

Сьцяг наш мае сваю нацыю, хай складаецца яна не з усіх тых, хто сябе заве беларусам. Нацыю годную, нацыю, што мае будучыню; нацыю-матыля, пакуль што спавітую ў кокане. І нацыя наша мае ганарыцца сымбалем нагэтулькі моцным, шляхотным і дзвонкім – нашым Сьцягам, апетым у песьнях. Сьцягам, які натхняе, пад якім хочацца жыць і змагацца - штандарам Бел-чырвона-белым.

(“з малочнымі рэкамі і кісельнымі берагамі”) магчымае вырашэнне адвечных “беларускіх” праблем, сярод якіх ці не цэнтральнае месца займае праблема нацыянальнай самаідэнтыфікацыі, праблема пошуку “беларускага ў беларусе”, і найперш моўная праблема” [14, с. 14].

Лірычны герой паэмы Алеся Бадака “Эміграцыя” ад пачатку асуджаны на існаванне ў каардынатах “знікомасці”. Ці не таму тон развагаў пра духоўную эміграцыю пакідае ўражанне звычайнасці гэтага стану. “Эмігрант” тут — не ахвяра абставінаў альбо чужой волі; “душой у эміграцыі” — гэта *волевыяўленне*, своеасаблівая дэкларацыя залежнасці ад роднае шчаснае Долі:

Я не хацеў вяртацца больш назад,
Да лёсам неацэненае працы,
Да векам напрыдуманых пасад.
Хто я цяпер? Звычайны эмігрант —
Не плоццю, а душой у эміграцыі.

[4, с. 38]

А вось у паэме сп. Бадака “Ра” актуалізуецца адвечна-новая для беларускай культуратворчасці міфалагема *вяртання* да Айчыны, ад якое мы нібыта ніколі й не адрываліся, але якая аказваецца няўлоўнай для цэлых пакаленняў мастакоў:

Што бачыў я?
Два вечныя шляхі
І паміж імі — гулкае бяздонне.
Нябесным ценем нашае Сягоння
Над ім рабіла доўгія кругі.

[4, с. 74]

Такім чынам, траекторыя “эміграцыйных” блуканняў (якая вызначае каардынаты сённяшняга быцця не толькі лірычнага героя паэм А. Бадака) “канцавым прыпынкам” мае “гулкае бяздонне”.

“Неасімвалісцкая” (па тыпе стасункаў з рэчаіснасцю) тапаграфія паэм сп. Бадака робіць бессэнсоўнымі кожныя намаганні канкрэтызаваць месцазнаходжанне “*Беларусі існай”*. У сваю чаргу, Леанід Дранько-Майсюк у паэме “Ірландыя” акрэслівае своеасаблівыя… “межы межаў”, па-за якімі *шукаць “Беларусь беларускую”* дакладна не варта: “Расія клікала, — я не хацеў туды, // Прыеліся імперскія прысмакі; // Не правакуючы нервовае нуды, // Маўчала Польшча — малайцы, палякі”.

Нават калі б сённяшнія беларускія пісьменнікі дамовіліся ствараць найноўшую нацыянальную літаратуру (урэчаўляць “знікомую” сутнасць яе) *нягледзячы ні што і ні кога не зважаючы*, — *не азірацца*, бадай, яны б не змаглі.

Так, ЛеГАЛ, упікаючы маладую паэтку Насту Кудасаву (чый першы паэтычны зборнік “Лісьце маіх рук” выйшаў у 2006 годзе) у безразважнай і апантанай захопленасці “непадробным талентам выдатнай расійскай паэткі М. Цвятаевай”, фармулюе агульны прысуд паэтам — сучаснікам-суайчыннікам: “Чамусьці многія з беларускіх паэтаў захопліваюцца (ці, як колісь пазначаў цяперашні *віленскі* паэт А. Мінкін, “*наследуюць*”), а прасцей скажам падпадаюць пад уплыў рускай класікі: Ясеніна, Маякоўскага, Ахматавай, Пастэрнака, Мандэльштама, Рубцова, Бродскага і г.д. Ды рэдка хто “наследуе” беларускую нацыянальную класіку (за выняткам такіх імён як Багдановіч і Разанаў). <…> Пад Купалу (да 1929 года) падрабіцца ўвогуле немагчыма, паколькі гэта **натуральны** нацыянальны талент, а Прыроду, як вядома, ніякай штучнасцю і версіфікацыйнымі вымогамі не падменіш…” [9]. “Рэха паэзіі “сярэбранага веку”, найперш, Марыны Цвятаевай”, “сугучнасць матываў, вобразаў, ладу мыслення, самаасэнсавання” чуецца і іншаму крытыку — Ладзе Алейнік — у зборніку прадстаўніцы “сярэдзіннага” паэтычнага пакалення Людмілы Рублеўскай “Шыпшына для Пані”(2007) [1].

Відавочна, не дадае аптымізму тым, хто імкнецца вярнуць вобразу-фантому *Беларусі* рэчыўнасць, і паленіка вакол “рускамоўнай/рускай” літаратуры Беларусі. Доктар

філалагічных навук, прафесар Анатоль Андрэеў, стаўшыся аўтарам шэрагу раманаў і аповесцяў — заняўшы месца ў шыхтах “літаратурных практыкаў”, застаўся, між тым, і тэарэтыкам. У сучаснай беларускай літаратурнай прасторы рускамоўныя пісьменнікі ўтваралі адносна нешматлікую “суполку”. Сп. Андрэеў даводзіць, што акрамя “рускамоўных пісьменнікаў Беларусі” ёсць яшчэ і “рускія пісьменнікі Беларусі” (гл., напрыклад: [2]). Строга кажучы, ні ў колькасных, ні ў якасных адносінах згаданая “суполка” ад падзелу на “рускамоўных” і “рускіх” не выйграла. Аднак адмысловая “аптычная ілюзія” здолела ўзмацніць агульнае пачуццё трывогі ў “беларускіх літаратараў” Беларусі, якім падалося, што літаратары “рускія/рускамоўныя” памнажаюцца ўжо ў геаметрычнай прагрэсіі. Сілы і натхненне, якія Леанід Галубовіч мог бы выдаткаваць на стварэнне арыгінальнага літпрадукту (хай сабе і “крытычнага”, як у апошнія дзесяць гадоў), ЛеГАЛ мусіць ахвяраваць на маніфестацыю відавочнага і… рэвізію чужых набыткаў, па сутнасці, ***на азіранне***: “…І як вы, спадар Андрэеў, не назавіцеся — беларускім рускамоўным літаратарам ці рускім літаратарам Беларусі, — вы ўсё адно будзеце ў гэтай дзяржаве і ў гэтага чытача *другасным* літаратарам. Не таму, што вы пішаце з мастацкага погляду горш ці лепш, і нават не таму, што вы пішаце на тэму беларушчыны, Браншчыны ці славянафільшчыны, а ўсяго толькі таму, што ў **Беларусі** вы пішаце *па-руску*. Прырода сама рэгулюе працэс чалавечага, у тым ліку і нацыянальнага развіцця. Назавіце вы мне беларускіх літаратараў, што жылі тут і пісалі па-руску, якія сталі знакавымі ў нашай літаратуры, а тым больш па-за межамі Беларусі, хай сабе толькі ў Расіі? Хіба адно тых, хто ўразумеў падобны вырак і пераехаў на пастаяннае жыхарства ў краіну абранай ім мовы творчасці, ды і тое — гэта адзінкі, асабіста я, апроч таленавітага паэта з Прапойска Ігара Шклярэўскага, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі РФ, назваць не магу…” [10].

Сённяшнія *беларускія* пісьменнікі, так ці інакш заангажаваныя ў ідэалагічнай калатнечы, у бок усходніх межаў паглядаюць, мякка кажучы, раздражнёна-насцярожана — таму што *межы* гэтыя пачынаюць замяшчаць сабою ўласна *прастору* — “сціскаецца прастора, // як сіло” (Алесь Разанаў). Згаданая насцярожанасць, зрэшты, зараз выяўляецца найчасцей у формах не ўласна мастацкіх (асобныя літаратурна-крытычныя праекты, эсэ, публікацыі дзённікаў і мемуараў і да таго падобная non fiction прадукцыя). У разгар другой “пяцігодкі” трэцяга тысячагоддзя амаль не здараецца рэцыдываў “сац-арту”, што яшчэ колькі гадоў таму змушалі нервавацца пісьменнікаў традыцыйнай эстэтычнай арыентацыі (згадайма хоць бы верш “Мы” Юрася Пацюпы: “Адкуль беларусы? // Ад рускіх, вядома. // Мы з братняю Руссю // ў абдымку ідзем. <…> А Горкі знайшоў нам // да шчасця дарогу, // а Пушкіна змалку // Купала чытаў”). Хіба што Альгерд Бахарэвіч, у пакаленні трыццацігадовых — адзін з самых цікавых празаікаў (а можа, і самы цікавы — бо адзіны, няма з кім параўноўваць паводле інтэнсіўнасці з’яўлення новых твораў (кніг), цэльнасці мастацкага светапогляду і арыгінальнасці манеры пісьма), вучыц(ь)ца Радзіму любіць з дапамогай настальгіі і аналогій:

“Таварыш Грышук лаяўся па мацеры, калі падлога пад ягонымі тапачкамі выбухала загадкавым, аднак адназначна непрыстойным воклічам: “Жыд ведае Русь!”. <…> дом заміраў, на кухнях выключалася сьвятло, жыльцы пачуваліся, як пад акупацыяй. І толькі калі апошні нашчадак паліцаяў садзіўся ў трамвай, зноў запальваліся экраны тэлевізараў, вулічныя ліхтары й сонцы ў душах; людзі, гнаныя нейкім шалам, шукалі ў трох тэлевізійных хваінах Леаніда Якубовіча — мудрыя вусы супакойвалі й двалі надзею” [5, с. 30].

Заўвага аднаго мастацкага персанажа — “…Беларусь знаходзіцца між Захадам і Усходам (але на Захадзе)…” [12, с. 168] — надзвычай красамоўна “адгукаецца” ў адным з сегментаў рэальнага літпрацэсу. Цягам апошніх гадоў з’явіліся ў перакладзе беларускую мову кнігі сучасных польскіх, нямецкіх, украінскіх, чэшскіх, ізраільскіх пісьменнікаў (пераважная большасць іх пабачыла свет дзякуючы прыватнаму выдавецтву І. Логвінава), а вось беларускіх перакладаў сучасных расійскіх літаратараў, тым больш выдадзеных

асобнымі кнігамі, не было, бадай, увогуле. Калі на *свой Усход* удзельнікі беларускага літпрацэсу нервова азіраюцца, дык на *свой Захад* яны паглядаюць з несумненна большай ветласцю.

“Кругавую абарону” беларускія літаратары — і “тэарэтыкі”, і “практыкі” — будуць змушаныя трымаць і ў бліжэйшай, і ў доўгатэрміновай перспектыве. Неабходнасць яе не такая ўжо надуманая — мяркуючы, напрыклад, па расійскім федэральным кампаненце дзяржаўнага стандарту агульнай адукацыі і прыкладных праграмах па рускай літаратуры: шукайце раздзел “Русская проза второй половины XX века” — і знойдзеце там “В.В. Быкова” [гл.: 13].

З другога боку, цягам апошніх двух гадоў стасункі беларускіх і расійскіх літаратараў (пераважна маладых і/ці “авангардыстых”) маюць плёнам як цікавыя *няпафасныя* праекты кшталту фестывалю “Парадак слоў”; здараюцца, аднак, і мерапрыемствы *пафасныя* — “грандыёзныя святы” (па вызначэнні А. Крэйдзіча, старшыні Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ) накшталт Фестывалю рускай паэзіі ў Беларусі (праходзіў на Брэстчыне ў маі 2007-га)…

Іначай кажучы, канчатковае размеркаванне роляў “заклятых сяброў” і “лепшых ворагаў” найноўшай беларускай літаратуры не можа адбыцца тут і зараз. На думку Міхася Тычыны, “рысы пераходнасці ўласцівы ў той ці іншай ступені ўсім мастацкім творам, апублікаваным у апошнія дзесяцігоддзі” [14, с. 78]. Тое, што для іншых нацыянальных літаратур ёсць экстрэмальнымі ўмовамі развіцця, “зломам парадыгмы”, для беларускага прыгожага пісьменства — “натуральны асяродак бытавання”. І ў каго ў такім выпадку шанцы перажыць “пераходны перыяд” большыя, чым у таго, кім апякуецца сам Дух сярэдзіны?!

---


1. Алейнік, Л. Смак шыпшыны / Л. Алейнік // Літаратура і мастацтва. — 2008. — 1 лютага. — С. 6.

2. Андрэеў, А. Руская літаратура Беларусі / А. Андрэеў // Літаратура і мастацтва. — 2007. — 23 лістапада. — С. 14.

3. Афанасьеў, І. Там, дзе пачынаецца вечнасць / І. Афанасьеў / Анталёгія сучаснага беларускага мысьленьня. — СПб.: Невский Простор, 2003. — С. 365-381.

4. Бадак, А. Маланкавы посах: Кніга лірыкі / А. Бадак. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2004. — 133 с.

5. Бахарэвіч, А. Праклятыя госьці сталіцы / Альгерд Бахарэвіч. — Мінск : І.П. Логвінаў, 2008. — 228 с.

6. Васючэнка, П. Адлюстраванні першатвора: Літаратура ў філалагемах і пятрогліфах / П. Васючэнка. — Мінск: Логвінаў, 2004. — 144 с.

7. Галубовіч, Л. Зацемкі зь левай кішэні / Л. Галубовіч. — Мінск: БГАКЦ, 1998. — 220 с.

8. Купала, Янка. Драматычныя творы / Уклад. А.А. Сляпцовай; Паслясл. В.А. Каваленкі; Мал. В.П. Шаранговіча / Янка Купала. — Мінск.: Маст. літ., 1989. — 494 с.

9. ЛеГАЛ. Кулуары // Літаратура і мастацтва. — 2007. — 2 лістапада. — С. 16.

10. ЛеГАЛ. Кулуары // Літаратура і мастацтва. — 2008. — 1 лютага. — С. 16.

11. Мартысевіч, М. Бег, альбо Нацыя эмігрантаў / М. Мартысевіч // Паміж. — 2003. — № 3. — С. 18-27.

12. Пятровіч, Б. Шчасьце быць... (Трыпціх, аповесьці, апавяданьні, мроі) / Б. Пятровіч. — Мінск: УП “Тэхнапрынт”, 2004. — 576 с.

13. Сборник нормативных документов. Русский язык и Литература в образовательных учреждениях с родным (нерусским) языком обучения / сост. Э.Д. Днепров, А.Г. Аркадьев. — Москва: Дрофа, 2007. — 253, [3] с.

14. Тычына, М.А. Феномен пераходнага перыяду: праблемы тыпалогіі / М.А. Тычына // Літаратура пераходнага перыяду : тэарэтычныя асновы гісторыка-літаратурнага працэсу / М.А. Тычына [і інш.]; навук. рэд. М.А. Тычына. — Мінск: Беларус. навука, 2007. — С. 6-100.

**Марина Агранович**

## О поэте, пророке, человеке (субъективные заметки)

У меня на столе «Молодая Беларусь» - книга произведений Янки Купалы, воспоминаний о нем современников, включающая ряд архивных материалов.

Для меня особенная ценность книги в том, что стихи Янки Купалы публикуются не только в переводе на русский язык, но и – параллельно – в оригинале - на белорусском. И, разумеется, как бы ни был хорош перевод, он только репродукция, не подлинник. Я не знаю белорусского языка, но, как «лицо славянской национальности», явственно ощущаю его завораживающую мягкость. Перефразируя пролетарского поэта, я белорусский выучила бы еще и за то, что на нем говорил Купала.

После прочтения «Молодой Беларуси» выяснилось, что мои прежние представления о творчестве Янки Купалы не просто поверхностны (об этом-то я догадывалась) – они настолько ущербны, что лучше бы их и вовсе не было. Мне еще и теперь только приоткрылся глубокий и тонкий лирик, романтик и пророк, но прежде всего – СЫН ОТЕЧЕСТВА – БЕЛАРУСИ.

В его стихотворении «Поэту-белорусу» предельно четко и в то же время эмоционально насыщенно развернута программа творчества поэта-гражданина:

Борись за песенное слово,
Не жди ты платы от людей,
Поэт – слуга слуги простого,
Поэт и царь любых царей.

Сам Янка Купала выполнению этой программы посвятил свою недлинную жизнь. Его стихи и поэмы подтверждают пророчество поэта:

« А песня будет жить и жить».

Это случается не так уж часто: любовь сыновняя оказалась крепче и глубже материнской. Но эта любовь не коленопреклоненная, а взыскующая. Странная аллюзия, но, мне кажется, уместная: Гамлет говорит Гертруде, своей матери: « От жалости я должен быть жестоким». Купала и восхищается своей родиной, и страдает вместе с ней («Мне больно, когда тебе больно, Россия», - сказал поэт русский), а главное – побуждает ее к действию, борьбе за свободу, сопротивлению любому внешнему или внутреннему давлению, даже самому мягкому. Я бы сказала, что он и любит Беларусь, и «болеет» ею.

Янка Купала – это образ Беларуси, но Беларуси *будущей*.

Много лет я полагала, что Купала принадлежит старому и недоброму прошлому. Сегодня я ощущаю его своим современником. Но мои ощущения, похоже меня обманывают: он человек *Будущего*.

Итак, спасибо за книгу.

---

Янка Купала. Молодая Беларусь. Стихотворения. Поэмы. Публицистика. М.: “Советский писатель”, 2008. 343 с. Тираж 5000.

## АРХІЎ. ЭПІСТАЛЯРЫЯ

### Матэрыялы да біяграфіі Івана Луцкевіча

[Пасведчанне аб нараджэнні]

Метрическая выписка из крестно-приводной книги Шавельского римско-католического костела №181 Тысяча 881 года июня двадцать восьмого Викарным ксендзом Иово окрещен младенец по имени Яна-Германа со всеми обрядами таинств дворян – штабс-капитана Яна Болеслава и Зофии, урожденной Лычковской, Луцкевичей, законных супругов, сын, родившийся Тысяча восемьсот восемьдесят первого года мая двадцать восьмого в городе Шавли. Воспреемниками были дворяне инженер Маркан Прухницкий с Казимирою Луцкевичевою, вдовою. Присутствовали Михаил Гулевич с Вероникою Павла Жулевича, супругою. Настоящая метрическая выпись взята с книги свидетельств 1891 года, мая 23 дня. Архивариус титулярный советник И.Прелер.

По Указу Его Императорского Величества Тельшевская римско-католическая духовная консистория надлежащею подписью и приложением казённой печати удостоверяет, что настоящая метрическая выписка о крещении дворянина Яна-Германа Иванова-Болеславова Луцкевича находится по книге консистории пронумерованной и имеет законную лостоверность, и что книга, из которой сия выписка сделана, Комиссией по Высочайшему повелению ревизовавшей актовые книги, ревизована не была, потому что Комиссия эта действия свои окончила в 1834 году.

Гербовый сбор уплачен. Г/ород/ Ковно, 1891 года, мая 24 дня. Визит/атор/ пр/елат/ Боровский и/сполняющий/ д/олжность/ секретаря (неразб.)

*Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў (ЦДГА) у С.-Пецярбургу. Ф.17, воп.3, адз.зах. 39393, а.22*

## Матэрыялы да біяграфіі Уладзіміра Дубоўкі

**Академический лист**
студента Высшего Литературно-художественного им. В. Я. Брюсова Института [ВЛХИ]
Дубовко Владимира Николаевича

Результаты вступительных испытаний.

1. Художественный коллоквиум.
2. Политграмота.
3. Русская литература.
4. Математика и естествознание.

**В учебную часть ВЛХИ им. В. Я. Брюсова**
**студента III курса В. И. Дубовки**

Заявление.

Прошу допустить меня к государственным экзаменам. Мною сданы следующие зачеты: 1. Исторический материализм – удовлетворительно. 2. История античной литературы – весьма удовлетворительно. 3. Введение в историю русской литературы – весьма удовлетворительно. 4. Русский язык в связи с наукой о языке – удовлетворительно. История поэтики – удовлетворительно. 6. Основы стиховедения – удовлетворительно. 7. Логика и методология – удовлетворительно. 8. Немецкая литература – весьма удовлетворительно. 9. Французская литература – весьма удовлетворительно. 10. Психология – зачет. 11. Латинский [язык] – удовлетворительно. 12. Английская литература - удовлетворительно (за все курсы). 13. Капитализм и пролетарская революция – зачет. 14. Физика – зачет. 15. Химия – зачет. 16. Биология – зачет. 17. История античной литературы – весьма удовлетворительно. 18. История немецкой литературы (II курс) – зачет. 19. История французской литературы – зачет. 20. Психология языка и творчества – зачет. 21. Поэтический синтаксис – зачет. 22. Семинар по Достоевскому – зачет. 23. Стихология – весьма удовлетворительно. 24. Классический стих – весьма удовлетворительно (А. Ефрон). 25. Классика – зачет. 26. Семинар по Лермонтову – зачет. 27. Драматургия – зачет. 28. Семинар по французской литературе – зачет. 29. Класс клубной работы – зачет. 30. Семинар по немецкой литературе – подготовлен доклад.

5/VII/[19]24 г.
Рэзалюцыя на заяве: Допустить. 9.VII.1924.

*Центральный государственный архив литературы и искуства РФ. Ф. 596. Оп. 1, адз. 314, а. 12. Аўтограф.*

***

**Прадстаўніку Народнага Камісарыяту Асьветы**
**Беларускае ССР у РСФСР М.Тлойцы**

Студэнта Вышэйшага Літаратурна-Мастацкага
Інстытуту Уладзімера Дубоўкі

Заява.

Дадаючы пры гэтым анкету, прашу Вас, паважаны таварыш, аб залічэнні мяне на стыпеньдзію НКА БССР з 1-га жніўня 1923 г.

Дзеля таго, што праца мая ў культурна-асьветных установах адбірае шмат часу, пры максімальнай нагрузцы па Інстытуту, на апошні курс якога я пераходжу ў гэты час, - неабходна патрабуецца, каб я часова – хоць на адзін год пакінуў агульную працу, цалкам аддаўшы сябе навуковай.

Мінімум, які я прашу, выяўляецца у 50 руб.зол. на месяц, якія дапамогуць мне браць прыватныя лекцыі па замежных мовах і задаволяць жыцьцёвыя запатрабаваньні.

25 чэрвеня 1923 г.

Подпіс: У.Дубоўка

Рэзалюцыя на заяве:
С.Н.К. Б.С.С.Р.
Препятствий к освобождению т.Дубовко с моей стороны не встречается, но необходимо дать ему персональную стипендию, при чем просимую им сумму можно уменьшить на 20%.
Представитель Н.К.П. Б.С.С.Р.
[Подпіс]

*Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь(НАРБ). Аўтограф.*
*Ф. 42, воп. 1, спр. 534, а.75*

***

**АНКЕТА**
**для залічэньня на стыпеньдзію Народнага Камасарыяту Асьветы**
**Беларускае Соцыялістычнае Савецкае Рэспублікі.**

| Чаргов. №№ Запытаньні | Адказы |
|---|---|
| 1. Прозьвішча і імя | Дубоўка Уладзімер Мікалаяў |
| 2. Калі арадзіўся | 2-га ліпеня 1900 г. |
| 3. Адкуль паходзіць | Віленшчына, Вялейскі пав., Манькаўская вол., вёска Агароднікі |

| | |
|---|---|
| 4. Якога пахаджэньня | Сын селяніна, які ўладаў 6 ¾ дз. зямлі |
| 5. Якую атрымаў адукацыю | Скончыў у 1918 годзе Нова-Вялейскую Настаўніцкую сэмінарыю, ў гор. Нэўлі [*Невелі*] на Вітабшчыне |
| 6. Дзе вучыцца ў гэты час | У Вышэйшым Літаратурна-Мастацкім Інстытуту, на мастацкім аддзяленьні |
| 7. Кім камандыраваны | Паўнамоцным Прадстаўніцтвам БССР ў РСФСР, ад імя НКА БССР ў 1921 г. |
| 8. Да якой спэцыяльнасьці рыхтуецца | Мастак беларускага слова /художник белорусского слова/ і гісторыя беларускага прыгожага пісьменства, разам з тэорыяй вершалёгіі |
| 9. Якой мяйсцовай мовай Беларусі ўладае | Усебакова ўладаю беларускай мовай |
| 10. Якія навуковыя і інш. творы мае | Зборнік вершаў "Строма" – 1923 г. Рыхтую да друку другі зборнік. Артыкул – "Мова у зьвязку з разьвіцьцём прыгожага пісьменства" - /чытаў у Беларускай Асоцыяцыі П.С.-Г.А. і ў Беларускім клюбе ў Маскве/ |
| 11. Які удзел браў у беларускім друку | Прыгожае пісьменства. – Савецкая Беларусь – 1921 і 1923 г.г., замежныя выданьні – Маладое Жыцьцё, Наша Жыцьцё, запрошаны да супрацоўніцтва ў Менскай часопісі моладзі "Маладняк" – у 1923 г. |
| 12. Які удзел браў у беларускай культурнай працы | З жніўня да верасьню 1921 г. пад загадам НКА БССР. З верасьню 1921 да студзеня 1922 г. – пантровы школьны інструктар НКА РСФСР па Беларускаму бюро - /пры Галоўсацвыху/, з лютага да ліпеня 1922 г. сэкратар Прадстаўніцтва НКА БССР ў РСФСР, з ліпеня да сьнежня 1922 г. сэкратар Беларускага Цантровага Бюро НКА РСФСР, з сьнежню 1922 г. да бягучага часу - /чэрвень 1923 г./ - мэтодысты таго самага Бюро. Адначасова – сября кіраўніцтва Беларускага Клюбу ў Маскве ў Адпаведны рэдактар беларускіх перакладаў пры ЦВК СССР - / з лютага 1923 г. да гэтага часу. У 1922 г. – сябра рэдакцыйнай кальлегіі беларускай часопісі "Маладая Беларусь". |
| 13. Удзел у агульна-савецкай працы | З лютага да лістападу 1918 г. – рабочы Сл.Шляху Аляксандраўскай чыгункі - /I участок, I-й околодок, артель Савко/, з лістападу 18 да ліпеня 1920 працаўнік асьветы Навасільскага павету на Тульшчыне/ |
| 14. Удзел у Чырвонай Арміі | З ліпеня 20 г. да жніўня 21 г. – у частках зьвязку Чырв.Арміі займаў паступова пасады – тэлеграфнага рабочага, перапісчыка, старэйшага перапісчыка й дзелавода |

| | |
|---|---|
| 15. Адносіны да прафсаюзу | Сябра саюзу працаўнікоў асьветы з 1918 г. |
| 16. Партыйнасьць | У сакавіку 1922 г. увайшоў у К.С.М. /ячэйка В.Л.-М. Інстытуту/ |
| 17. Якую дапамогу просіць | Грашовую, на адзін год - / пераходжу ў гэтым годзе на апошні курс/. Як пражытковы мінімум – 50 руб. зол. на месяц па курсу. |
| 18. Якія пасьведчаньні й паперы пры гэтым дадаюцца | |
| 19. Хто заручаецца | |
| 20. Увагі | |

Аселасьць – “Москва, Малая Грузинская, д.34, кв.13”
“25” чэрвеня 1923 г.

Подпіс

*НАРБ.Ф.42, воп. 1, спр. 534, а. 76-76 адв. Аўтограф.*

**Сталаму Прадстаўніку БССР у Маскве**
**Тав. А.І.Хацкевічу**
Копія
Старшыні СНК БССР тав. Я.А.Адамовічу

Па пытаньню аб наладжаньні ў Маскве вечароў, прысьвечаных беларускай культуры

**Дакладная запіска**

Расійская Акадэмія Мастацкіх Навук, а ў асобку – аддзел па вывучэнню нацыянальных культур Саюзу ССР – час ад часу наладжвае ў сваіх памяшканьнях для членаў Акадэміі, прадстаўнікоў спецыяльных катэдраў Маскоўскіх Вышэйшых Школ, грамадскіх дзеячоў і прадстаўнікоў друку адмысловыя вечары, прысьвечаныя культуры паасобных народаў Саюзу ССР. Да гэтага часу, напрыклад, адбыліся вечары, прысьвечаныя Крыму і Азэйрбаджану.

У сувязі з апошнімі падзеямі ў Заходняй Беларусі Акадэмія (Камісія на чале з праф. Львовам-Рагачэўскім) лічыць вельмі мэтазгодным у бліжэйшыя дні наладзіць вечар, прысьвечаны беларускай культуры. Прыблізны тэрмін, на які забранявана і вялікая зала Акадэміі – 11 лютага г.г., але, калі будзе вымагацца акалічнасьцямі, можа быць прызначаны іншы дзень.

Не падаючы сваіх меркаваньняў адносна мэтазгоднасьці і пажаданасьці наладжання такога вечара менавіта ў гэтыя дні, перадаём Вам абагульненні тых гутарак, якія адбыліся ўчора на нарадзе ў Акадэміі, у якой прымалі ўдзел, па ўпаўнаважанью Сталага Прадстаўніцтва, ніжэйпадпісаныя.

I. ПЛЯН ВЕЧАРУ
1. Агульны даклад, кароткі, палітычнага кірунку
2. Даклад аб літаратуры
3. Даклад аб выяўленчых мастацтвах і архітэктуры
4. Даклад аб музыцы
5. Выступленьні старэйшых і малодшых беларускіх паэтаў (у невялікім ліку з чыткай некаторых уласных твораў)
6. Дэманстраваньне народных музычных інструмэнтаў, песень і скокаў
7. Па магчымасьці – дэманстраваньне камэрнай беларускай музыкі (паасобныя нумары).

II. ВЫКАНАЎЦЫ І СРОДКІ
1. Акадэмія дае памяшканьне і бярэ на сябе запросіны дзеячоў навукі і мастацтваў на гэты вечар і шырокую прапаганду яго.
2. Беларуская Прадстаўніцтва прымае на сябе запросіны ўдзельнікаў вечару.

III. ТЭРМІН ДЛЯ НАЛАДЖАНЬНЯ ВЕЧАРУ
Акадэмія мяркуе і лічыць пажаданым наладзіць вечар у хуткім часе, запраектаваўшы 11 лютага 1927 г.

Падаючы гэтыя зьвесткі, падаём свае меркаваньні адносна ажыцьцяўленьня іх.

1. Палітычны даклад (уступны) зробіць хто-небудзь з прадстаўнікоў Ураду БССР, пажадана, каб зрабіў Сталы Прадстаўнік (як звычайна робіцца ў такіх выпадках у Маскве).
2. Даклад аб літаратуры даручыць тав.Жылуновічу, як чалавеку нэйтральнаму ў літаратурных дыскусыях.

3. Даклад аб выяўленчых мастацтвах трэба даручыць проф. Шчакаціхіну, пажадана з дэмонстраваньнем дыапозытываў.

4. Даклад аб музыцы пажадана было-б пачуць з вуснаў вядомага композытара і проф. М.М.Іпалітава-Іванова, але ён хворы, можа бываць на дакладах, але ня можа ў гэты час рабіць іх. Дзеля гэтага прыдзецца запрасіць з Менску проф. Дрэйзіна з Музычнага тэхнікуму.

5. З поэтаў варта было-б запрасіць Янку Купалу, Якуба Коласа, Зьмітрака Бядулю, Уладзімера Жылку і тав. Кудзельку-Чарота.

6. З музычных інструмэнтаў добра было-б прывезьці такія: а) лерніка, б) цымбалістага (зь вёскі, а не з тэатру), в) дудара, г) падвойныя дудкі з Калінішчыны (надзвычайна цікавы інструмэнт, тут не вядомы, паходжаньне якога ўзыходзіць аж да старажытнай Грэцыі), і д) па магчымасьці – жалейшчыка ці Палескую дуду (звычайная дуда, але адзін канец устаўляецца ў ваду).

Адносна песень – хор прывазьці немагчыма, маскоўскі слабы, дзеля гэтага варта запрасіць артыстку Беларускага Тэатру Полло, вядомую выканаўцу прымітываў (негарманізаваных народных песень), а таксама маскоўскіх артыстаў Вініцкую і Доліво-Соботніцкага. Да Вашага ведаму – маскоўскі аркестр старажытных інструмэнтаў пад кіраўніцтвам Любімава таксама выконвае некаторыя беларускія мэлёдыі.

7. З камэрных і народных скокаў – пажаданы прыезд квінтэту музычнага тэхнікуму, які выканае творы Аладава і новыя творы М.Равенскага, а таксама балету пад кіраўніцтвам Шчарбініна.

8. На вечары можна было-б раздаць некаторым вучоным зборнік артыкулаў аб Беларусі, які ў гэты час друкуецца ў Менску.

Падобны вечар, пасьля Акадэміі, можна было-б наладзіць у другі раз для агульнай публікі ў памяшканьні Дому Саюзаў ці Консэрваторыі. Калі ў друку зьявяцца добрыя ацэнкі вечару ў Акадэміі (а ёсьць падставы спадзявацца, што яны былі-б), посьпех вечару быў-бы забясьпечаны.

Каб добра падрыхтавацца і выклікаць сілы, не пашкодзіла-б адкласьці вызначаны дзень на тыдні 2. У кожным разе вызначыць яго на 15 ці 16-ае лютага.

Па прыблізнаму рахунку на вечар будзе патрабавацца 1500-2000 рублёў.

Зважаючы на тое, што да гэтага часу ў Маскве не было ніводнага вечару, задуманага ў такім аб'ёме, грошы гэтыя не зьяўляюцца вялікімі.

Проф. Б.М.Сакалоў, Дырэктар Музэю Народазнаўства і член Акадэміі, выказаў пажаданьне (гутарка па тэлефону за 3/II–27г.), каб вечар, а больш правільна – праграма, быў падзеляны на дзьве часткі, на два дні. Выклікаецца гэта тым, што вечар, прысьвечаны беларускай культуры, наладжваецца ў Маскве першы раз, у расейскіх вучоных і дзеячоў мастацтва ёсць пэўная зацікаўленасьць да Беларусі, і за адзін вечар немагчыма будзе даць хоць абеглае ўражэньне пра асобныя галіны.

Адначасова проф. Сакалоў прапануе наладзіць у залі Акадэміі невялічкую выстаўку, прысьвечаную народнаму мастацтву. Частку экспонатаў можна будзе дастаць у Маскоўскім Музэі Народазнаўства, частку (якіх ня будзе ў Маскве) – з Менску.

[...] лютага 1927 г.
(Ул.Дубоўка) (І.Шыпіла)

Рэзалюцыя на першай старонцы тэкста: Згодзен на ўсё. Яз[эп] Ад[амовіч], 25/ II [19]27 г.

*НАРБ. Машынакопія.*
*Публікацыя Алесі Гесь*

**Уладзімір Дубоўка - Максіму Танку**

18.09.1969, Масква

Браце Яўген Іванавіч,

Адразу ўсё, што чалавеку патрэбна, ты мне прыслаў: хлеб і да хлеба, глыток вады, - такой празрыстай, як у крыніцы, самай чыстай, што выцякае ў бары з-пад твору…
Табе і ўдзячна і жадаю шчыра,
Каб не спыняючы свайго імпэту,
Тварыш яшчэ, яшчэ, яшчэ –
На радасць нам с свету. –

Сардэчна вітаю.
Моцна абнімаю. Марыя Пятроўна мая цалкам да мяне далучаецца.

Уладзімір Дубоўка

*БДАЛіМ. Ф.25, воп.2, адз.21, а.21. Аўтограф*

* * *

**Уладзімір Сасюра – Уладзіміру Дубоўку**

Любий, світлий страднику!

Хіба забути:
“О Беларусь, мая шыпшына,
Зялёны ліст, чырвоны цвет…”
І ту ніч, коли я ночував у тебе, і ми один одному одкрили свої серця, повні любові: твоє – до Білорусі, моє – до України.
Як ми один одному читали про це вірші, повні гніву і любові.
Ні! Це назавжды лишилося в моєму серці. Ты місячна ніч і ти, коло мене – босий на снігу. Це між імним смішна деталь, якої я те ж не забув…
А потім страшні долі богатіх товаришів, що невінно загинули. Лишилось небогато, що чудом живі. І ти – один із них. Я дуже радий за тебе.
Не знав, що ти в Москві. Я був на з’їзді письменників і міг тебе побачити.
Як що будеш у Києві, то спинишся у мене. Буде що згадати. Мені поїздка до Москві коштувала чергової гіпертонічної кризи, і я трохи не помер. Три місяці був прикутий до ліжка. Зараз уже гаразд. Дуже хочу тебе побачити, любий Уладзімір!

Твій давній друг
(Подпіс: В.Сосюра)
5.Х-59

P.S. Привіт од мої дружини Марії, що те ж зазнала твоєї долі.
Кіїв, прос. Коцюбінського, №3/17, (мені)

*Адзел рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа (АР ЦНБ). Ф.14, воп.1, адз.693, а.1-1 адв. Аўтограф.*

## З гісторыі беларусізацыі

## [Беларуская царква]

Совершенно секретно

В Центральный Комитет ВКП(б). Наркоминдел.

**Докладная записка. О политике по отношению к католической церкви**

[жнівень 1925 г.]

Римско-католическая церковь в Белоруссии является крупным политическим фактором (все польское население плюс белорусы-католики, всего не менее 200—250 тыс. человек), т. к. в особенности в силу того, что она выполняет роль прямой агентуры польского государства.

На территории Белоруссии 2 католические епархии: Минская, управляемая ксендзом Войцеховичем, но нелегально руководимая из Польши Новогрудским епископом Лозинским, и Могилевская, подчиненная Ленинградскому ксендзу Малецкому. Оба епископы – Ленинградский и Могилевский – подчинены Варшавскому архиепископу, барону Роппу.

Среди католического духовенства Советской Белоруссии возникла за последнее время тенденция в пользу создания Белорусской епархии, независимой от Варшавской и непосредственно подчиненной Риму. Мотивы этого течения: 1). Отчасти национальная вражда ксендзов-белорусов к польскому духовенству. 2). Затруднение подступа к белорусскому крестьянству в силу недоверчивого отношения, вызываемого связью католических церковников с Белой Польшей. 3). Невыгодность условий, в которые католический церковник попадает в сравнении с другими церковниками, т. к. советские власти рассматривают ее как непосредственного, наиболее опасного врага, ведут против нее особо острую борьбу по линии ГПУ и т. д. 4). Затруднения, связанные с контрабандным провозом из Польши предметов церковного обихода и т. п.

Поддержанное соответствующими нашими органами, это течение укрепилось. В настоящее время на его стороне находится, по данным ГПУ, почти все католическое духовенство Минской епархии во главе с Войцеховским и поддерживает его ряд ксендзов Могилевской епархии.

Наряду с этим, в Западной Белоруссии также имеет место движение белорусских ксендзов против полонизаторской политики Варшавского правительства и духовенства.

ЦК КП(б)Б поддержать и развить движение в пользу Белорусской автономной епархии и утвердить проведение следующих мероприятий.

1. Созыв в конце августа совещания ксендзов со следующей, примерно, повесткой дня:

а) Об образовании автономии Белорусской епархии, в связи с заключением Ватиканом и Польшей конкордата и отказом подчинения польских католиков властям.

б) О посылке делегации по этому вопросу к Папе.

2. Совещание состоялось и вынесло решение в Минском епископстве об отказе о подчинении Польше. Официально это постановление не опубликовано, но если явится необходимым, то может быть в любое время опубликовано. Могилевской епархией вопрос удерживается нахождением центра в Ленинграде, где, по сведениям ГПУ, идет также подготовка аналогичного съезда.

3. Предлагается выставление на пост епископа образуемой епархии кандидатуры видного ксендза – белоруса Абрантовича, живущего сейчас в Польше и, по сообщениям заграничной прессы, арестовывавшегося польскими властями за сочувствие белорусскому национальному движению. По сведениям ксендзов, инициаторов съезда, Абрантович согласился на приезд в Советскую Белоруссию.

ЦК КП(б)Б отдает себе отчет в опасных сторонах намеченной политики, а именно в том, что высвобождение белорусской католической церкви из-под польского влияния временно усилит ее религиозные позиции среди части белорусского крестьянства. Однако вместе с тем создание Белорусской автономной епархии вырвет из рук польского правительства орудие политического влияния, позволит построить отношения между советскими органами и католической церковью по типу отношений с церковью православной и усилить национальное движение среди ксендзов Западной Белоруссии. ЦК полагает, что преимущества намеченной политики значительно перевешивают ее минусы.

Исходя из этого, ЦК КП(б)Б просит ЦК РКП(б) утвердить указанные выше мероприятия и дать соответствующие директивы НКИД и ГПУ.

Секретарь ЦК КП(б)Б Криницкий

*Гісторыка-дакументальны дэпартамент МЗС РФ. (ГДД)*
*Ф. 0215, воп. 7, д. 12, спр.. 7, а. 2—3 адв. Машынакопія.*

* * *

**Г. В. Чычэрын – М. М. Літвінаву**

Берлин, 2 октября 1925 г.
Тов. Литвинову
Копии т.т. Сталину, Дзержинскому и членам Коллегии НКИД

Уважаемый товарищ

В Минске я имел продолжительную беседу с тов. Медведем. Я ему рассказал о попытке мнимой белорусской национальной католической церкви легализоваться через Москву. В прошлом году члены ОГПУ считали это крайне опасным, а между тем теперь т. Смидович принял епископа Белоголового и кто-то разрешил съезд этих авантюристов. Т[оварищ] Медведь охарактеризовал мне Белоголового как злостного и опасного авантюриста иезуита. Но ксендзы Белоруссии целиком в руках Медведя. Он боится этих авантюристов, ибо овладел ксендзами. Он жаловался, что утвержденный протокол комиссии Логановский – Малюм ему до сих пор не послан, так что он не знает, одобрены ли эти решения. Далее, он впервые от меня узнал, что конвенция о пограничных столкновениях утверждена. Ни НКИД, ни секретарь СНК СССР ничего ему об этом не сообщили. Итак, еще 5 сентября вступила в силу эта конвенция, а за границей о ней ничего не знают.

С тов[арищеским] приветом Чичерин

*ГДД МЗС РФ. Ф.0215, воп. 7, спр. 12, а. 7. Машынакопія.*

Совершенно секретно

ИНОГПУ
№ 36227/II
25.XI.25
Литвинову, Ягоде, Деребасу

**Мемориал**
**Белорусского духовенства, представленный Папе в связи с соглашением между Ватиканом и Польшей и рассматриваемый в настоящее время**

Блаженнейший Отец,

Более одного миллиона белорусских католиков в Польше, как часть 12-миллионного белорусского народа, появившись на арене политико-религиозного возрождения стремятся к скорейшему прогрессу. Польская политика, враждебная белорусам, накладывает свое ужасное иго на всякое проявление нашей [возрождающейся] культуры и навязывает чуждый нам свой элемент <…> Выражаем надежду, что Отец всех христианских народов и нас, белорусов, прислушается к умоляющему голосу.

1. Введение и употребление белорусского языка в проповеди в белорусских приходах было уже санкционировано как Римом (… 29 июля 1907 г., № 24489), так и местными властями (священник Ропп, в 1917 г.). <…> Ужасное религиозное невежество белорусского народа является следствием недостаточного обучения на родном языке заставило ревностного пастыря дать это распоряжение духовенству. Но осуществилось ли оно на практике? Нет.

<…> Польское правительство, так резко враждебное нам, действовало слишком коварно, оставив арбитром за польскими епископами вопрос о белорусском языке (и в костелах, и в школах, где обучаются родному языку). Даже русское правительство позволяло наряду с русским языком (официально употребляемым нашей нацией) изучать религию в школах на родном языке, школьном.

Польское духовенство старается все на нашей земле ополячить; белорусское слово преследуется, над ним издеваются в приходах. Но враждебная политика не даст своих плодов и наш народ живет и будет жить по завету своего поэта: «Никогда не умрет плененная страна, пока живы ее сыны»* <…>

Просим Ваше Святейшество

1. Пересмотреть и соответственно изменить пункты договора, которые могут так печально отразиться на нашей жизни.
2. Декретировать специальным распоряжением относительное употребление белорусского языка в религиозном обучении и второстепенных функциях для белорусской страны, входящей в состав Польши.
3. Назначить викарных епископов белорусской национальности для Вильно, Пинска и Ломжи.
4. Ввести в Виленской и Пинской семинариях курс белорусской литературы с целью выделения будущих священников, готовящихся в апостольство между белорусами.
5. Назначить епископа в Советскую Белоруссию, создав там Латинское белорусское епископство.

Представители белорусского католического духовенства – Фабианус Абрантович, прелат в Минске; Антониус Сенкевич, декан в Глубоком; Иозеф Резек, из Виленской

---

* Пераклад верша Я. Купалы «Нашай ніве»:
«Не загіне край забраны, // Покі жывы людзі» (уклад.)

семинарии; проф. В. Годлевский, приходский настоятель в Жодишках; Адамус Станкевич, депутат Сейма.

*Тамсама, а. 20. Машынакопія.*

***

**[Аб пашырэнні тэрыторыі БССР]**

Сов. секретно

**В Коллегию НКИД**
**Докладная записка**

26 августа 1926 г.

В связи с изменением политики польского правительства в отношении нацменьшинств и усиленной работы поляков по втягиванию в сферу своего влияния тех белорусских организационных кругов, которые до настоящего времени стояли как бы на раздорожье, перед Коллегией НКИД должен, естественно, встать вопрос о порализовании работы поляков.

В связи с этим очень актуальным становится ускорение разрешения вопроса о расширении границ Советской Белоруссии (присоединение Гомельщины и 3-х уездов Витебщины). Расширение Советской Белоруссии в 1924 г. было значительным ударом для польского правительства и антисоветских белорусских группировок и привлекло на нашу сторону симпатии широких масс Западной Белоруссии.

Политические белорусские группировки были все таки не удовлетворены разрешением вопроса в том виде, как это было проведено и еще на Берлинской конференции белорусские группы Польши, Литвы, Латвии и Чехословакии в одной из резолюций, где говорилось о необходимости объединения Западной Белоруссии с Советской Белоруссией, было подчеркнуто, что крайне желательно окончательное объединение всех белорусских земель Восточной Белоруссии и присоединение к Советской Белоруссии тех белорусских земель, которые к ней ещё не присоединены.

Как только в советской прессе появилась эта заметка, что Предсовнарком БССР тов. Адамович ездил в Москву для окончательного разрешения вопроса о расширении границ Советской Белоруссии – это известие было перепечатано во всей Белорусской прессе (на видном месте и жирным шрифтом). Поляков это известие также сильно обеспокоило.

Яниковский, начальник Восточного отдела польского Мининдела специально вызвал Советника Полпредства [СССР] Ульянова и после ряда мелких вопросов перешел сразу к волновавшему их вопросу расширения Белоруссии. Было очевидно, что этим актом будет выбит из рук польских козырь и возможность постоянных указаний прямо и через антисоветские белорусские группы на гнет московской культуры, на «уциск москалей» и т.д., чем они все время сильно оперируют. <…>

Считая, что это будет акт, направленный против усиления поляков в Западной Белоруссии и Украине, Коллегии НКИД необходимо, по нашему мнению, подчеркнуть политическое значение подобного рода акта, а также то, что затягивание практического разрешения этого вопроса в значительной степени ослабит политический эффект.

Это особенно необходимо потому, что решение Коллегии о незаинтересованности НКИД в этом вопросе является фактором, тормозящим практическое осуществление этого вопроса.

Зав. Отделом Прибалтики и Польши НКИД (Логановский)
Советник Полпредства СССР в Польше (Ульянов)

*ГДД МЗС РФ. Ф. 17 воп. 85, спр. 3, а.4-5. Машынакопія*
*28.XI.1926 гэтая "Дакладная" разам з іншымі матэрыяламі "О расширении БССР" дасылалася ў ЦК УКП(б), сакратару ЦК УКП(б) т. Шверніку*

***

**[Літоўская метрыка]**

**Выписка**
**Из письма т.Адамовича [Язэпа] от 30/I.[19]26 г. за № 306/27**

т. Арлоў

З даклада Інбелкульта відна, што тую Мэтрыку, якая цалкам адносіцца да БССР, як з боку гісторыі, так і з боку экономікі, мовы, культуры, нуогул за 15-18 стагоддзе, цяпер хочуць забраць літоўцы ці Польшча. Я лічу, што гэтага дапусціць ні ў якім разе ня можна і прашу паставіць перад НКЗ Спраў, 1) каб Мэтрыка засталася ў межах СССР, 2) каб яна з архіва РСФСР была перададзена к нам у архіў БСССР. 3) мы як толькі атрымаем, то зараз жа даручым Інбелкульту яе выдаваць; грошы і г.д. на гэта дадзім

Выписка верна: Орлов [часова ўпаўнаважаны Наркамата Замежных спраў СССР пры Урадзе БССР]

*ГДД МЗС РФ. Ф.0215, воп. 8, спр. 15, а.28.*

***

**Арлоў – Лаганоўскаму [загадчыку аддзела Прыбалтыкі і Польшчы НКЗС СССР]**

30 января 1926 г.

<…> По вопросу о «Литовской метрике» посылаю Вам раздел съезда белорусских археологов. Надеюсь с сегодняшним же письмом переслать Вам заключение Правительства [БССР]

<…> Снова к вопросу о «Литовской метрике». В нашей делегации по реэвакуации нет представителя от БССР. Этим объясняются некоторые промахи делегации в архивных вопросах (в Польше имеется ряд архивов, представляющих для БССР большую ценность, - они делегацией не были затребованы от Польши).

Как Вы смотрите на включение от БССР представителя в Делегацию по реэвакуации. Кандидатура у нас намечена – это историк и экономист проф. Довнар-Запольский.

С комм. приветом

Орлов

*Там сама, а.222.*

12 апреля 1927 г. Сов.секретно
№26375

**Уполномоченному НКИД при Правительстве БССР Козюре**

Уважаемый товарищ,

Центральное Архивное Управление БССР подняло перед Центрархивом СССР вопрос о передаче Белоруссии Литовской метрики, посольских книг Великого княжества Литовского и некоторых других архивов, на которые претендуют Польша и Литва. Вам известно, насколько сложным и щекотливым является вопрос об этих спорных архивах и сколько усилий нам стоило, например, затянуть вопрос о выдаче Литовской метрики литовцам осенью прошлого года. Тогда НКИД сам обратился к БССР с просьбой предъявить претензии на Литовскую метрику. Но возбуждение этого вопроса сейчас является абсолютно несвоевременным. Не входя в обсуждение этого вопроса по существу, т.е. где должна находиться Метрика и другие архивы, следует признать, что положение их в архивных фондах Союза оставляет вопрос как бы открытым, передача же Минску вызвала бы немедленные протесты со стороны Литвы и Польши.

Прошу сообщить, был ли запрос Центрального Архивного Управления БССР согласован с Вами, а также через соответствующие инстанции инструктировать надлежащим образом Центральное Архивное Управление БССР.

С товарищеским приветом

Карский
[нам. загадчыка аддзела Прыбалтыкі і Польшчы НКЗС СССР]

*ГДД МЗС РФ. Ф. 0215, воп.8, спр.7, п.9, а.22, Машынакопія*

**Мікола Вайцянкоў**

## Голас з Смаленшчыны

Агульны агляд.

Больш году таму назад да Беларускай Савецкай Краіны была далучана Гомельская губерня, якая раней была пад РСФСР. Ня буду казаць аб прычынах далучэньня яе, але трэба сказаць, што праца па далучэньню этнаграфічных вобласьцей яшчэ далёка не закончана. Тут я і хачу падняць гэта пытаньне у беларускім друку і завярнуць на гэта увагу партыі.

Возьмем мы паўночна-усходнюю частку этнаграфічнай Беларусі - Смаленскую губернію і паглядзім, як тут ідзе справа аб далучэньні і навогул аб жыцьці гэтай краіны.

Пытаньне, якое ўзьнімалась на Усебеларускім апошнім Зьездзе Саветаў аб далучэньні Смаленскай губэрніі да БССР, асталося ня вырашаным. Агранічыліс тым, што толькі у губэрніі пачалі весьці падрыхтоўку да далучэньня і то ня вельмі добра. Прычына гэта хутчэй за усяго хаваецца у тым, што яшчэ мала гэта краіна вывучана з розных бакоў, як з боку сацыяльна-эканамічнага, так і нацыянальнага.

Смаленская губернія межавала і мяжуе з Магілёўскай. Як ведама, што Магілёўская губернія была да 1917 г. самай адсталай і глухой. Толькі пасьля Рэвалюцыі гэты погляд зьмяніўся у адваротны бок, асабліва пасьля далучэньня яе да Савецкай Беларусі ў 1924 г. Той жа куток, што астаўся цяпер да Смаленшчыны, але даўней быў Магілёўскай губ. Мсціслаўскага павету так і астаўся глухім і забытым. Цяпер ён належыць Рослаўскаму павету, аб якім тут у большасьці будзе гаварыцца. Калі далучалі ў 1924 г. да БССР Магілёўскую губ. стала пытаньне і аб далучэньні усяе Смаленшчыны. Але з прычыны пераважнай большасьці расейскага насельніцтва яе далучылі толькі да БССР. Насельніцтва гэтай краіны (хаця і ня ўсе) імкнулася і хадатайнічала, падавала заявы, каб яго далучылі, але іх голас ня быў пачут. Прычыну гэтага непачуцьця ня трэба (як шмат хто думае) шукаць дзесьці у вышэйшых органаў улады, а трэба пашукаць на мясцох. Калі быў спрос усяго насельніцтва, куды яно жадае, ці перайсьці пад БССР, ці астацца ў РСФСР, то як кажуць адказы гэтых апросчыкаў, усіх падгаварылі, што ня хочуць ісьці пад Беларусь. Але справа была тут зусім ня так. Вядома, насельніцтва гэтага краю ў большасьці ня пісьменнае <...>

Круглянскі, Хутарынскі, Мазыкінскі і др. сельсаветы прылягаюць да мяжы Беларусі. Склад сялянства воласьці ці сельсаветаў параскіданых у тым баку, што мяжуюць з Беларусіей, амаль што аднолькавы. Тут няма моцных кулакоў, затое мала наогул і беднякоў. Такія гаспадаркі маючыя па 2 каровы, па каню - па двух, 5-10 дзесяцін зямлі, складаюць асноўную масу сялянства. Але ж аснаўною крыніцаю жыцьця служыць зямля. Другія крыніцы даходу ў гаспадарцы хаця і ёсьць, але мала. Прыкладам, перавежнае дробнае кустарніцтва, як выраб гаспадарскіх рэчаў (сані, дугі, калёсы, начоўкі, кадушкі і г.д.) У пералічаных вышэй сельсаветах пашырана выдзелка аўчын і асабліва тут пашыран выраб будаўнічых матар'ялаў, як та дошак, бо тут ёсьць яшчэ лем. Але ў хуткім часе лесу ўжо не будзе, бо ён бязьлітасна зьнішчаецца.

Наогул зараз вельмі дае сябе адчуваць зямельная цесната у сувязі з павялічэньнем колькасьці насельніцтва. Перасяленьня пастаўлена тут кепска і мажліва сказаць, што зусім не налажана і ніхто ня хоча перасяляцца. На выходныя промыслы зусім мала накіроўваюцца. Большасьць працоўных ня мае працы і нельга іх ні куды прыкласьці. Нельга і ні куды большасьці насельніцтва прылажыць сваю энергію і яна траціцца зусім на не патрэбныя і не карысныя грамадзе шляхі.

Культурнае становішча насельніцтва. Шмат дарэмна траціцца сродак і энергія насельніцтва із за не пісьменнасьці на самагон і зьвязаныя з ім вынікі; моладзі нельга праявіць сваю энергію па грамадзка-карыснай працы і яна выліваецца ў бойках,

хуліганстве, п'янках і г.д. Камсамольская ячэйка маецца адна на 4 раёны і то вельмі кепска працуюць і моладзь за камсамолам не ідзе, ня цікавіцца; клюбаў, хат чытальняў німа зусім. Газэты жыхарствам мала выпісваюцца і асабліва моладзь зусім ня выпісвае газэт, часопісаў, кніжак. Наогул літаратуры тут ня сустрэціш нідзе. Лепш бутылку самагону куплю чым газэту выпішу - кажуць хлопцы.

Школьная праца надта слаба пастаўлена. Школы па вёскам маюцца з такім разьлікам: 1 школа на 3 вёскі. Настаўніцтва падабрана самае горшае. Аніякае настаўнікі грамадзкай працы не праводзяць. Школы не занімаліся, сувязь з жыцьцём адсутнічае. Дрэнныя адносіны да школ мясцовай улады, сказываюцца на тое, што меньшая колькасьць дзяцей толькі наведвае іх. Сялянства надта не здаволена <...>

Як раней, "закон што дышло, куды павярнуў - туды і выйшла". У ўстановах пазаселі тыя, хто раней ня мог зайсьці туды, ды і правяць як хочуць самі. Ну дзе-ж там будзе правіцель, калі яму бяз штаноў бегаць яшчэ патрэбна было-б, а ён правіць, вучыць нас. Значнае абурэньне існуе супроць судовых спраў. Кажуць, што вельмі законы лёгкія і судзяць лёгка. Дапамагаюць разьвіцьцю праступнасьці. Асабліва балючае пытаньне - гэта культурнае і бытавое пытаньне: "Як мужык ні працуй дзень і ноч, дык ён не убачыць ні тэатру, ні кіно, ні навучыцца грамаце, які радзіўся - так і памрэ" - кажуць сяляне.

Падагулюючы гэта ўсе можна сказаць наступнае: бязумоўна гэта погляды дробна-буржуазныя, ня культурныя і г.д., але-ж віна то чыя, што такія погляды. Таму, што няма ніякай працы тут на вёсцы ніхто не заглядвае і каму цікава, далёка. Вось і атрымоўваецца такое ўраджаньне і сапраўды гэта есьць. Нам як засталося на спадчыне так яно і захавалася, а новага ніхто ня даў. А ўсе такі як ня вучоны селянін, а думка ў яго ёсьць аб тым, як бы гэта лепш жыць. А тут ніхто і ні адкуль не дапамагае.

Нацыянальнае пытаньне

Перш чым перайсьці да вывадаў і заключэньня я хачу сказаць аб нацыянальным пытаньні, якое ў Смаленшчыне не вырашана добра. Насельніцтва тут жыве /на сяле/ амаль чыста беларускае і мова ў яго ў цэлым беларуская. Калі паглядзець і па гісторыі Смаленшчыны, то мы бачым, што з незапомных часоў тут жылі пляменьні беларускія. Другая справа, што гэтыя пляменьні больш мелі на сябе ўплыў расійшчыны і таму часткова перамяшалася і абрусела. Абрусела часткова і мова, і быт, і вопратка, і звычкі, але гэтае ня можа быць прычынай, што насельніцтва не беларускае. Хутчэй можна мову Смаленшчыны залічыць да правінцыяльнай адносна Беларусі, а не РСФСР. Праўда, такі гук, як "р" перад мяккімі галоснымі вымаўляецца мякка. Тут існуе погляд, што гук "р" кажа толькі шляхта прад мяккімі зычнымі. Напрыклад, слова "рака" насельніцтва адносіць да мовы і выгавору шляхты, а таксама і шмат другіх, як "запрэч", "зварыць" і г.д. Асабліва жыхарства ня любіць "рускіх" якія занадта гавораць на чыста расейскай мове. Пра такіх гавораць, што ён "ламаецца як пан" і ўсяк яго парадражніваюць і адносяцца не па таварыскі. Гэта яшчэ раз пацьвярджае тое, што насельніцтва беларускае. Шмат знаходзіцца і абруселых беларусоў, але ў параўнаньні з агульным лікам насельніцтва, нязначны процант. Што датычыцца вопраткі, звычкам, агульнаму выгляду Смаленца, то ён у вадных адносінах, як скажам вопратак, значна адышоўся ад Мінчука, або Пінчука, але затое ён захаваў быт і нават і абычаі чыста беларускія. За гэтым яго нельгя адлучаць ад роднай старонкі і яшчэ больш прывіваць расійшчыну, бо значна, апосьля, будзе цяжай яму перайсьці да беларуса.

Вывады

Зрабіўшы такі абгляд і падрабязовае азнаямленьне аб умовах жыцьця ў Смаленшчыне, асабліва таго раёну, што ляжыць з БССР, ня цяжка зрабіць заключэньне. Неабходна як у найхутчэйшым часе паставіць гэта пытаньне на Сэсіі ЦВК або на Зьезд

Саветаў. Прылучыць Смаленскую губ. да БССР, вось як павінна стаяць пытаньне ўсюды і ў друку, і ў шырокіх колах грамадзкасьці. Калі мы будзем адцягваць і на далей гэтае пытаньне і ня вырашаць яго ў найхутчэйшы час, то пазьней гэта будзе цяжка зрабіць. Зусім іншы характар прыняла-б краіна пры далучэньні. Культурныя цэнтры, а таксама і адміністрацыйныя павярнуліся-б да яе і пачалось-б новае адраджэньне краю. А то зусім на яго забылі і ніхто не зьвяртае ўвагі. Апошнія пастановы партзьезду аб працы на вёсцы добра гавораць самі за сябе. Дык трэба-ж узяцца гэтавыконваць.

*10/I – [19]28г. Амсьціслаў. Пэдтэхнікум*
*НА РБ, Ф. 4, воп. 21, спр. 169, а. 1-4. Машынакопія*

***

**П. Шах**

## Практычныя шляхі беларусізацыі

<...> Пасьпешны вопыт беларусізацыі школ у БССР павінен таксама распаўсюджвацца на беларускіх дзяцей, якія жывуць у РСФСР. Мы мелі шмат выпадкаў, калі беларускія дзеці прымежных вёсак Смаленшчыны праходзілі да нас у Калінішчыну вучыцца; бацькі тлумачылі гэта тым, што дзеці лягчэй навучаюцца пісьменнасьці па-беларуску, чым па-расейску. Гэткіх фактаў было шмат.

Больш таго, нам прыходзілася сустракацца з фактамі, калі ў мясцовасцях Гомельшчыны, у якіх нам па перапісу 1926 году паказалі колькасць беларусаў у 5,8 прац., там з 1924 году існавалі беларускія школы. Зусім іншая рэч, што гэта ставіць пад сумненне вынікі перапісу у гэтай мясцовасці, але гэта не ўваходзіць тут у нашу тэму. Мы тут толькі хочам падкрэсьліць вялікі зрух у настроях беларусаў за час рэвалюцыі, што дзе-б яны не былі, яны шукаюць школу на роднай мове. Гэта таксама датычыць і беларускага насельніцтва ў Сібіры, дзе паміж іншым, справа з беларускай школай пастаўлена дужа пагана.

*Савецкая Беларусь, 1928, 9 лют., №34*

***

**Ус. Ганчароў**

## На беларускім аддзяленні Смаленскага рабфаку

(Ад уласнага ў Смаленску карэспандэнта)

5 верасня скончыўся прыём на беларускае аддзяленне Смаленскага рабфаку. Усяго было прынята 60 асоб. Дзеля таго, што беларускае аддзяленне з'яўляецца адзіным для ўсёй РСФСР, бо прыёму на беларускае адзяленне Бухарынскага рабфаку ў гэтым годзе не было, сюды з'ехаліся з усіх бакоў: ёсць і з далёкай Сібіры, з Туркестана, ёсць і з бліжэйшых губерняў - з Пскоўскай, Бранскай і гэтак далей.

Тое, што Смаленскае беларускае аддзяленне з'яўляецца адзіным, надае яму асаблівае значэнне. Мы маем па РСФСР не адзін дзесятак тысяч беларускага насельніцтва. Асабліва шмат яго ёсць у Сібіры. Сярод гэтай масы беларускага насельніцтва ёсць шмат дарослых сялян і рабочых, якія жадаюць вучыцца на роднай мове, якім цяжка на расейскім рабфаку.

Установам, якія атрымалі месцы для камандыроўкі на рабфак, варта было адабраць лепшых кандыдатаў. Але відаць, што камандыроўкі выдаваліся абы як <...>. Быў такі выпадак, што прыслалі такога беларуса, які ніводнага слова па-беларуску не ведае і ведаць

не хоча. З некаторых камандыровак відаць, што яны даваліся на беларускае аддзяленне таму, што не было каму на расейскае аддзяленне. Усё гэта паказвае, што ня ўсе нашы ўстановы аддаюць належную ўвагу працы сярод нацменшасцяў <...>.

Усё гэта востра ставіць пытанне перад Наркамасветы РСФСР аб тым, што трэба так паставіць працу на мясцох, каб камандыроўкі ня гінулі, а даходзілі да беларускага насельніцтва

*Савецкая Беларусь, 1927, 17 верасня, №211*

**[Пра “нацдэмаў з цымбаламі”]**

Дадатак да прат. №185 Параграф 20 пас.
Бюро ЦК КП(б)Б ад 29-V-36 г.

**ПАСТАНОВА ЦК КП(б)Б**
**Аб беларускіх клубах і беларускіх земляцтвах у Маскве і Ленінградзе.**

Бюро ЦК КП(б)Б адзначае, што вытваранае Культасветаддзелам ЦК КП(б)Б абследванне становішча беларускіх клубаў і земляцтваў у Маскве і Ленінградзе выкрыла, што гэьыя арганізацыі на працягу рада год з’яўляліся месцам прытулку беларускіх нацыяналістычных элементаў, выгнаных у свой час з межаў Беларусі.

Асколкі разгромленага беларускага нацыянал-дэмакратызма працягваюць і па сучасны момант туліцца вакол гэтых клубаў, падвізаючыся ў якасці лектароў, кіраўнікоў музычных гурткоў і т.д.

Пастпрэд урада БССР пры ўрадзе СССР тав. Ластоўскі, які стаў на чале беларускага клуба ў Маскве, нясе персанальную адказнасць за работу клуба, як член партыі. Аднак, тав. Ластоўскі аказаўся палітычна блізарукім і дзякуючы прытупленню класавай пільнасці, не выкрыў нацыяналістычных элементаў, пралезшых у гэтыя арганізацыі і па сутнасці скрываў сапраўднае становішча спраў.

Бюро ЦК КП(б)Б пастанаўляе:

1. Лічачы немэтазгодным, нічым не выклікаемым існаванне беларускіх клубаў і земляцтваў у Маскве і Ленінградзе, прасіць Маскоўскі і Ленінградскі гаркомы ВКП(б) ліквідаваць гэтыя арганізацыі.
2. Даручыць НКАсветы, па ўзгадненню з гарадскімі советамі Масквы і Ленінграда, правесці ліквідацыю гэтых арганізацый не пазней чэрвеня г.г.
3. Указаць тав. Ластоўскаму на тое, што ён, будучы з моманта сваёй работы ў пастпрэдстве БССР старшынёй беларускага клуба ў Маскве, не ставіў пытання як перад партыйнымі арганізацыямі Масквы, так і перад ЦК КП(б)Б аб становішчы клуба, чым, па сутнасці, патураў нацыянал-дэмакратычным элементам, прытуліўшымся ў клубе.
4. Даручыць НКАсветы аказаць неабходную дапамогу дырэкцыі этнаграфіўнага музея ў Ленінградзе ў карэннай перабудове маючагася ў гэтым музеі беларускага аддзела ў адпаведнасці з патрабаваннямі правільнага асвятлення гісторыі, эканомікі і нацыянальна-культурнага будаўніцтва ў БССР.
5. Даручыць ДВБ у парадку дагаворанасці з кнігагандлюючымі арганізацыямі Масквы і Ленінграда арганізаваць прасоўванне ў гэтыя гарады літаратуры, асвятляючай соцыялістычнае будаўніцтва БССР.
6. Даручыць Гістпарту пры ЦК КП(б)Б і Беларускай Акадэміі Навук арганізаваць вывучэнне знаходзячыхся ў Ленінградзе архіваў, маючых адносіны да БССР.

Верна: [Подпіс]

*НАРБ. Ф.4.воп.29, спр.1260, а.31*

Подлежит возврату после
заседания Бюро ЦК в О/С ЦК

Материал к заседанию Бюро ЦК КП(б)Б к 4.III-36 г.

**ПОСТАНОВЛЕНИЕ**
**Бюро ЦК КП(б)Б о ликвидации Центрального студенческого Белорусского землячества в Москве и Ленинградского Белорусского землячества**

Бюро ЦК КП(б)Б отмечает, что существующие в Москве и Ленинграде белорусские землячества изжили себя как организации, занимавшиеся распределением материальной помощи за счет бюджетных ассигнований БССР и проведением культурной работы среди студентов, приезжающих на учебу в Москву и Ленинград из БССР, о чем свидетельствует фактическая самоликвидация белорусского землячества в Москве.

Кроме того, работая зачастую вне всякого партийного контроля, эти землячества и существующие при них белорусские клубы являлись местом притяжения случайных, нередко – классово враждебных, националистических элементов, разоблаченных в БССР и пытавшихся использовать эти организации в своих контрреволюционных целях.

Бюро ЦК КП(б)Б п о с т а н о в л я е т :

1. Считать нецелесообразным, ничем не вызывающим существование белорусского землячества в Москве и Ленинграде и ликвидировать их, а также ликвидировать имеющиеся при них белорусские клубы.

2. Материальные средства этих организаций передать НКПросу БССР.

3. Намеченные на 1936 год по бюджету НКПроса БССР 27 тысяч руб. для финансирования Московского и Ленинградского белорусского землячества оставить в бюджете НКПроса в качестве фонда помощи студентам.

4. Поручить Наркомпросу БССР провести ликвидацию белорусских землячеств в Москве и Ленинграде не позже 15 марта 1936 г.

***

Матар'ял к паседжанню бюро ЦК КПбБ.
Падлягае звароту пасля паседжання бюро.

СЕКРЕТАРЯМ ЦК КП(Б)Б т.т. ГИКАЛО Н. Ф., ВОЛКОВИЧУ Д. И.
ЗАВЕД. КУЛЬТПРОСВЕТОТДЕЛОМ ЦК КП(Б)Б ТОВ. ДЬЯКОВУ.

ДОКЛАДНАЯ ЗАПИСКА

**О состоянии работы белорусских клубов в Москве и Ленинграде**

В результате нашего ознакомления, проведенного в период 16 – 23 марта с/г, с работой «Белорусского Дома Просвещения» в Ленинграде и «Белорусского Центрального рабочего клуба» в Москве нами установлено в отношении организации этих клубов и их работы следующее:

I. ВОЗНИКНОВЕНИЕ БЕЛОРУССКИХ КЛУБОВ В МОСКВЕ И ЛЕНИНГРАДЕ.

Организация белорусских клубов в Москве и Ленинграде относится к 1926 г., т. е. к годам наибольшего распространения и влияния белорусского национал-демократизма в БССР и за ее пределами. С несомненностью установлено, что белорусские клубы как в Ленинграде, так и Москве возникли под прямым влиянием белорусских национал-демократов и их традиций. Так, Белорусский клуб в Ленинграде возник как продолжатель традиций белорусских националистических организаций, имевших место в дореволюционном Ленинграде (1914—1917 гг.): «Культурно-просветительное общество – Белорусская Суполка», издательство «Загляне сонца і ў наша аконца» во главе с таким зубром белорусского национализма, как профессор Эпимах-Шипилло, Антоном Луцкевичем и др. Там же издавалась, как известно, Жилуновичем газета «Дзянніца». Очутившись во главе руководства ряда важнейших участков национально-культурного строительства в БССР, белорусские нацдемы и провокаторы – Шипилло, Игнатовский (Инбелькульт), Жилунович, Балицкий (Наркомпрос) явились идейными вдохновителями и фактическими организаторами белорусских клубов.

В Москве белорусский клуб возник в 1926 году на базе бывш. общества политкаторжан Западной Белоруссии. Непосредственными организаторами явились находившиеся там нацдемы, в частности Дубовка (бывш. секретарь постпредства, известный нацдем), Шукайло – националист и авантюрист, при активном участии в этом деле бывших постпредов Бровковича и потом Павлюкевича. Клуб поныне демагогически прикрывается вывеской «Центрального рабочего белорусского клуба в Москве». Таким образом, назначением этих клубов было служить целям пропаганды националистических идей, собирания своих кадров под видом литературных, хоровых и др. кружков, установлению нужных связей и т. п. Об этом говорят некоторые документы (воззвания, переписка), которые видел теперешний завед. московским клубом, член партии Абакшонак, но которых он нам не предъявил, ссылаясь на то, что они утеряны. Часть этих документов из архива Дубовки, по словам Абакшонка, находится у зам. постпреда т. Мельникова.

Необходимо отметить, что в Ленинграде и Москве обосновалось значительное количество открытых и скрытых нацдемов, высланных из БССР или отбывших высылку в отдаленных местностях и вернувшихся, которые продолжают вести свою контрреволюционную работу более утонченным способом. Факт помещения в газете «Литературный Ленинград» в ноябре 1935 г. националистической статьи о творчестве З. Бядули, доклад о творчестве З. Бядули в белорусском клубе в Ленинграде в присутствии самого Бядули, который вынужден был запротестовать против восхваления его националистической литературной деятельности в прошлом, за что сам Бядуля говорит его нужно бить (вместе с тем является странным, что Бядуля не знает фамилии докладчика, как не знает фамилии также и завед. клубом, член партии т. Семкин), который поручил таким образом делать отчет. доклад незнакомому ему лицу, не говоря уже о необходимости предварительной проверки общественно-политического лица докладчика.

Из числа обосновавшихся в настоящее время в Ленинграде нацдемов нами установлены следующие:

1. ШЛЮБСКИЙ – бывш. работник Инбелькульта, был выслан, работает в Академии Наук.

2. БОНДАРЕНКО – бывш. работник Института языка Белорусской Академии Наук, арестовывался за контрреволюционную деятельность.

3. СУПИНСКИЙ – бывш. офицер старой армии, уроженец Западной Белоруссии, был выслан из БССР, работает завед. белорусским отделом этнографического музея в Ленинграде.

4. ЗАМБЖИЦКИЙ – работал в 1929/30 гг. преподавателем литературы на педагогических курсах в Минске. Известен своими националистическими выступлениями в печати по вопросам литературы.

В Москве – Лужанин – нацдемовский писатель, Шукайло и др.

## II. НАЦИОНАЛ-ДЕМОКРАТИЧЕСКИЕ ИЗВРАЩЕНИЯ В РАБОТЕ БЕЛОРУССКИХ КЛУБОВ В МОСКВЕ И ЛЕНИНГРАДЕ

Белорусские клубы в Москве и Ленинграде не только разоблачали в процессе своей работы контрреволюционную деятельность нацдемов как в прошлом, так и в настоящем, но сами являются местом приюта ряда нацдемовских элементов, играющих зачастую руководящую роль в клубной работе. Так, например, в Ленинградском клубе работал в 1934 г. в качестве руководителя хорового кружка брат провокатора-нацдема Игнатовского – Игнатовский Николай. В качестве лекторов и докладчиков использовались до последнего времени Замбжицкий (лекция о литературе), Супинский, который используется и в данное время, причем для читки лекций на ответственейшие темы – его, например, лекция «Положение деревни при феодализме, капитализме и социализме».

В числе актива белорусского клуба в Москве имеются такие лица, как нацдем Лужанин, аккуратно посещающий клуб и по сей день; Жидович, разоблаченный и изгнанный из БССР в 1934 г. как классово-враждебный элемент и белорусский националист, сын крупного кулака, нашел приют в клубе в качестве руководителя кружка цимбалистов. В последнее время из Москвы выслан органами НКВД. Кстати необходимо отметить возмутительное заявление завед. клубом члена партии т. Абакшонка, который нам заявил, «что Жидовича выслали из Москвы за то, что тот играл на цимблах», чем покрывает контрреволюционное лицо Жидовича. Имеется и ряд других сомнительных лиц среди так называемого клубного актива, не говоря уже о всех посещающих клуб. Изучение политического и социального лица посетителей клуба, в особенности актива, совершенно отсутствует, что не может не облегчать нацдемовским элементам и не принимающим прямого участия в работе клубов вести свою контрреволюционную работу через свою агентуру.

Наряду с этим имеющиеся при клубах библиотеки являются рассадником и проводником нацдемовской идеологии не только в прошлом, но и в настоящем.

Наличие в большом количестве в этих библиотеках нацдемовской литературы является прямым результатом враждебной работы по укомплектованию библиотек. Изъятие нацдемовской литературы начато только в конце 1935 г. и в феврале (Ленинград) текущего года. До февраля 1936 г. в библиотеке белорусского клуба в Ленинграде находились такие нацдемовские имена, как, например, Дубовка, Гарецкий, Бабарека, Никанович, Сольский-Папанский (белогвардеец, живущий в данное время в Польше) и др. Другая часть нацдемовской литературы и по настоящее время находится в библиотеках в массовом пользовании. Например, в библиотеке белорусского клуба в Москве нами обнаружены произведения – Лужанина, Пущи, Гародня и др. Кроме того, имеются неизъятые комплекты журнала «Полымя» за 1927/28 гг., в большинстве заполненные нацдемовскими статьями Игнатовского, Цвикевича и др.

Изъятые книги находятся тут же в библиотеке (Ленинград). Бросается в глаза вообще хаотическое состояние библиотеки (Москва). Значительная часть книг, в том числе и нацдемовских, растащена абонентами. Во главе библиотеки в Ленинграде стоит политически, культурно и технически совершенно малограмотная Голубева, беспартийная, а в Москве за библиотеку персонально вообще никто не отвечает.

## III. БЕЛОРУССКИЙ ОТДЕЛ В ЭТНОГРАФИЧЕСКОМ МУЗЕЕ В ЛЕНИНГРАДЕ

Одним из красноречивых доказательств живучести в отдельных местах Ленинграда нацдемовских традиций и влияния в настоящее время является белорусский отдел в Ленинградском Этнографическом музее.

Заведующим этого отдела, как уже было сказано, является некий Сушанский, именующий себя профессором-этнографом и востоковедом.

Отдел расположен в прекрасном, просторном помещении, в котором можно развернуть действительный показ Советской Белоруссии в прошлом и настоящем. Однако вся экспозиция в отделе, ее содержание рассчитаны на то, чтобы подтвердить прежде всего нацдемовский тезис самобытности, выставлять в выгодном свете хуторскую систему, затушевывать социалистическую перестройку города и деревни.

Вот несколько примеров из витрин и экспонатов музея:

а) в витрине показан «белорусский хутор» периода прищеповщины, сделанный очень тщательно и любовно; макет хорошей светлой избы, крепких надворных построек свидетельствует о домовитости их владельца, и дальше – красивая перспектива лугов, полей, леса. Агитационный эффект от такого показа очевиден;

б) тут же рядом колхозный строй и быт деревни, в отличие от хуторского показан скудно и антихудожественно; изображен угол колхозной столовой с пустым столом и грязноватой официанткой; женщина-колхозница, сидящая за пустым столом, возле ее сын-пионер в грубой домотканой рубашке. Больше ничего о колхозах;

в) «кулак, закапывающий хлеб» показан так (бедная одежда, жалкий согнутый вид), что может вызывать сочувствие зрителя, или в лучшем случае безразличие;

г) совершенно плохо представлена крупная промышленность БССР, цифры относятся к 1930/31 гг.; экспонаты имеются только чулочно-трикотажной промышленности, причем экспонаты отталкивают своей грубостью материала и отделки.

На всем оформлении белорусского отдела музея лежит плаксивый тон в свете старых стихов Купалы:

«…Невяселая старонка наша Беларусь,
Людзі: Янка да Сымонка, птушкі: дрозд, ды гусь…»

Для сравнения следует отметить, что расположенные рядом отделы Узбекский и особенно Карельский является полной противоположностью белорусскому отделу.

Просматривая богато представленный отдел Карелии – природа, художественные макеты, промышленность, зажиточная жизнь колхозников, наглядные электрифицированные карты и т. д., иллюстрирующие хозяйственный рост, расцвет культуры, - получаешь полное представление о богатейшем росте социалистической Карелии. Наоборот, нынешний белорусский отдел является кривым зеркалом, в котором извращенно показывается хозяйственно-политическая и культурная жизнь БССР.

## IV. СОДЕРЖАНИЕ И МЕТОДЫ РАБОТЫ КЛУБОВ

В организационном отношении клубы в Москве и Ленинграде не имеют никакой четкости: устава или положения, определяющих задачи клубов, в настоящее время нет; руководящие и контрольные органы (ревкомиссии) отсутствуют.

В Ленинградском клубе правление не избирается, его заменяет совещание местных уполномоченных при заведующем клуба, состав которого случаен. В Московском клубе имеется правление, председателем которого является постпред тов. Ластовский. Для декорума в составе правления имеется несколько рабочих, которые участия в работе не принимают. Правление в целом является фикцией, потому, что оно не собирается.

Заведующие клубами, как в партийном, так и культурном отношении, являются людьми слабыми, случайно оказавшимися на этой работе. Например, завед. домом в Ленинграде т. Семкин, член партии, очень плохо представляет себе цели работы клуба; не видит нисколько национал-демократической опасности, настроен обывательски-благодушно, самодовольно заявляет: «мы свой план перевыполняем (…) да вот беда, Ленсовет мало денег дает нам».

Не лучше дело с заведующим Московским клубом, которым является Абакшонок; по примеру своего ленинградского коллеги он также обывательски-благодушен, политически малограмотен и близорук по части нацдемовской опасности. Характерно, что он одновременно является и заведывающим китайским клубом.

В смысле обеспеченности помещениями оба клуба не могут удовлетворять запросов посетителей: Ленинградский клуб помещается в доме по Некрасовской ул. вместе с еврейским, польским, финским и бессарабским клубами. Он располагает 3 комнатами, в которых размещены канцелярия, библиотека и читальня, а зрительный зал является общим для всех клубов.

В Москве само помещение компрометирует название клуба, оно находится в полутемном подвале и состоит из 2-х комнат, большая из коих является и залой (человек на 50 – 60). Уюта и культурности в помещении нет и в помине.

Так наз. «актив» клуба никогда никем не проверялся; туда записывались люди, наиболее часто посещающие клуб или библиотеку. В числе этого актива, как уже указывалось, имеется целый ряд нацдемов или политически сомнительных лиц.

Людская база. В Ленинградском клубе она состоит преимущественно из учащихся белоруссов в различных средних и высших учебных заведениях. Способ учета их и привлечения к работе очень простой: рассылаются соответствующие запросы ученическим организациям о присылке списков белоруссов, после чего они приписываются к числу «охваченных работой клуба». В зависимости от числа учащихся выделяются уполномоченные клуба. Такой же метод проводится в отношении рабочих-белоруссов. На основании этого заочного «учета» руководство клуба намечает свои «просветительные» мероприятия и даже спланировало свою работу на целую 2-ю пятилетку с 1933—1937 гг.

Что же касается московского клуба, то последний совершенно не имеет организованного посетителя. В клуб попадают исключительно случайные люди. Внутриклубной массовой работы совершенно нет. В помещении клуба репетирует кружок цимбалистов, хоровой кружок и изредка собирается литературный кружок. Завед. клубом, будучи занят платными выступлениями в радиокомитете и работой в китайском клубе, в этом клубе (белорусском) почти не бывает. Фактическим руководителем клуба является второй работник клуба Самохвалов, беспартийный.

Содержание и формы работы лишены какой-либо политической четкости и целеустремленности. «Обслуживание белоруссов» так расплывчато, аполитично формулируют свои задачи завед. клубами, причем понятие «белорус…» воспринимается не критически, без всякой проверки, о чем свидетельствует наличие нацдемовских элементов среди клубного актива. Насколько довлеет в работе клубов национальный признак и как в этом деле «принципиальность» выдерживается до конца, показывает также посылка художественной бригады белорусским клубом в Москве на строительство канала Волга – Москва для обслуживания имеющихся там осужденных белоруссов. Посылка организована по инициативе работающего на строительстве канала бывшего председателя Горецкого райисполкома Кондраля при содействии т. Ластовского.

Формы работы клубов разделяются на две части: проведение докладов и вечеров в стенах клуба, посвященных политическим датам (февральская революция, день Парижской коммуны, 1-е мая), причем докладчиков по этим темам выделяют райкомы партии, иногда проводятся литературно-юбилейные вечера (вечер Бядули в Ленинграде, Голубка – в Москве). Докладчики в этих случаях, как правило, подбираются клубом, часто из случайных людей, а то и просто нацдемовских подголосков, как это было в Ленинграде на вечере Бядули. Докладчик (фамилия его не выявлена) так расхвалил Бядулю, что тому пришлось выступить на собрании с поправками и опровержениями (здесь имеется определенная перекличка со статьей о Бядуле в газете «Лит. Ленинград»):

Белорусский клуб в Ленинграде проводит беседы на партийно-политические темы на фабриках и заводах (речь тов. Сталина о стахановском движении, итоги сессии ЦИК

СССР, решение партии и правительства о поднятии урожайности и др.). Кадры, которые проводят эти беседы – комсомольцы или молодые партийцы в числе 5 – 6 чел. Их пропагандистская квалификация низкая. Это не мешает некоторым из них (напр., комсомолец Залманов) делать в течение 20 дней 13 бесед на самые разнообразные темы – от положения на Дальнем Востоке до «Коммунизма, как высшего этапа социализма».

Клуб в Ленинграде т. обр. претендует на самостоятельное параллельное ведение партийно-политической работы на предприятиях, не имея на это ни права, ни основания. В то же время в работе клуба совершенно не получила отражение информация о хозяйственно-культурном соцстроительстве в БССР, что должно было бы составлять одну из основных его задач. Тогда же, когда клуб брался за проведение лекций и докладов по вопросам, связанным с БССР, то в качестве «лекторов и докладчиков» нередко выступали нацдемовские элементы (Супинский, Замбжицкий и др.).

Собственно клубная работа (самодеятельные кружки и т. д.) тоже влачит жалкое существование. В погоне за показной работой кружки создаются на бумаге, раздувается количество членов в них, руководители приглашаются без проверки, в результате во главе некоторых ставятся нацдемы, как это имело место с хоровым кружком в Ленинграде (руководитель кружка – брат провокатора нацдема Игнатовского). В Москве предприимчивый заведывающий Абакшонок организовал кружок «кройки и шитья» из женщин, живущих во дворе клуба и вокруг него. Музыкальный же кружок состоит из 3-х цимбалистов, причем одним из них является сам Абакшонок. Несмотря на музыкальный примитивизм, кружок и «солисты» выступают на радиоконцертах и в рабочих клубах.

<…>

## VII. СТУДЕНЧЕСКИЕ БЕЛОРУССКИЕ ЗЕМЛЯЧЕСТВА В ЛЕНИНГРАДЕ И МОСКВЕ

При белорусских клубах в качестве самостоятельных организаций, но ведущих работу вместе с клубами, существуют студенческие организации белорусского землячества. Их организация также относится к 1926 г.

На месте эти землячества не финансируются, живут за счет субсидий, получаемых по бюджету БССР по 6 тыс. руб. каждое.

Устава, который определял бы структуру и общественно-политические задачи данных организаций, нет. Также никто не знает, кем утверждены эти организации.

Фактическое положение заключается в следующем: землячество ставит своей задачей организацию работы среди студентов-белоруссов этих государств. В этих целях руководство землячества составляет по учебным заведениям списки студентов-белоруссов по данным канцелярий учебных заведений и заочно зачисляет в организации землячества, о чем зачастую даже не знают сами студенты. В результате проведенной в таком порядке работы ленинградское землячество исчисляет количество охваченных – 1093 членов из 24 филиям. В числе этих филий землячества включена филия в Ленинградском сельхоз коммунистическом университете им. Сталина, хотя студенты из БССР в этом университете участия в землячестве не принимают. Во главе землячества в Ленинграде стоит правление в составе 7 членов и 2 кандидатов.

Работа землячества сводится главным образом к организации культпоходов студентов-белоруссов в театры, кино и др. Однако студенты слабо принимают участие в культмассовых мероприятиях землячества, так как возможности самих учебных заведений более шире и лучше удовлетворяют культурные требования студенчества, чем это может сделать землячество.

Белорусское землячество израсходовало 6.560 руб., из которых на помощь студентам только 1.030 руб. в то время, как отпускаемые средства (6 тыс. руб.) имеют своей целью, главным образом, материальную помощь наиболее нуждающимся студентам.

Белорусское землячество студентов в Москве давно самоликвидировалось, в 1935 г. его уже не было. Однако отдельные лица из бывшего руководства землячества продолжали искусственно держаться, по-видимому, чтобы оправдать получение зарплаты. Несмотря на то, что в 1935 г. землячество уже не существовало, аппарат сумел израсходовать 3.334 р. 96 к., из которых помощь студентам выразилась в сумме 800 руб., а остальная сумма ушла главным образом на оплату 3-х работников землячества.

В настоящее время вопросами не существующего землячества в Москве ведает второй работник клуба Самохвалов, беспартийный. До него поочередно студенты КУНМЗа (т.т. Команденко, Юзефович).

Одно время, приблизительно 1929/30 гг., возглавлял землячество Бригневич, разоблаченный при проверке партдокументов. К этому времени относится начало шефства Московского землячества над колхозом «Большевик Белоруссии» Климовичского района БССР. Это шефство нацдемовско-эсеровские элементы пытались использовать в своих контрреволюционных целях, о чем говорит переписка, относящаяся к 1932 г., землячества с колхозом по вопросу о продовольственном положении в колхозе.

Искусственность и политическая вредность этих организаций – землячеств очевидна.

Инструктор Культпросветотд. ЦК КПББ (Гурченко)
И.О. Директора Института литературы и языка БЕЛАН (Красневский)

*НАРБ. Ф. 4, воп. 1, спр. 1260, аа. 19 – 26. Машынапіс.*
*Публікацыя Вячаслава Селеменева*

**Ганна Запартыка**

## "Мы верылі: дахаты вернемся…"

(Пра спадчыну Адама Бабарэкі і яе шлях да Беларусі)

Пачатак красавіка 1996 г. у маім жыцці быў пазначаны паездкай у Маскву. Клопатаў было шмат: наведаць сем'і К.Т. Мазурава і М.М. Улашчыка, пабываць у Расійскім дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва, устанавіць кантакты з некаторымі ўладальнікамі асабістых архіваў. У апошні дзень, адпраўляючыся на кватэру Улашчыкаў, што недалёка ад Беларускага вакзала, у маіх руках ужо быў важкі пакунак дакументаў, атрыманых ад удавы Кірыла Трафімавіча Я.С.Мазуравай і А.К.Каўкі. Мне заставалася пазнаёміцца з бібліятэкай М.М.Улашчыка, каб па прыездзе у Мінск інфармаваць кіраўніцтва Дзяржкамархіва аб яе складзе, бо якраз тады ішла гаворка аб набыцці бібліятэкі ў Беларусь. Візіт да Улашчыкаў меў выдатны вынік. З іх кватэры, у суправаджэнні сына гісторыка - А.М. Улашчыка і А.К. Каўкі, я кіравалася да Беларускага вакзала з грунтоўным пакункам улашчыкавых рукапісаў і дакументаў, якія пасля перадала ў архіўны фонд вучонага, што зберагаецца ў бібліятэцы НАН Беларусі. Добра памятаю, што менавіта з кватэры Улашчыкаў набрала нумар Алесі Адамаўны Бабарэкі – дачкі слыннага літаратуразнаўца і крытыка, жыццё якога трагічна абарвалася ў 1938 г. Некалькі прывітальных слоў, прадстаўленне маёй асобы, абазначэнне маіх архіўных зацікаўленняў і тэлефонная слухаўка ў маіх руках. Спакойны мяккі голас, добразычлівы тон, выдатная беларуская мова Алесі Адамаўны ўраўнаважваюць маё хваляванне і робяць мае захады настойлівымі. Яна паведаміла, што ў канцы красавіка прыедзе ў Мінск на V Гарэцкія чытанні і нейкую частку архіва свайго бацькі прывязе сама. 26 красавіка 1996 г. Алеся Адамаўна разам з сваёй сяброўкай Галінай Максімаўнай Гарэцкай упершыню наведалі Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. Як і абяцала, Алеся Адамаўна перадала архіву-музею адну з унікальных частак бацькавага архіва – рукапісы, якія з невялікай часткай іншых матэрыялаў склалі агульна 234 адзінкі. Алеся Адамаўна расказала тады кранальную гісторыю пра тое, як удалося яе маці, Ганне Іванаўне Бабарэцы, зберагчы-схаваць рукапісы бацькі. "*Дакладную дату арышту бацькі мне цяжка вызначыць. Захаваўся пратакол вобыску, але якім чыслом ён адзначаны, да паўночы або пасьля яе, не магу сказаць. Па часу прыходу аператыўнікаў за бацькам быў не позні вечар, таму што мы з сястрой яшчэ гулялі з дзецьмі ў другой кватэры нашага дома. Хтосьці нас апавясціў, што трэба тэрмінова ісці дадому. Маці адразу ўлажыла мяне спаць па нейкіх сваіх меркаваннях, але адыход бацькі помню. Помню, як мы развіталіся, і ён мяне пацалаваў*[14]." Пасля Ганна Іванаўна, ужо дарослай сваёй дачцэ, расказала, што тая канапа, на якую супраць яе волі паклала "спаць" малую Алесю, мела патаемную шуфляду, у якой былі схаваны рукапісы Адама Бабарэкі.

Другое паступленне дакументаў з сямейнага архіва Бабарэкаў адбылося па завяршэнні VIII Гарэцкіх чытанняў 18 чэрвеня 1999 г., якія праходзілі ў Пінску. Гэтыя дакументы – сведчанні пра самыя трагічныя дні жыцця Адама Бабарэкі – яго лісты да сям'і пад час другога арышту з перасыльных пунктаў у Котласе, Усць-Выме, з 41-га лагпункта будаўніцтва чыгункі Комі АССР. Гэтае ж паступленне ўключала лісты Д. Дунько да Г.І. Бабарэкі з успамінамі пра апошнія дні Адама, дакументы да яго біяграфіі, аб рэабілітацыі, некалькі фотаздымкаў. Каб быць дакладнай, скажу, што гэтая частка архіва была выкарыстана даследчыкам М.М.Ількевічам у кнізе "Угасание. Письма Адама Бабареки из ссылки, тюрем и лагеря. Материалы к биографии" (Смоленск, 2001). Падрыхтоўка да друку гэтых дакументаў была ажыццёўлена даследчыкам яшчэ ў 1998 годзе, пасля чаго, будучы ўдзельнікам чытанняў у Пінску, ён і вярнуў іх захавальніцы. У Максву Алеся Адамаўна іх не павезла.

[14] Гаворка ідзе пра другі арышт А.А. Бабарэкі ў Вятцы 25 ліпеня 1937 г.

У пачатку кастрычніка 1999 г. у Беларусі быў адзначаны 100-гадовы юбілей з дня нараджэння Адама Бабарэкі: наладжана навуковая канферэнцыя, выстава “У душы гарэў святы агонь…” з выпускам каталога, паездка на Капыльшчыну, дзе нарадзіўся пісьменнік у в.Слабада-Кучынка. Прыехала на гэтае свята і Алеся Адамаўна. Ва ўступным слове да свайго даклада на канферэнцыі яна ўсхвалявана сказала, што архіў іх сям’і абяцае цалкам перадаць у дар Беларусі, а месцам яго захавання абірае Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. *“Цяпер жа, у сувязі са стагоддзем майго бацькі перадаю ў дар архіву-музею 17 дакументаў з майго сямейнага архіва.”* Гэта былі лісты Ганны Іванаўны да Адама Антонавіча за 1935 г., іншая перапіска, біяграфічныя дакументы. У канцы лістапада таго ж года я накіравалася ў Маскву, каб прывезці самую вялікую частку сямейнага архіва Бабарэкаў. Гэта былі незабыўныя для мяне дні ўспамінаў Алесі Адамаўны, шчырых, горкіх, з невымерным болем за лёс бацькі, іх сям’і, гэтакіх жа гаротнікаў сяброў і знаёмых. Кожны дакумент, кожны здымак, рукапіс, якія брала ў рукі Алеся Адамаўна, перадаваўся ў мой пакунак з дакладным апісаннем гісторыі кожнага. Надзіва трывалая памяць. Здзіўлялі добрае веданне бацькавых прац, бацькавага атачэння і падрабязнасцей яго біяграфіі. Праз тры дні гасцявання ў Алесі Адамаўны я вярталася ў Мінск з каштоўным набыткам - спадчынай, без якой зараз нават нельга ўявіць літаратурны кантэкст 1920-х – 1930-х гадоў: рукапісы А. Бабарэкі, яго запісныя кніжкі, сшыткі, лісты да А.Адамовіча, Ул.Дубоўкі, лісты А.Бабарэку ад З.Бядулі, Ю.Бярозкі, У.Дубоўкі, Я.Пушчы, К.Крапівы, М.Лужаніна, К. Чорнага і інш., фотаздымкі беларускіх пісьменнікаў 1920-х гадоў, дакументы Ганны Іванаўны Бабарэкі, дочак Элеаноры і Алесі, унучкі Алены Кім, праўнука Вадзіма Камарова – усяго каля 1000 дакументаў і асабістых рэчаў сям’і. Што тычыцца асабістых рэчаў, у архіў-музей іх паступіла 38 адзінак: гальштук Адама Бабарэкі, яго гадзіннік, шахматы і інш. Цікава, што з гэтымі рэчамі Алеся Адамаўна перадала абрус, якім, па сямейнай легендзе, накрываўся стол пад час урачыстых пасяджэнняў “Узвышша”.

Была яшчэ адна паездка ў Маскву па запрашэнні Алесі Адамаўны, восенню 2000 г., з якой былі прывезены многія рэдкія выданні з асабістай бібліятэкі А. Бабарэкі: поўны камплект часопіса “Узвышша” за 1927 – 1929 гг., часопіс “На литературном посту”, кнігі з дароўнымі надпісамі М. Гарэцкага, З. Бядулі, У. Дубоўкі, У. Жылкі, К. Крапівы, Я. Пушчы, К. Чорнага (усяго 69 кніг і часопісаў), а таксама яшчэ некаторыя дакументы. Апошні пакунак да сямейнага фонду Бабарэкаў быў дастаўлены з Масквы В.Скалабанам у пачатку 2001 г., у складзе 33 дакументаў якога знаходзілася ўнікальная бібліяграфія беларускіх пісьменнікаў, складзеная А.Бабарэкам па беларускай перыёдыцы за 1923 – 1929 гг.

Сёння сямейны фонд Бабарэкаў у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва складае 356 адзінак захоўвання, якія ўключаюць 1225 дакументаў. Навуковае жыццё і гістарычная місія перададзенага скарбу працягваецца на Радзіме, якую так любілі і шанавалі Адам і Ганна Бабарэкі, да якой заўсёды апелявалі іх дочкі Элеанора і Алеся.

Судакранаючыся з дакументамі Адама Бабарэкі з любой архіўнай ці даследчыцкай нагоды, трымаючы дробна спісаныя аркушы з яго літаратуразнаўчымі працамі, лісты ад сяброў, фотаздымкі – кожны раз апаноўвае жудасная думка, што гэтага скарбу магло не быць, усё магло загінуць у вогнішчы рэпрэсій або вайны. Папракаць ці вінаваціць некага ў гэтай страце было б нават недапушчальным. Першы арышт у 1930 г., з якім у сям’ю Бабарэкаў, як і ў многія іншыя сем’і беларускіх пісьменнікаў, прыйшло гора, а з ім разгубленасць, невядомасць, стаянні ў чэргах ля турэмнай брамы. Дні зліліся ў адну вялікую надзею і чаканне. Страху не было. Ганна Іванаўна не пусціла ў сваю душу гэта спапяляючае пачуццё, не стала знішчаць рукапісы, фотаздымкі, кнігі. Толькі бедавала аб тым, што забралі архіў “Узвышша”. У красавіку 1931 г. Адама Бабарэку асудзілі на 5 гадоў высылкі ў Ніжагародскі край. У лісце з. г. Слабадского, куды быў вывезены пісьменнік, 26 ліпеня 1931 г. ён пісаў жонцы: *“Сама лепш падумай наконт пераводу ў Маскву ці Ленінград. Я вельмі рад быў бы, каб табе ўдалося устроіцца ў адным з гэтых*

*гарадоў. То-ж і дзеці нашы ўжо падрастаюць. Ды наогул лепей было-б жыць у вялікім горадзе. Там мо крыху даражэй, затое ўсё дастаць можна. Ды думаю я, што й зарабіць можна было-б з часам лепш. Падвысіць кваліфікацыю таксама тут больш магчымасцяй. Вось гэта думка пра твой перавод у Маскву ці Ленінград мяне цяпер толькі й займае*[15]". Ганна Іванаўна выбрала іншы лёс. Рашучая і мужная, яна не раздумваючы адправілася з дзецьмі за мужам у высылку. Увесь архіў Адама Бабарэкі, да апошняга аркушыка, павезла з сабой у г. Слабадскі Кіраўскай вобласці. Летам 1934 г. Адаму Бабарэку змянілі месца высылкі і перавялі ў Вятку (Кіраў). Увосень 1935 г. Ганна Іванаўна з дочкамі, пасля таго як стала вядома, што чаканага вызвалення не будзе, што *"21 ліпеня выклікалі шэфы і паведамілі, што пастановай асобай нарады НКУС тэрмін высылкі … працягнуты на 2 гады*[16]", пераязджае да мужа ў Кіраў. Яна вынайшла магчымасці ўвесь архіў Адама Бабарэкі і сям'і надзейна хаваць ад чужых вачэй і пад час нярэдкіхператрусаў, ні на хвіліну не сумняваючыся ў яго навуковай і гістарычнай вартасці. Яшчэ доўгія гады ў кватэры Ганны Бабарэкі па вул. Свабоды 109 у Кіраве ён надзейна захоўваўся з марай пра час уваскрашэння. У 1960-я гг. Ганна Іванаўна пераехала ў Маскву да малодшай дачкі Алесі. У яе небагатым багажы галоўным скарбам быў архіў Адама Бабарэкі. Сваё надзейнае месца ён цяпер займеў на маскоўскай вуліцы Прафсаюзнай ў доме 99, пад апекай усё тых жа нязломных Ганны Іванаўны Бабарэкі і яе дачкі Алесі.

У пачатку 1970-х гадоў асабістым архівам Адама Бабарэкі пачалі цікавіцца даследчыкі. Першым, каму Ганна Іванаўна адчыніла куфрык з дарагімі памяткамі, быў абазнаны цяпер філосаф, літаратуразнавец, крытык Уладзімір Конан. Пра гэта сведчаць многія радкі яго кнігі "Адам Бабарэка". "*Невялікі, але акуратна захаваны сямейны архіў. Гэта ўсё, што асталося ад апошніх васьмі гадоў жыцця пісьменніка.*

*Перачытваю пісьмы, запіскі, канспекты, пераклады, успаміны родных і блізкіх пісьменніка – і паўстае вобраз чалавека вялікай душы, поўнага любасці да людзей, да літаратуры і працы, да ўсяго добрага і прыгожага на зямлі*[17]." У названай кнізе У.Конана мы ўпершыню ўбачылі сямейныя і асабістыя здымкі А.Бабарэкі, даведаліся пра ненадрукаваныя літаратуразнаўчыя працы.

Бывалі ў Маскве на Прафсаюзнай 99 С.П.Шушкевіч, якому Г.І.Бабарэка перадала некалькі здымкаў і якія захаваліся ў яго архіве, К.С.Жорава, дырэктар Цэнтральнага архіва літаратуры і мастацтва. Але Ганна Іванаўна тады яшчэ неахвотна, а хутчэй з вялікай асцярожнасцю і далёка не ўсім, адчыняла таямніцы архіўных шуфлядак. Толькі на зыходзе дваццатага стагоддзя, якое застанецца ў гісторыі нашага народа цяжкім болем войнаў, рэпрэсій, выгнанняў і светлымі уздымнымі перыядамі адраджэння, хоць і бліскавічна кароткімі, здзейсніцца вяртанне ў Беларусь архіўнай спадчыны яе адданага сына Адама Бабарэкі.

Усмешкі чыстых рос на верасе,
Мы верылі: дахаты вернемся[18].

Гэта радкі з верша "Равеснікам" блізкага сябра Адама Бабарэкі паэта Язэпа Пушчы, які падзяліў з ім лёс выгнанніка. Напісаў у 1957 г., калі ўжо цвёрда ведаў, што вяртанне на радзіму адбудзецца… Але пашчасціла адзінкам. Многія не вярнуліся, сышлі ў эпоху невядомыя і забытыя, напоўніўшы яе адным вялікім аглушальным стогнам. Не вярнуўся і выдатны беларускі крытык Адама Бабарэка. Верыў, спадзяваўся на сустрэчу з роднымі, сябрамі, радзімай… Толькі вера саграvала спакутаваную душу да апошняга.

І ўсё ж вяртанне адбылося. Цяпер прыйшоў час сплочваць даўгі.

Наш абавязак – вывучыць, асэнсаваць і зрабіць усё магчымае, каб гэтая спадчына была выдадзена і стала даступнай кожнаму.

---

[15] Ф. 407. Воп. 1. Адз.зах. 109. С. 4.
[16] БДАМЛМ. Ф. 26 (Язэп Пушча). Воп. 1. Адз.зах. 53. С. 6.
[17] У.М. Конан. Адама Бабарэка. Мн., 1976. С. 120.
[18] Язэп Пушча. Збор твораў у двух тамах. Т. 2. Мн., 1994. С. 89.

**Мікалай Шчакаціхін – Уладзіміру Пічэту**

2 февраля 1939 г.

<…> Я не мечтаю сейчас ни о чем большем, не стремлюсь в крупные центры: меня удовлетворила бы самая маленькая, самая скромная научная работа, где угодно в провинции, - хоть самым младшим научным сотрудником какого-либо исследовательского учреждения; готов хоть вновь начинать научную карьеру с ассистента, как 17 лет назад – лишь бы только опять иметь возможность всецело отдаться любимому труду. Я еще не стар – мне только 42 года, хотя организм мой ослаблен болезнью, может быть мне осталось уже не так долго жить, но я чувствую в себе творческие силы. С какой радостью отдал бы я последние годы своей жизни любимой работе и, может быть, успел бы еще принести какую пользу науке. А сейчас я вынужден, ради куска хлеба, отдавать все свое время и силы педагогическому труду и у меня остаются буквально только крохи времени, чтобы присесть иногда к столу для научных занятий…

Мой адрес: Башкирская АССР, п/о Комтовка Геглинского р-на, 35 км от ж/д.

*Архіў Расійскай Акадэміі. Ф. 1548, воп. 3, адз. 244, а. 5. Аўтограф.*

## Мікалай Улашчык – Наталлі Шамарынай

2.XII.1942 г [Златауст]

Дорогая Наташенька,

Пишу тебе из одного домишки на проклятой златоустовской горе. Думал написать по такому поводу веселое письмо, но вышло несколько иначе. Во-первых, и вышел я довольно дохлый после больницы, а вчера еще сломал у ключицы правую руку, настоящая проверка будет только заврта в Бугульме, т.к. я уезжаю туда сегодня вечером на постоянное жительство. Оттуда ближе к тебе и жизнь легче. Но все это пустяки. Рука скоро заживет, а вчера фельшер даже уверяла, что она вообще цела. Все к лучшему. Деньги пока есть, затем продали, что можно. 29/XI послал тебе телеграмму.

Привет.Целую. Очень желаю видеть.

Николай.

## Мікалай Улашчык – Ніне Улашчык

Нина,

Вчера звонил Слава [Бялькевіч]. Сообщил о смерти Янки [Бялькевіча]. Вечером звонил еще раз, когда меня не было дома. Разговаривал с Наташей, сказал ей о причинах смерти. Янка спал с открытой форточкой или окном, а по утрам обтирался холодной водой и простудился. Началось двустороннее воспаление. Очевидно, одно время было улучшение, так как Слава приезжал на два или три дня в Москву. Здесь он проходил по конкурсу на новое место работы. Слава прошел и сейчас будет старшим научным сотрудником.

Третья смерть за один год. Мне трудно написать тебе что-либо такое, чтобы тебе помогло. Думаю, что ты теперь вспоминаешь с горечью о своей так трудно прожитой жизни. Как мало было радостей и как много, бесконечно много беды. А когда все стало несколько налаживаться, посыпались уже непоправимые удары.

Слоўник Янки остался неизданным. Крапива одеревенел и не захотел ничего сделать. Судник, директор Института, признал, что работа сделана как следует, но тоже отступился. <…> Я был так ошеломлен известием о смерти, что о слоўнике вспомнил только сегодня. Вообще нужно было сказать Славе, чтобы он привез рукопись сюда. Я уже раньше был в Институте языка здесь и разговаривал в отношении издания, но мне сказали, что у них нет возможностей. Думаю, что сейчас, когда автора нет в живых, одно из основных препятствий отпадает. Буду долбить начальство, требовать издания. Из-за этого следует походить, так как это единственный реальный памятник человеку.

Прости, что в такой трудный час у меня не находится слов, чтобы сказать тебе все, что чувствую в этот час.

[1960 г.]

**Александр Вазнясенскі – Аляксандры Пічэта**

31/VII[19]47
г. Сочи, санаторий «Кавказская Ривьера»
(до 21/VIII)

Дорогая Александра Петровна!

Ушел от нас дорогой и незабываемый Владимир Иванович. В последний раз я виделся с ним у Вас на квартире на Остоженке в 1944, а затем тогда же встретился с ним в районе Ленинской библиотеки и долго говорили с ним. Он в моих глазах остался таким же, каким я его впервые увидел в сентябре 1921 г. в Минске. Он был добр и жизнерадостен, говорил о своих [планах?] и негодовал (совершенно справедливо!) на своих недоброжелателей. Трудно было предполагать, что менее, чем через три года его уже не будет среди нас.

Я был несказанно рад, когда узнал об избрании его действительным членом Академии Наук. Я буквально торжествовал: ведь он и только он был связан с нашим поколением, знал, понимал его и всегда неизменно поддерживал его <…>.

Как жаль, обидно жаль, что Владимир Иванович не успел показать свой творческий размах в звании академика.

Я был крайне обижен, когда в некрологе не нашел упоминания на одну из главнейших заслуг Владимира Ивановича, на его главное и руководящее участие в создании Белорусского университета и поставил его на прочные научные основы. Он создал колыбель белорусской культуры. Я убежден, что история восстановит истину и полностью во всем объеме покажет роль и значение Владимира Ивановича…

*Там сама. Ф. 1548, воп. 4, адз. 67, а. 1—1адв. Аўтограф.*

**Мікола Ермаловіч**

**Маскоўскаму таварыству беларускай культуры імя Ф.Скарыны.**

БАГАТАГА ПЛЁНУ Ў ПРАЦЫ ВАМ, БЕЛАРУСЫ МАСКВЫ!

Заснаванне Маскоўскага таварыства беларускай культуры імя Францыска Скарыны – гэта выключна важная падзея, якую трэба горача вітаць, бо яна з'яўляецца яшчэ адным яскравым паказчыкам нацыянальнага ўздыму беларусаў, які адбываецца ў апошні час. Адначасова гэта яшчэ адно абвяржэнне злосных домыслаў, што беларусы з лёгкасцю забываюць сваю Радзіму і безваротна адракаюцца ад сваёй культуры і мовы.

Беларусы Масквы і Падмаскоўя, утварыўшы свой культурны асяродак, гэтым самым узнавілі даўнюю традыцыю беларусаў, якія, апынуўшыся за межамі сваёй Бацькаўшчыны, захоўвалі моцную духоўную сувязь з ёю. У гэтых адносінах варта прыгадаць, як група беларускіх рэвалюцыйных студэнтаў на мяжы 80-90-х г.г. мінулага стагоддзя ў цяжкіх умовах Бутырскай турмы ўтварылі Першы Беларускі Гурток Моладзі ў Маскве, які ставіў сваёй мэтай будзіць нацыянальную свядомасць /Ядвігін Ш. Выбраныя творы. Мн. 1976, с.288/. Гэта высакародная традыцыя паспяхова працягвалася ў дарэвалюцыйны час, а таксама ў 20-я гады і была вынішчана ў сталінскае бясчассе.

Вельмі сімвалічна, што Маскоўскае таварыства беларускай культуры носіць імя Ф.Скарыны, тытанічная дзейнасць якога хаця і праходзіла па-за межамі Беларусі, аднак неацэнна ўзбагаціла яе асвету і навуку. Цвёрда ўпэўнены, што велічная постаць гэтага Беларуса будзе заўсёды жывым прыкладам у дзейнасці беларусаў Масквы. Хочацца пажадаць ім, каб яны, будзячы самасвядомасць сваіх шматлікіх землякоў, далучаючы іх да актыўнага нацыянальнага жыцця і робячы свій важкі ўклад у духоўную скарбніцу Радзімы, гэтым самым плённа жывілі магутную плынь БЕЛАРУСКАГА АДРАДЖЭННЯ.

29.04.1989, г.Маладзечна
Подпіс (аўтограф): Мікола Ермаловіч

*Беларускі дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва. Ф.340*

**Масей Сяднёў – Юрку Туронку**

Глыбокапаважаны Спадар Туронак,

Што і казаць, Вашая кніга "Беларусь пад нямецкай акупацыяй" зрабіла на мяне глыбокае ўражаньне сваім праўдзівым, сапраўды навуковым выкладам падзей і такой жа бескампраміснай ацэнкай падзей. Што ж тычыцца беларускага пытаньня падчас акупацыі, дык без Вашай кнігі яго нельга было б нават уявіць. Вы надалі гэтаму пытаньню цэласьць, аформілі, узьнялі яго, без Вашай кнігі гэтага пытаньня проста не існавала б, яно заставалася б аморфным, у нейкіх неасэнсаваных эпізодах, фрагмэнтах. Вашая кніга для мяне, што заставаўся на ўзбоччы – цэлае адкрыцьцё. Шчыра-шчыра дзякую.

З пашанай,
М.Сяднёў. 8.12.95 г.

P.S. Вялікая падзяка Вашай дачцы за надасланьне кнігі. Яна не падала свайго адрасу, і я ня мог ёй адудзячыцца. М.С.

*Асабісты архіў Ю.Туронка*

## СКАРЫНАЗНАЎЧАЯ АНКЕТА

**Кірыл Мазураў**

Масква, ліпень 1985

Паважаны таварыш Каўко,

Прабачце, што са спазненнем адказваю на Вашу да мяне просьбу. Нажаль, я не магу сказаць аб Францішку Скарыне штосьці новае, Вам невядомае. У мяне аб гэтым нашым выдатным першадрукары толькі хрэстаматыйныя веды. У юнацтве я не вывучаў літаратурную беларускую мову і таму пазнаёміўся са спадчынай Скарыны толькі тады, калі быў ужо на адказных пасадах на Беларусі і займаўся справамі беларускіх пісьменнікаў. Тое-сёе паведаў мне аб Скарыне Пятрусь Броўка, з якім мы сябравалі.

Што датычыцца творчасці Скарыны, то я яе глыбока не вывучаў, знаёміўся толькі з перакладам Бібліі. З гэтага мне цяжка зрабіць аналіз яго гістарычным і філасофскім поглядам, адказаць на Вашы пытанні.

Адно скажу, што Францішак Скарына - вялікі асветнік і гуманіст. Яго дзейнасць у кнігадрукаванні, у станаўленні літаратурнай беларускай мовы, у патрыятычным, эстэтычным і маральна-этычным выхаванні сваіх сучаснікаў вельмі карысна.

Навогул, роля Францішка Скарыны ў росквіце агульнаславянскай і асабліва ўсходнеславянскаай культуры выдатная, і нашай моладзі трэба вывучаць яго спадчыну.

Ваш намер дасканала вывучыць спадчыну Скарыны і расказаць аб ёй нашым сучаснікам заслугоўвае ўсялякай падтрымкі і глубокай падзякі.

З добрымі пажаданнямі і з павагай да Вас,

*К. Мазураў, Аўтограф*
*БДАМЛіМ, ф.340*

***

**Францішка Сакалова (Прага)**

29.8.[19]86
Многоуважаемый Алексей Константинович!

Я получила Ваше письмо и анкету. Попробую ответить на Ваши вопросы. Прежде всего, извините, что я не способна отвечать на Вашем родном языке, и за ошибки в русском. И за то, что мои ответы будут слишком абстрактными.

О Скорине я кое-что узнала уже в то время, когда училась на философском факультете Карлова университета. Я окончила факультет в 1960 году. Но только много лет спустя, когда я уже несколько лет работала в Славянской библиотеке, начала интересоваться историей книгопечатания. (Я изучала русский, чешский и испанский языки и сначала работала в издательстве.) Тогда мне пришлось познакомиться поближе с творчеством этого славного Белоруса.

Оригинальное издание Скорины я видела уже в 1969 году на выставке истории чешской книги в нашей ГБ ЧСР: там был экземпляр Библии Скорины (Сираха), подаренный в 1867 году Национальному музею в Праге А. Безсоновым, библиотекарем Московского университета. Никакого особого впечатления у меня не было.

Позже, когда я уже занималась описанием кирилловских и глаголических изданий и имела какое-нибудь представление об изданиях Скорины, я могла держать этот самый

экземпляр в руках, и у меня все время было то же впечатление: что-нибудь курьезное, странное. Книга была в переплете 19 в.; экземпляр был дефектным; бумага была очень истерта, буквы бледные. Сохранилась только 1 заставка на л. 5, у которого на оборотной странице нет печатного текста. Этот лист оказался литографической подделкой 19 в. А именно этот лист показывают на всех выставках, так как с него книга начинается.

Какое было мое удивление, когда я увидела фрагменты Книги судей (найденные П. Покорным в 1977 г. в переплете вроцлавского происхождения), реставрированные нашей консервационной мастерской. Эти листы выглядели как недавно напечатанные, и на первый взгляд было ясно, что перед нами издание первостепенного печатника, который принадлежал к лучшим своего времени. Я помню удивление, с которым профессор д-р Эмма Урбанкова (научная работница Отдела рукописей ГБ ЧСР и специалист по истории чешского книжного дела) смотрела на принесенные мной репродукции гравюр скорининской Библии. Качая головой, говорила: «Тогда? В Праге? Знаете ли вы, сколько это стоило?» Нет, в то время так пышных чешских изданий в Праге не было. Другие фрагменты Библии Скорины, с резьбами по дереву, я увидела в Вроцлавской УБ. Гравюры привели меня в восторг. Я начала заниматься Скориной, личность и творчество которого меня интересуют до сегодняшнего дня.

Я не считаю себя компетентной судить о том, которая из активностей Скорины имела найбольшее значение для Вашего народа. (По моему убеждению, он не был ни печатником, ни гравером.., все-таки он сделал достаточно много работы для того, чтобы показать себя полигистором! Почему отрывать от себя создание литературного языка, книгопечатание, мораль, патриотизм и личность? Не могу понять, как можно было бы установить, что из этого есть более важным. По-моему, у Скорины, синтетичной и синтетизирующей личности ренессанса, все это в гармонии и логически одно с другим зависит, одно из другого истекает. Гусовский расширял славу своей родины на латинском языке. Скорина понял, что надо обрабатывать язык, и он был тоже поэтом. Стихи обоих для нас в конце XX в. звучат уже отдаленно. Гусовского могут считать поляком, Скорину нет. Впрочем, тут нельзя сравнивать. Скорина не был ни Лютером, ни Кохановским, ни Коменским, и на первый поверхностный взгляд ничего особенно нового не сотворил. А все-таки мне кажется, что он был гениальным. Он в свое время сделал для дальнейшего развития своего народа все, что он считал нужным и возможным. Хотя его деятельность и его жизнь не была вполне удачной, все-таки есть, может быть, и успехи, которые появляются только через столетия.

Хотя о Скорине было уже так много написано с точки зрения популяризации и науки, все-таки нет еще в наше время подобной работы, как диссертация Владимирова, за сто лет уже во многом устаревшая. Очень много работы сделано филологами и историками книги… Графика еще ждет исследования в европейском контексте.

По моему мнению, лучшему изучению и пониманию творчества Скорины могло бы послужить переиздание его текстов (напр. 2-е издание Прадмов и послясловий) с параллельным текстом и комментарием на каком-нибудь иностранном языке, а прежде всего юбилейное факсимильное издание некоторых из книг Библии, или целой Малой подорожной книжницы, чтобы получилось красивое и сомкнутое логически издание, с красивыми иллюстрациями. Или же альбом, но по альбому не возможно достигнуть такого впечатления аутентичности.

Уважаемый Алексей Константинович, посылаю Вам оттиск своей статьи о Скорине, в которой между прочим опубликованы материалы из архива Пражского замка. Из них истекает, что королевский садовник Франциско и был Скорина. Этот «италианский» садовник был садовником в «италианском» саду, т. е. выращивал лимоны и т. д., и никакого ботаника ни ботанического сада, ни другого Франциска в королевском саду в то время не было. Статья может кому-нибудь понадобиться.

С дружеским приветом,

Ф. Соколова

*БДАМЛіМ, ф.340*

**З пабратымчых лістоў.**

**Уладзімір Дарагуж**

г.Чэрвень, 20 верасня 2007 г.

Даражэнькі Аляксей!

З юбілеем цябе, наш харошы. Зычу табе доўгіх гадоў жыцця. Так, мы дажылі да ўзросту, калі такое пажаданьне дарэчы. Ну, яшчэ паўстолькі жыві ў здароўі, і хай з табою заўсёды будзе ўдача і плён творчы.

Дадатак (арыгінал) і асноўны матэрыял (копія) захоўваюцца ў бібліятэцы, у Галі Ніціеўскай, у асобнай папцы. Прыедзеш, зойдам, забярэм, што трэба.

Перад тым, як прыехаць, паведамі. Да гэтага тэрміну дзяўчаты прымяркуюць чарговыя краязнаўчыя чытаньні. А "Ветразь" правядзем без цябе, але з табою ў душы.

А грыбоў сёлета няма. Учора езьдзіў пад Дуброву. Такія месцы! І ўсяго з паўвядра: масьлякі, сыраежкі, бабкі. Баравікоў і краснагаловікаў няма і ў паміне.

Ну, усяго самага лепшага. Да сустрэчы.

Пацалуй за мяне спадарыню Зосю.

Валодзя.

***

**Генадзь Кісялёў**

12.03.08

Твой сімпатычны матэрыял пра Халімона*, здаецца, паспеў учапіцца за хвост будучай кнігі з матэрыяламі канферэнцыі ["Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч у еўрапейскім кантэксце"]. "За хвост" амаль літаральна, бо збіраюцца яго надрукаваць не "папераду", як звыклі мы трактаваць масквічоў, а недзе ззаду, каб не парушаць вёрстку.

Мы з Чамярыцкім тэкст твой пакрыху, злёгку апрацавалі, Мархель даў новую спасылку на А. Міцкевіча (твая была не зусім зразумелая), Запартыка арганізавала набор, Яніна [Кісялёва] вычытвала... Бачыш, колькі ў цябе добразычліўцаў-"спатужнікаў", калі ўжыць словы Ластоўскага.

Адно сумна - Інстытута літаратуры ўжо няма. Кніга выйдзе пад грыфам "Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі" - такую структуру прыдумалі нашы хвацкія мудрацы. Сабе ва ўзнагароду бюракраты адхапілі нашы памяшканні. Нас з галоўнага корпусу Акадэміі выганяюць. Будзем перабірацца да мовазнаўцаў.

Прывітанне Зосі - цярплівай музе маскоўскага самотніка.

---

* Халімон у Маскве. Быліца В. Дуніна-Марцінкевіча

**Юрка Туронак**

13.03.2008

Дарагія Алесь і Соня!

Прабачце, што пішу мала і рэдка, што не заўсёды магчыма з увагі на хваробу. Змагаюся з ёю, як магу, бывае ж вельмі дрэнна, амаль зусім не працую, але вось у апошнія дні, здаецца, пачынае праясняцца цяжкае становішча. Каб так далей!

З найлепшымі пажаданнямі

Юрка

***

**Аляксей Пяткевіч**

15.04.2008

Не знаю, ці чытаеш нейкую нашу прэсу. “Наша Ніва” нядаўна пісала пра скандал у Гродне, звязаны з маштабна задуманай новуковай канферэнцыяй, прысвечанай 889-годдзю горада. Нехта выкінуў з праграмы даклады А.Краўцэвіча і А.Смаленчука (як дысідэнтаў, вядома). Тады астатнія, заяўленыя, учынілі абструкцыю і не прыехалі з іншых гарадоў (амаль), не прышлі і гродзенцы (значыўся і мой даклад пра развіццё перыёдыкі ў Гродне ў 20-30-я гг.). Вялікая акцыя з удзелам афіцыёзу, па сутнасці, сарвалася. А ўвогуле ціша ў нас, сумна.

Хораша, праўда, пісалі Усебеларускую дыктоўку, на нейкім незвычайным уздыме духу. Садзіліся за сталом па чарзе (па чалавек 30-40) і гэтак прапусцілі недзе 280 асобаў…

***

**Николай Янчук**

## Последнее желание

Когда я умру, не кладите меня на высоком видном месте, где проходит много людей; там не будет мне покоя и злой человек, идя мимо, может и осудить меня. Схороните меня в уголке сельского кладбища, в желтый песок, рядом с моим отцом. Камень, что я поставил на его могиле, прикроет и мое грешное тело, а высокий вяз ласково раскинет над ним свои ветви. Там ничей дурной глаз меня не увидит, а добрые люди, если найдут, то тихо поплачут. Я был не хуже и не лучше других; таких людей миллионы и меня не за что помнить…

*ЦДАЛІ РФ. Ф. 126, воп. 1, адз. 37, а. 10 адв.*

## ІЛЮСТРАЦЫІ

1. “Мілыя вобразы роднага краю”. Паштовае прывітанне ў Маскву Ул.Дарагужа (г.Чэрвень, былы Ігумен)
2. Бутырская турма. “Ой, ляцелі гусі ды з-пад Белай Русі…” – адсюль, з-за кратаў, прагучэла песня беларускіх студэнтаў у Маскве (1888), пазней выдаўцоў кніжачкі “Сыгнал” (1891)
3. Атэстат Івана Луцкевіча
4. Фотакопія “Дела” І.Луцкевіча. *Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі*
5. А.Твардоўскі ў вызваленым Мінску. Ліпень 1944 г.
   Паводле: Твардовский А. «Я в свою ходил атаку..». М.: Вагриус, 2005
6. Браты Гарэцкія Радзім і Усяслаў.1977 г.
7. Алена Васілевіч, Янка Брыль, Васіль Быкаў. Масква [1960-я гг.]
8. Дарчыя надпісы Васіля Быкава
9. Аўтограф ліста Кірылы Мазурава
10. 100-я ўгодкі Мікалая Улашчыка. Вечарына ў Маскоўскім Доме нацыянальнасцей. Люты 2006 г. (злева-направа: Алесь Кажадуб, Ганна Багуліна, Рыта Бурсава, Аляксей Каўка, Віктар Чайчыц, Зося Астроўская, Іван Бурсаў)
11. Беларусы ў Маскве ля помніка Янку Купалу (скульптар Леў і Сяргей Гумілеўскія) на Кутузаўскім праспекце сталіцы. 8 ліпеня 2008 г. Фота А.М.Улашчыка
12. “Трывайце мужна волат вольны..”. Ніл Гілевіч, Вольга Іпатава, Алена Арэшка, Уладзімір Конан, Уладзімір Содаль. Сядзіба БНФ. Верасень 2006 г.
13. У Беларускім Доме-Храме (БДАМЛіМ). Аўтары, спрыяльнікі “Скарыніча” – Ганна Запартыка, Таццяна Кекелева, Алесь Петрашкевіч (першы рад), Алеся Гесь, Валянціна Данекіна, Святлана Буель, Настя Чэрнік-Рамашэўская, Уладзімір Дамашэвіч, Разалія Александровіч, Ірына Якавенка, Яніна Кісялёва, Міхась Скобла. Кастрычнік 2007 г.
14. Ганна Багуліна і яе першыя вучні ў Маскве на занятках беларускай мовы

## ЗВЕСТКІ АБ АЎТАРАХ

**Аскоцкі** (Оскотский) Валянцін (нар. 1935 г.), пісьменнік, літаратурны крытык. Жыве ў Маскве

**Багуліна** Ганна (нар. 1959 г.), працаўнік культуры. Жыве ў Маскве

**Барадулін** Рыгор (нар. 1935 г.), народны паэт Беларусі. Жыве ў Мінску

**Бурсаў** Іван (нар. 1927 г.), паэт, перакладчык, эсэіст. Жыве ў Маскве

**Быкава** (Быкова) Наталля (нар. 1937 г.), журналіст, рэдактар. Жыве ў Маскве

**Гарэцкі** Радзім (нар. 1928 г.), акадэмік, доктар геолага-мінералагічных навук, прафесар, лаўрэат дзяржаўнай прэміі Беларусі. Жыве ў Мінску

**Гілевіч** Ніл (нар. 1931 г.), народны паэт Беларусі. Жыве ў Мінску

**Запартыка** Ганна (нар. 1956 г.), філолаг, архівіст, дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музею літаратуры і мастацтва. Жыве ў Ратамцы, каля Мінска

**Кажадуб** Алесь (нар. 1952 г.), пісьменнік. Жыве ў Маскве

**Ласкоў** Іван (1941-1994), паэт, перакладчык, эсэіст. Пахаваны ў Якуцку

**Праневіч** Генадзь (нар. 1950 г.), літаратуразнавец, паэт. Жыве ў Брэсце

**Салавей** (Соловей) Таццяна (нар. 1962 г.), доктар гістарычных навук, дацэнт кафедры этналогіі гістарычнага факультэта МДУ. Жыве ў Маскве

**Солапава** (Солопова) Аксана (нар. 1973 г.), кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры этналогіі гістарычнага факультэта МДУ. Жыве ў Маскве

**Чайчыц** Віктар (нар. 1961 г.), палітолаг-міжнароднік, кандыдат палітычных навук. Жыве ў Маскве і Мінску

**Чайчыц** Алесь (нар. 1984 г.), эканаміст-міжнароднік, публіцыст. Жыве ў Маскве

**Шаўлякова** Ірына (нар. 1972 г.), літаратурны крытык. Жыве ў Мінску

**Шэгідзевіч** Якуб (нар. 1937 г.), матэматык, праграміст, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР. Жыве ў Маскве.

